

# Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

1 мая 1998 г. | № 18/3946 | Кошт 4 000 руб.





*Станіслаў ЧАРНЯЎСКІ ў "святая святых" аргана.*

# А Майстру — трывожна...

## 35 ГАДОЎ ТАМУ Ў ВЯЛІКАЙ ЗАЛЕ СТАЛІЧНАЙ ФІЛАРМОНІІ БЫЎ УСТАНОЎЛЕНЫ КАНЦЭРТНЫ АРГАН

***Магутны, велічны інструмент адразу зрабіўся гонарам нашай сталіцы. І вось ужо больш як тры дзесяткі гадоў выканаўцы з-за мяжы і нашы беларускія арганісты радуюць сваёй ігрой аматараў музыкі. За ўсе гэтыя гады ніводны канцэрт, я падкрэсліваю — ніводны, не змог бы нават пачацца без чалавека, якога слухачы і гледачы амаль ніколі не бачаць. Толькі дзякуючы ягонаму майстэрству і таленту мы маем магчымасць слухаць арган у Мінску.***

***Імя Майстра — Станіслаў Мацвеевіч ЧАРНЯЎСКІ.***

***На працягу многіх гадоў мы сябруем. І вось з'явілася задума напісаць пра гэтага апантанага чалавека, распавесці пра клопаты даглядчыка аднаго з найвялікшых арганаў у Еўропе.***

**— Спачатку трохі гісторыі: як трапіў ураджэнец Ашмяншчыны Станіслаў Чарняўскі ў Мінск?**

— Я працаваў у Вільні ў Літоўскім тэатральным таварыстве. Там існавала фабрыка, на якой рабілі арганы, мяхі, трубы для арганаў. Я рабіў там 10 гадоў. І аднойчы мяне запрасілі ў Мінск, дзе рыхтаваліся адкрыць новы будынак філармоніі і збіраліся ўстанавіць там арган. І мне прапанавалі зрабіць з двух старых касцельных арганаў адзін, каб паставіць у зале філармоніі. Я параіў не рабіць гэтага, а заказаць новы арган — канцэртны, хаця б таму, што старыя арганы не адпавядаюць патрабаванням залы філармоніі. Новыя арганы робяць у Польшчы, Германіі, Чэхаславакіі; Мінск усё ж такі сталіца Беларусі... І ўрэшце зрабілі, як мае быць — заказалі ў Чэхаславакіі новы арган: 4 мануалы (клавіятуры), 107 рэгістраў, 4 камбінацыі на адзін рэгістр, 6,5 тысячы труб, з якіх самая маленькая — велічынёй з аловак, а самая вялікая — 8 метраў вышынёй і дыяметрам з бочку.

Калі гэты арган прывезлі ў Мінск на Таварную станцыю, у філармонію паведамілі: "Прыязджайце, забірайце ваш арган, ён займае 6 вагонаў!"

Дырэкцыя затурбавалася, куды ж яго змясціць. А разам прыехала з Чэхаславакіі брыгада майстроў для ўстаноўкі аргана. Зайшлі яны ў залу філармоніі — а там яшчэ будоўля ідзе. Майстры здзівіліся, чаму не падрыхтаваная сцэна, але рабіць не было чаго і яны мусілі паехаць дадому. Арган, трубы, скрыні з механізмамі паклалі ў оперным тэатры ў склеп.

Калі сцэну ў філармоніі падрыхтавалі, тэлефанавалі чэхам: "Усё гатова". Яны прыехалі, і мы разам пачалі ўстанаўліваць арган. Пасля ўстаноўкі мяне запрасілі ў філармонію працаваць майстрам гэтага аргана. З тае пары з ім і жыву. Наогул, прыцягненне да гэтага інструмента ў мяне з маленства. Хадзіў з мамай у касцёл і ўсё хацеў зазірнуць, дзе тыя трубы, адкуль такі дзівосны гук бярэцца: нават арганісту граць замінаў...

**— А хто першы граў на новым мінскім аргане?**

— Першыя канцэрты даваў прафесар Іржы Рэнбергер з чэшскай фірмы "Рыгер Клос", якая зрабіла і ўстанавіла наш арган. Падчас канцэрта здарылася прыгода: згарэў механізм, што запускае арган (ён у нашай філармоніі электрычны). Што рабіць? Адмяняць канцэрт? Я знайшоў дошку і... гэтай дошкай арган запускалі. Аказалася — фірмовы магнітны пускацель не вытрымлівае нашага электранапружання. Тады я сам зрабіў новы пускацель, адпаведны нашым умовам.

Першым з айчынных выканаўцаў быў Алег Янчанка. Ён прыехаў у Мінск адразу, як паставілі арган, і працаваў тут на працягу 10 гадоў. З ім таксама здарылася прыгода. Праз месяц працы аргана, напярэдадні аднаго з канцэртаў, Янчанка рэпеціраваў — і раптам грукат. Што здарылася? Пайшоў я на трэці паверх аргана — гляджу: мама родная! Абвалілася столь. Гавару Алегу: "Не вытрымала столь тваіх рэпетыцый — абвалілася." Ён спужаўся, кажа: "Што рабіць?" Выклікаюць інжынера, які адказваў за будаўніцтва сцэны. Усе перапалохаліся: трэба чэхаў выклікаць, гэта значыць, у Маскву тэлефанаваць, бо там пасольства. Арган новы, давядзецца шмат грошай плаціць за рамонт. Скандальная сітуацыя! Усе тады да мяне: "Станіслаў, зрабі што-небудзь!" Я прыбраў трубы, узяў пыласос, вынес шэсць тазікаў смецця, потым кожную трубу выраўняў, вычысціў, зрабіў з фанеры столь, стойкі пад яе. Гэтая "ахоўная" столь над арганам і цяпер. Але тынкоўка час ад часу валіцца і чуваць, як яна стукае па той фанеры.

*(Працяг на стар. 4)*

***Чарнобыль сярод памятных дзён Беларусі — гэта "Кастрычнік наадварот". Па савецкім часе да кожнай гадавіны бальшавіцкага перавароту ладзіліся справаздачы на тэму "Жить стало лучше, жить стало веселей". Цяпер жа кожны год 26 красавіка мы падлічваем бэры, якіх нахапаліся за "справаздачны перыяд", высвятляем, у колькі разоў паменшыліся выплаты і кампенсацыі ахвярам катастрофы, колькі забруджаных радыяцыяй гарадоў і вёсак афіцыйна пераведзены ў лік "чыстых" і ўвогуле канстатуем відавочны факт — жыць стала горш і падстаў для весялосці няма ўвогуле. Савецкая гісторыя фактычна акрэслена стрэлам "Аўроры" і выбухам у Чарнобылі. Некалькі год фармальнага існавання СССР ад Чарнобыля да Віскулёў можна ў разлік не браць. Гэта была ўжо агонія. Але, як напісана ў старой мудрай кнізе: "Мёртвыя хапаюць жывых". Мёртвая імперыя яшчэ жыве ў свядомасці людзей. Для іх СНД — той жа самы СССР, толькі пад другой назвай.***

***Гэтымі днямі ў Маскве палітыкі СНД "гуляюць у СССР", абмяркоўваюць рэарганізацыю СНД. Якраз пасля чарговай чарнобыльскай гадавіны... Няўжо незразумела, што рыса пад СССР была падведзена яшчэ 12 год таму?***

## ВЫСТАВА ТЫДНЯ

Музей сучаснай беларускай скульптуры імя А. Бембеля. Выстава твораў Юрася Анушкі. Скульптар нарадзіўся ў 1963 годзе, у 1990 — скончыў БелАМ. Пачынаў у рэчышчы рэалізму, зараз аддае перавагу філасофскай абстрагаванасці. Назвы твораў "Прагулка па рацэ", "Уцякач", Танец" і блізка не маюць нічога агульнага з асацыяцыямі, што пры гэтых словах найперш прыходзяць на розум. Яго творы ўвогуле можна ніяк не называць — як, напрыклад, не мае патрэбы ў назвах вада, аблокі, камяні і дрэвы. Ягоныя творы — гэта формы, запазычаныя ў прыроды і "адшліфаваныя" чалавечай свядомасцю.

## СУСТРЭЧЫ ТЫДНЯ

24 красавіка ў галерэі "Шостая лінія" адбылася сустрэча з польскім мастаком Даніэлем Казакевічам, які прадставіў сваю выставу фотакалажоў "Вандроўка з дэманам". Кампазіцыі дапоўнены шматслоўнымі і шматзначнымі тэкстамі. Фрагменты краявідаў, партрэтаў і нацюрмортаў, абсурдным чынам спалучаныя, ствараюць карціну, якая аднačасова прыцягвае і палохае. Карціну прывабную і агрэсіўную. Аўтар спрабуе спалучыць універсальнае і асабістае, канкрэтыку і абстракцыю. Калажы Даніэля Казакевіча можна разглядаць бясконца, але ў вялікай колькасці ягоныя творы стамляюць. Арганізатар выставы — Польскі інстытут у Мінску.

## ЛІЧБА ТЫДНЯ

За апошнія 20 гадоў колькасць вёсак у Беларусі скарацілася амаль на паўтары тысячы, і працэс гэты не спыняецца. Сялян у нашай краіне становіцца ўсё меней. За кошт тых, хто пакідае вёску, павялічваецца колькасць гарадскога люмпену.

## ПЕРАЕЗД ТЫДНЯ

Рэспубліканскі дыспансер радыяцыйнай медыцыны, дзе лекаваліся жыхары пацярпелых ад Чарнобыля раёнаў і ліквідатары наступстваў катастрофы, павінен пераехаць у іншае месца. Дзесяць гадоў ён месціўся ў цэнтры Мінска на вуліцы Чырвонаармейскай — цяпер будзе па вуліцы Макаёнка. Новы ўладальнік будынка на Чырвонаармейскай — Кіраўніцтва справамі Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі.

## РЭПЛІКА ТЫДНЯ

Сябра суполкі "Пагоня" мастак Уладзімір Крукоўскі выступіў у "Свободных новостях" (N 16) з рэплікай на публікацыю газет "Культура" за 4—10 красавіка і "Белорусской деловой газеты" за 2 красавіка, у якіх пра выставу "Зямля Палесся" апавядалі чыноўнікі Міністэрства культуры спадары Уродніч і Гедройц. Прыгаданыя спадары абвінавацілі "ЛіМ" у неаб'ектыўнасці, а суполку "Пагоня" ў палітыканстве. Уладзімір Крукоўскі сцвярджае, што лімаўская інфармацыя праўдзівая па сутнасці, а высновы аб творчасці мастакоў "Пагоні" чыноўнік міністэрства рабіў, не бачыўшы ніводнага твора сёлетніх выстаў суполкі.

## ПАМЯЦЬ ТЫДНЯ



25 красавіка напярэдадні 12 гадавіны чарнобыльскай трагедыі ў Мінску адбыліся шэсце "Чарнобыльскі шлях" па праспекце Ф. Скарыны і мітынг. У акцыі прыняло ўдзел каля 10 тысяч мінчан і прадстаўнікоў абласцей краіны, у тым ліку і з пацярпелых раёнаў.

*Фота В. ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

## ТАЯМНІЦА ТЫДНЯ

Таямніцы "з нічога" не ўзнікаюць, і нехта, напэўна, усё ж бачыў афіцыйны дакумент, які стаўся вытокам абывацельскіх чутак-плётак, здагадак-загадак. А для большыні застаецца таямніцаю: ці праўда, што казакі, якія гастралявалі ў нас падчас Дзён культуры Краснадарскага краю, паехалі дахаты, ганараваныя званнямі заслужаных артыстаў Беларусі? Колькі такіх шчаслівцаў, якім удалося абмінуць шматгадовую чаргу "па званне", — цяпер у нас не менш таленавітыя ды самаадданыя браткамі-беларусамі: сем чалавек? Ці восем? Увесь склад ансамбля "Кубанцы" ці мо — артысты знакамітага казацкага хору? І ці будуць ім плаціць належную надбаўку за званне, а калі будуць — дык з бюджэту якой краіны і "зайчыкамі" ці расійскім рублём? Людзі мудрыя раяць не пытацца і не пляткарыць, бо ў гісторыі чаго толькі не было: і Герой СССР Насер, і скарыначосец — маскоўскі мэр... А кубанскія артысты — гэта ж сапраўды выдатна!

# Саюз застаўся саюзам...

## 23 КРАСАВІКА АДБЫЎСЯ XII З'ЕЗД ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

XII з'езд пісьменнікаў Беларусі, пра які так шмат гаварылася на старонках "ЛіМа" і сярод літаратараў, — адбыўся. Цяпер ён робіцца часткай гісторыі айчыннай культуры, — а наколькі значнай часткай — высветліцца, мабыць, як заўжды ў гісторыі, — з цягам часу. А пакуль належыць занатаваць, асэнсаваць, уключыць, так бы мовіць, у інфармацыйную прастору тое, што адбылося. Як дадзенасць. Без вынікаў і наступстваў.



*У час пасяджэння*

Хаця галоўны вынік усё-ткі можна канстатаваць. Чаканне нейкага выбуху жарсцяў, бурнага высвятлення адносінаў між літаратарамі розных, перш за ўсё палітычных, поглядаў, а таксама між літаратарамі і ўладай, чаканне расколу і дэструктуралізацыі саюза не спраўдзілася. Нягледзячы на недвухсэнсоўныя анонсы менавіта такога раздзяляльнага (на "чэсных" і "нячэсных" літаратараў) настрою з'езда, што прагучалі ў некаторых перадз'ездаўскіх выступах, у тым ліку і са старонак "ЛіМа". Але дэлегаты ў абсалютнай большасці прадэманстравалі, што яны ўсё-ткі менавіта беларускія пісьменнікі. Прыкмета, якая вызначаецца не нацыянальнай прыналежнасцю, і нават не абсалютна — мовай творчасці, а перш за ўсё ўсведамленнем адказнасці за лёс менавіта гэтай, беларускай, культуры, усведамленнем яе каштоўнасці, багададзенасці... Усведамленнем, што эпіцэнтр твайго самавыяўлення, твайго творчага і чалавечага жыцця — тут. На гэтай зямлі. Мусіць, таму выступаў "раздзяляльнікаў" практычна не было, як папярэдне пазбаўленых сэнсу. Саюз застаўся саюзам не толькі творцаў, але і аднадумцаў.



*Старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў Уладзімір Някляеў (у цэнтры) з Яўгенам Будзінасам і Валянцінам Тарасам*

Як вядома, за апошні час Саюз пісьменнікаў моцна вырас колькасна — амаль да паўтысячы чалавек. З'езд мусіў прайсці ўсяго за адзін дзень у памяшканні Дома літаратара, які нядаўна пераведзены "ў аператыўнае кіраванне Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта краіны".

На жаль, далёка не ўсе нашы пісьменнікі, якія жывуць за межамі Беларусі, прыехалі на імпрэзу. Ну а такія слынныя літаратары, як Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Святлана Алексіевіч, учас з'езда знаходзіліся недзе ў Нямеччыне па сваіх літаратурных справах. Але на з'ездзе прысутнічалі шаноўныя госці — намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Іван Пашкевіч, міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны, намеснік міністра адукацыі Алег Слука, старшыня Саюза кампазітараў Беларусі Ігар Лучанок, група расійскіх пісьменнікаў — Васіль Бялоў, Ігар Ляпін, Уладзімір Бандарэнка; пісьменнікі з Літвы, Кубані.

Быў абраны прэзідыум з'езда, рэдакцыйная і мандатная камісіі, вызначаны рэгламент і парадак правядзення з'езда. Адразу ж давялося пачаць з унясення змен у Статут Саюза пісьменнікаў. Згодна яму, з'езд лічыцца правамоцным, калі на ім прысутнічае больш за дзве трэці ўсіх сяброў саюза. Гэтае абмежаванне было скарочанае воляй дэлегатаў да пяцідзесяціадсоткавага кворуму. Такім чынам XII з'езд прызнаваўся паўнамоцным і мог пачаць сваю дзейнасць. І пачаў — дакладам старшыні Саюза пісьменнікаў Васіля Зуёнка. Даклад абмалёўваў незайздроснае матэрыяльнае становішча, у якім апынуўся саюз, эпапею вакол Дома літаратараў, а таксама не менш незайздроснае становішча беларускамоўных выданняў і самой беларускай мовы.

Пасля справаздачы старшыні Саюза пісьменнікаў слова ўзяў намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Іван Пашкевіч, які адзначыў, што ўзаемаадносіны кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў з дзяржаўнымі структурамі, на жаль, былі не заўсёды плённымі, і паабяцаў пісьменнікам на будучае ўсебаковую падтрымку дзяржавы. У выступленнях Генрыха Далідовіча, Генадзя Бураўкіна, Ніла Гілевіча прагучалі вострыя, набалелыя пытанні пра становішча беларускай мовы, лёс беларускай літаратуры і культуры ўвогуле, ад якіх залежаць духоўнасць і сама будучыня народа. "Калі ўлада хоча, каб яе паважалі, трэба, каб яна паважала культуру народа, якім кіруе", — зазначыў Генадзь Бураўкін. Выступілі таксама пісьменнікі Анатоль Сабалеўскі, Кастусь Цвірка, Георгій Марчук, Уладзімір Дамашэвіч, Авяр'ян Дзеружынскі, Данута Бічэль-Загнетава, Вячаслаў Адамчык, Вольга Іпатава. Алесь Каско, Віктар Ярац, Аляксей Слесарэнка, міністр культуры Беларусі Аляксандр Сасноўскі, старшыня Дзяржкамдруку Міхаіл Падгайны, старшыня Саюза кампазітараў Ігар Лучанок, іншыя асобы.

Пасля выступленняў і дыскусій адбыліся выбары новага кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў Беларусі. На пасаду старшыні было вылучана 9 кандыдатур, але 8 з іх узялі самаадвод. Такім чынам, у выбарчых бюлетэнях было пазначанае толькі адно прозвішча — паэта Уладзіміра Някляева. У выніку тайнага галасавання большасць дэлегатаў выказалася ў падтрымку гэтай кандыдатуры. Былі абраныя таксама Рада Саюза пісьменнікаў, праўленне Літфонду, які перайшоў пад кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў, рэвізійная камісія.

**Н. К.**

# Ці не паўторыцца варварства?

Сярод шэрагу пытанняў, якія прагучалі на прэс-канферэнцыі, прысвечанай міжнароднаму дню помнікаў і гістарычных мясцінаў, задавалі журналісты і гэтае. Сапраўды, вакзальны будынак сталіцы ў свой час з дазволу улад быў знесены, нягледзячы на відавочную гісторыка-архітэктурную каштоўнасць. Дык хто дасць гарантыю, што вандалізм у дачыненні да гістарычнай спадчыны не паўторыцца? Толькі, мабыць, тыя арганізацыі і ўстановы, якія па абавязку свайму павінны дбаць пра захаванне архітэктурна-помнікавай культуры? Іх прадстаўнікі і сабраліся ў Нацыянальным прэс-цэнтры, каб засведчыць журналістам непахіснасць у адстойванні свайго, крэўнага.

Намеснік старшыні Камітэта па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў пры Міністэрстве культуры Беларусі Ігар Чарняўскі адзначыў, што прафесійна ахоўвай помнікаў пачалі займацца ў рэспубліцы 30 год таму. За гэты час мяняліся падыходы да праблемы, адпаведныя законы, справу пад кантроль узяло Міністэрства культуры. Да пачатку 90-ых колькасць здадзеных пасля рэстаўрацыі аб'ектаў была мізэрнай. Полацкі базыльянскі кляштар, царква ў Заслаўі, іншыя старажытныя помнікі, пералічыць якія можна было па пальцах. У сёлетняй рэстаўрацыйнай праграме 31 аб'ект (у параўнанні з 91-ым годам менш утрая). Работы па кожным забяспечваюцца бюджэтнымі сродкамі. 50 мільярдаў рублёў капітальных укладанняў размяркоўваюцца ў першую чаргу на найбольш важных аб'ектах. З 1977 года, напрыклад, рэстаўруецца Лідскі замак. 10 мільярдаў рублёў выдаткавана на давядзенне Магілёўскага тэатра, 5 мільярдаў трэба на інжынернае ўмацаванне берага побач з Калажскай царквой. Заканчваецца даследаванне гідрагеалагічных прычын, якія выклікалі пагрозу разбурэння Сафійскага сабора. Было падкрэслена, што гістарычныя мясціны і помнікі надзейна захоўваюцца там, дзе работа вядзецца ў кантакце з мясцовымі ўладамі. Тычыцца гэта ў першую чаргу Гомельскай, Віцебскай, Брэсцкай абласцей.

На прэс-канферэнцыі выступілі таксама намеснік старшыні Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Галіна Саўчанка і дырэктар Навукова-тэхнічнага дзяржаўнага прадпрыемства "Белінфармрэстаўрацыя" Ігар Раханскі.

**Яўген РАГІН**

## "Пяе над Гароднай гітара"

Пад гэтай назвай прайшоў у горадзе над Нёманам II абласны фестываль-конкурс гітарыстаў. Арганізатары — Упраўленне культуры Гродзенскага аблвыканкама, Гродзенская капэла і вядомы гродзенскі гітарыст У. Захараў, дарэчы, аўтар верша, радок з якога зрабіўся ўдалым назовам фестывалю.

Два дні спявала гітара, "люляючы" сваім чароўным гукам не толькі сівы Нёман, як у вершы У. Захарава, але і шматлікую публіку, што наведала залу Новага замка ў час вячэрніх канцэртаў і ДМШ N 1 ды Гродзенскае музычнае вучылішча ў час конкурсных праслухоўванняў.

У адрозненне ад леташняга конкурсу юныя гітарысты, якія спрачаліся за першыя месцы, прадстаўлялі, акрамя абласнога цэнтра, музычныя школы Ліды, Ваўкавыска, Астрыны, Гожы і г.д. Усяго каля 40 удзельнікаў, што, згадзіцеся, уражвае і дэманструе вялікую цікавасць да гітары на Гарадзеншчыне. І гэта не здзіўляе, калі ўспомніць прозвішча знаных у краіне і за яе межамі гітарыстаў-гарадзенцаў В. Жывалеўскага, У. Захарава, Д. Асімовіча.

Аўтарытэтнае журы, у склад якога ўваходзілі дацэнт Беларускай акадэміі музыкі, лаўрэат усесаюзнага конкурсу В. Жывалеўскі, выкладчык БАМ, лаўрэат рэспубліканскага конкурсу Я. Грыдзюшка, старшыня Клуба гітарыстаў Беларусі А. Капянкоў, вылучыла лепшых. У малодшай групе (1—2 кл.) імі сталі выключна лідчане: К. Меляняка (І месца, выкладчык І. Рыбак), І. Лашкова (ІІ месца, выкл. А. Агарак), С. Гадаеў (ІІІ месца, выкл. І. Рыбак).

У сярэдняй групе (3—5 кл.) бясспрэчным лідэрам быў П. Кухта (філіял Гродзенскага ДМШ N 1 імя Ю. Семянякі, выкл. С. Шымбарэвіч). ІІІ месца (другое вырашана не прысуджаць) заняў С. Майсейчык (таксама філіял Гродзенскай ДМШ N 1, выкл. В. Макарэвіч); М. Сянько з Ваўкавыска адзначаны дыпломам (выкл. І. Кузьміцкі).

У старэйшай, самай сур'ёзнай групе І месца не далі нікому, а другое па праву заваяваў леташні пераможца С. Разуваеў; ІІІ месца падзялілі С. Іваноў (Лідскае музычнае вучылішча, выкл. В. Сечка) ды А. Якушаў. Дыпломы — М. Гірэнь і Р. Ташпулодаў. Акрамя С. Іванова з Ліды, усе пераможцы старэйшай групы — навучэнцы Гродзенскага музычнага вучылішча, клас У. Захарава.

Гэта статыстыка. А што да ўражанняў, дык яны — самыя лепшыя. Госці з Мінска, члены журы адзначалі даволі высокі ўзровень канкурсантаў, а значыць і ўвогуле падрыхтоўкі гітарыстаў на Гарадзеншчыне.

Ды і заключны канцэрт з удзелам пераможцаў конкурсу пацвердзіў гэта, бо атрымаўся вельмі цікавым, нягледзячы на тое, што на сцэне былі хаця і лаўрэаты, але ўсё ж вучні. Завяршала канцэрт, які вёў А. Капянкоў, госця з Мінска, студэнтка БАМ А. Чэкан. А адкрыў яго гітарны аркестр (!) Гродзенскай ДМШ N 1 пад кіраўніцтвам В. Макарэвіч. Прывабнае творчае пачынанне, якое ў будучым можа даць надзвычай плённыя вынікі. Ну, а днём раней нашы "мэтры" дэманстравалі сваё майстэрства. Як заўсёды натхнёна іграў У. Захараў у суправаджэнні ансамбля салістаў Гродзенскай капэлы, а Я. Грыдзюшка проста зачараваў публіку, бясспрэчна пацвердзіўшы сваю рэпутацыю лепшага гітарыста Беларусі. Слухачы ў захапленні доўгане адпускалі яго са сцэны.

Шмат яшчэ цікавага і карыснага адбывалася падчас фестывалю: сустрэчы, дыскусіі, абмен інфармацыяй і г.д. Напрыклад, В. Жывалеўскі зрабіў насычаны і змястоўны агляд сучаснай творчасці беларускіх кампазітараў для гітары; А. Капянкоў, вялікі энтузіяст гітары, абяцаў наладзіць сувязі паміж гітарыстамі Гародні ды Мінска і нават арганізаваць выступленне лаўрэата сёлетняга конкурсу С. Разуваева ў сталіцы. Будзем спадзявацца яшчэ і на тое, што праз год-два мы сустрэнемся зноў у Гародні, і зноў будзе спяваць гітара, і, можа, нават не толькі беларуская, бо ў глыбіні душы арганізатары выношваюць планы зрабіць фестываль міжнародным. А чаму не?!

**Аляксей САЛАДУХІН**

---

Вячаслаў РАГОЙША

## З рэфлексій апошніх гадоў

### Беларуская мова

*Як жар нягасны ў прыску,*
*Наша мова:*
*Нягода —*
*Ціха ў попеле маўчыць.*
*А свежы вецер*
*Зноў дыхне вясновa —*
*Прахопіцца,*
*Зазяе,*
*Зазырчыць.*

### Фемінісцічнае

*Ні ў якіх пажарах,*
*Ні ў якіх залевах*
*Народ найпрыгожы*
*Не згіне,*
*Бо што ні дзяўчына ў нас —*
*Каралева,*
*А што ні кабета —*
*Багіня!*

### Прарок

*Каб нас ніхто не ўрок*
*І пошасць не зламала,*
*У нас адзін прарок —*
*Купала*

### Не гаруй!

*Не гаруй, што ветах*
*Зноў на небе знік.*
*Не канец жа свету,*
*Бліснe маладзік!*

### Пачні з сябе!

*Годзе ныць:*
*"Загіне Айчына!.."*
*Лепш з сябе пачынай*
*Без прынукаў:*
*Навучы роднай мове*
*Сына,*
*Навучы роднай мове*
*Унука!*

### Ты хто, мая Сіняя-Сіняя?

*Ты хто,*
*Мая Сіняя-Сіняя?*
*Скажы,*
*Бо ніяк не ўтаропаю:*
*Заходні фасад*
*Расіі*
*Ці ўсходні фасад*
*Еўропы?*

### Аптымістычнае

*Аптымізму!*
*Болей аптымізму!*
*Хай свяціцца шлях,*
*Якім ідзём!*
*Не прапалі ў век інтэр-*
*Нацызму,*
*Дык цяпер тым больш*
*Не прападзём!*

1995—98 гг.

---

ВЫСТАВЫ

## Версія вечнасці

Аблічча сённяшняй Расіі не надта прывабнае. Гэта "новыя рускія", што выйшлі са старой наменклатуры, захаваўшы звычкі і стыль жыцця "застойнага часу". Гэта велізарныя грошы, што праваpочваюцца праз урадавыя кабінеты, і настаўнікі з шахцёрамі, што па некалькі месяцаў не атрымліваюць заробку. Гэта Узброеныя Сілы, калісь магутныя, а сёння дэмаралізаваныя паразай у чачэнскай вайне. Гэта ваенныя караблі і самалёты, якія стаяць на прыколе, бо няма паліва. Гэта перманентны канфлікт Цэнтра і "ўскраін", што ставіць пытанне аб будучым Расійскай Федэрацыі. Такія часы — раздолле для футуролагаў. Сёння ў Расіі хіба што лянівы не прапаноўвае грамадству сваю мадэль будучыні. На выбар. Ад рэстаўрацыі бальшавіцкай імперыі сталінскага ўзору да вяртання ў "Святую Русь", як яе разумелі славянафілы мінулага стагоддзя. Беларусь у адзінай інфармацыйнай прасторы з Расіяй, так што і да нас далятае водгулле расійскай знерваванасці і расійскай прагі цішыні і спакою. Выстава фотамайстра Уладзіміра Суцягіна "Свет тихий", што адкрылася 10 красавіка ў Доме дружбы, можа гэта пацвердзіць.

Уладзімір Суцягін нарадзіўся ў Расіі, у Ніжнім Ноўгарадзе. У Беларусі жыве каля дваццаці гадоў. Працуе рэстаўратарам. Ён захаваў духоўную повязь з Расіяй, дакладней, з расійскай "глыбінкай". З зямлёй, што ляжыць у баку ад магістральных шляхоў; краінай, дзе за апошнія некалькі стагоддзяў нічога прынцыпова не змянілася. Усё тыя ж краявіды, ад большага той жа побыт, той жа лад жыцця. Мы бачым гэта на здымках выставы "Свет тихий". Здымкі праваслаўных святынь зроблены ў Ніжнім Ноўгарадзе, Суздалі, Пскове, Мураме, Уладзіміры, Волагдзе, Іванаве, Кірыла-Белазёрскім манастыры. Калі б фонам для партрэтаў святароў і паслушнікаў былі толькі добраўпарадкаваныя храмы (а так у кадр часта трапляюць і руіны), можна было б падумаць, што гэта здымкі з архіваў. Між тым здымкі зроблены ў 90-я гады нашага стагоддзя. Фотамастак свядома выбірае "пазачасовыя" постаці і краявіды. Ён захапляецца нязменнасцю расійскіх ландшафтаў, да якіх не дацягнулася ні рука бальшавіkоў са свербам "пабудовы новага свету", ні танкавыя калоны Вермахта і самалёты Люфтвафэ ў мінулую вайну. Але і там, дзе "пагаспадарылі" вайна і бальшавікі, прырода і нацыянальны характар усё роўна бяруць сваё. Мастак прапануе гледачу сваю версію будучыні Расіі, сваю версію вечнасці: краіна адроджзіцца праз вяртанне да сябе, праз мірнае суіснаванне з Богам. Нам, беларусам, гэта зразумела.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

---

## А Майстру — трывожна...

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Я чаму пра гэта расказваю? Арган стаіць 35 гадоў, з ім столькі было аварый, паломак! А паводле інструкцыі ўвогуле трэба кожныя 10 гадоў рабіць капітальны рамонт. Калі не зрабіць яго цяпер, не стане ў нас гэтага цудоўнага інструмента. Між іншым, у былым Савецкім Саюзе такіх вялікіх канцэртных арганаў толькі тры — у Рызе, у Вялікай зале Маскоўскай кансерваторыі ды ў нашай філармоніі.

Усё-ткі для аргана ідэальнае "жытло" — храм. Або адпаведна пабудаваная зала. Памяшканне Беларускае дзяржаўнай філармоніі для яго — умовы дрэнныя: суха, скразнякі, пыл, ад усяго гэтага аргану кепска. Яго драўляныя трубы абклееныя паперай, таму патрэбна пастаянная вільготнасць, каб іх не парвала. Я штодня сам наліваю і разношу па чатырохпавярховым аргане 12 вядзёр вады. У ім шмат труб і з металу — яны адкрытыя, і ў іх ляціць, усмоктваецца пыл, асабліва калі на сцэне танцавальныя ансамблі, і ўвогуле калі выступае шмат людзей — хоры, аркестр. Ды яшчэ калі ў такім шматлюдным канцэрце задзейнічаны арган, дык увесь пыл, узняты ад руху на сцэне, вентылятары аргана нясуць у трубы. Шкодна, калі калектывы нават на рэпетыцыях прыбіраюць заслону, якая хоць крыху засцерагае трубы ад пылу: маўляў, хочацца "прыгожага фону"!

Гэтак адбываецца не адзін год. Уяўляеце, колькі пылу ў трубах! Трэба здымаць ды чысціць іх, рабіць інтаніроўку, настройку кожнай.

Чэшскія майстры, з якімі разам устанаўліваў інструмент і да якіх потым ездзіў на фабрыку ў горад Крноў, здзіўляюцца, як гэта яшчэ ў нашых умовах арган працуе. І вось я прапаноўваў кіраўніцтву Беларускай дзяржаўнай філармоніі: "Давайце зробім рамонт сваімі сіламі! Створым брыгаду, і ўрэшце атрымаецца танней, чым калі запрасіць чэхаў". Але ж пакуль мне насустрач не ідуць, справа не робіцца.

**— Калісьці ў Мінску існавала вучылішча арганістаў, і арганы рабілі, і гучалі яны не толькі ў касцёлах, але ў дамах гараджан і ў салонах. Станіслаў, ці не было ў вас думкі адрадзіць гэтае традыцыйнае рамяство?**

— Такая думка была, і я яе нават пачаў ажыццяўляць. Купіў дом у Калодзішчах, пераехаў туды, абсталяваў майстэрню, каб рабіць невялікія арганы, фісгармоніі. Ва ўсім свеце арганісты рэпеціруюць на малых арганах. Вялікія, такія, як наш, берагуць, яны існуюць толькі для канцэртаў. Мара мая была — рабіць кабінетныя арганы. У Чэхіі я бачыў такія ў класах для заняткаў арганістаў. Дарэчы, яшчэ Іржы Рэнбергер, калі даваў першы канцэрт у Мінску, казаў: "Для рэпетыцый у вас павінен быць маленькі арган, а гэты — вялікі — толькі для канцэртаў, вялікія дорага каштуюць, іх трэба шкадаваць!"

Дык вось, купіў я дошак, пачынаў рыхтавацца да вырабу арганаў, але раптоўна памерла мая жонка. Яна мне дапамагала... Я застаўся адзін. І цяпер гэта непатрэбна нікому...

**— А калі б вам стварылі ўмовы, далі памяшканне, ці ўзяліся б кіраваць такой майстэрняй?**

— Абавязкова, бо арган — гэта цяпер усё мае жыццё. Я б звязаўся з фабрыкай, што ў Чэхіі, там мяне ведаюць, памятаюць, і дапамаглі б матэрыяламі, асабліва металам і фетрам.

Мой сын працуе арганным майстрам, настройшчыкам у Камернай зале на Залатой Горцы, ён таксама мог бы рабіць у такой майстэрні, а там і ўнукі падраслі б — ужо дынастыя! Сын і цяпер мне дапамагае, бо вялікі інструмент цяжка настройваць аднаму, бегаць гадзінамі па ярусах аргана. Таму адзін з нас сядзіць за пультам інструмента, націскае клавішы, другі бегае па паверхах, падладжвае трубы. І, канешне, гэты "другі" — сын, бо ён маладзейшы, мне ўжо цяжка. А яшчэ кожны дзень тазікі трэба прынесці з вадой, расставіць, асабліва зімой, калі на сцэне вельмі суха — батарэі грэюць. У храмах жа вільготнасць пастаянная і аргану там лепш, ды і знаходзіцца ён на хорах на другім паверсе, туды пыл менш даходзіць. Пра акустыку я ўжо й не кажу...

Вось такая размова адбылася ў мяне з Майстрам, сталым ужо чалавекам, досвед і талент якога адпавядаюць назве яго унікальнай прафесіі.

Ён сціпла і за невялікія грошы робіць сваю справу, без якой многія аматары музыкі пазбавіліся б харастa, падоранага гучаннем самага вялікага інструмента ў свеце, імя якому арган. А яшчэ С. Чарняўскі можа настроіць і клавесін, і канцэртны раяль...

Калі гэты матэрыял быў ужо гатовы да друку, у мяне адбылася сустрэча з тым, хто першы спазнаў вартасці нашага аргана і дружбу са Станіславам Мацвеевічам, — у Мінск зноў завітаў Алег Янчанка. Маэстра сказаў:

— 10 мая 1963 года мы пазнаёміліся са Станіславам Мацвеевічам. Пры кожным інструменце павінен быць майстар, які б даглядаў, захоўваў, рамантаваў яго, выконваў функцыі доктара, лячыў — і вось столькі гадоў мінскі арган жыў толькі дзякуючы майстэрству Станіслава Мацвеевіча ды ягонага сына. Я рады, што цяпер гэта сямейная прафесія і канцэртны арган на Беларусі знаходзіцца ў надзейных руках.

Ведаю, што ёсць праблема фінансавання капітальнага рамонту аргана. Праблема наспелая. Ніякі майстар саматугам не выраўе маленькімі "ін'екцыямі" здароўе "пастарэлага" інструмента. І я гарантую, што менавіта Станіслаў Мацвеевіч Чарняўскі, сабраўшы невялікую брыгаду памочнікаў, можа зрабіць належны рамонт без запрашэння іншаземных майстроў. Прыклад аналагічнай працы ёсць. У Расіі ў Ніжнім Ноўгарадзе арган таксама вымагаў рамонту, і там зрабілі яго без запрашэння нямецкіх майстроў, уласнымі сіламі, танней і якасна. Да таго ж, мінскі арган толькі Чарняўскі ведае дасканала, кожны куток: дзе якая пылінка ляжыць, дзе якая трэшчына. Каму ж яшчэ, як не яму, зрабіць гэты рамонт? Дарэчы, я і прапанаваў дырэкцыі Беларускай філармоніі такі варыянт, бо час бязлітасны, арган можа проста загінуць.

Застаецца толькі адчайна выгукнуць: "Давайце паважаць Майстроў і лічыцца з іхняй думкай! Давайце зробім усё, каб захаваць красу і гонар галоўнай музычнай сцэны краіны — канцэртны арган!"

**Аляксандр МІЛЬТО**

*Фота Віт. АМІНАВА*

ЭСЭ

# Гаваркія папугаі

Эрнест ЯЛУГІН

АДНЫМ ПАХМУРНЫМ снежаньскім падвячоркам я ўбачыў, што мажны Сцяпан Лукіч, неяк нязграбна ўцягнуўшы галаву ў шырокія плечы, наклейвае на ўваходныя дзверы аб'яву. А трэба хоць крыху ведаць гэтага чалавека, каб уявіць, як я быў уражаны. Бо звычайна мой сусед па пад'ездзе рашуча змагаўся з навалай розных паперын, расклееных не толькі на ўваходных дзвярах, але і побач, на сцяне дома ажно да тамбура смеццезборніка. Стараешся іх не заўважаць, а тэксты ўсё адно лезуць у вочы: "Похудела на 15 килограмм..." "Ремонт телевизоров на дому. Вызов бесплатно. Пенсионерам скидка 10 процентов..." (між тым як суму аплаты вам назавуць у залежнасці ад велічыні нахабства майстра). "Коммунисты-большевики (?!) собираются в актовом зале ЖЭС в 18.00. Повестка дня: 1. Пополнение рядов. 2. Как сохранить СССР". "Сауна-люкс и массаж-интим в любое время суток!!! Лифтинг. Целлюлит! Заслуженным пенсионерам и героям соцтруда скидка 10 процентов!" "ЛДПР имени Гайдукевича — ваша Партия! Сбор..." "Работа!!!". "Работа для лентяев в удобное время!" і г. д. У фантастычнай стракатасці рускамоўных зваротаў, абвестак і запрашэнняў аскетычна, амаль у духу стылістыкі першых хрысціян вылучаліся напісаныя выключна па-беларуску абвесткі БНФ. Хіба толькі крыху бянтэжыла злоўжыванне мяккім знакам — элементы транскрыбіравання стваралі ўражанне, што гэта ці то студэнцкае практыкаванне, ці то забавы снобаў, а не выява сур'ёзнай палітычнай барацьбы. Дык вось, менавіта на абвесткі БНФ, няхай нават яны знаходзіліся на ўсталяванай ЖЭСам дошцы для аб'яў, Сцяпан Лукіч налятаў з надзвычайным імпэтам. З нейкай жарсткаватай усмешкай ці то агіды, ці то своеасаблівай асалоды на крыху азызлым квадратным твары мой сусед старанна саскрабаў іх вузкім лязом імпартнага ножыка-складанчыка і, грэбліва адтапырыўшы ніжнюю губу, нешта мармытаў-мармытаў. Магчыма, слоўцы, якія знарок гучна прамаўляў у гурце такіх жа мажных адстаўнікоў: "Дерьмократия всплыла, понимаешь... Прав Лукашенко, хватит нянчиться". Па ягонай ініцыятыве мы іншым разам абмеркаваемся ўражаннямі ад надвор'я, а купіўшы на рагу вуліц кожны "свае" газеты, дыскутуем на розныя сацыяльныя тэмы. Не ведаю, навошта гэта яму патрэбна, бо своеасаблівым рэфрэнам у падтрымку ўласнага меркавання з напятых вуснаў С. Л. нязменна ўрачыста злятае: "Всякой мелкобуржуазно-националистической логикой меня не проймешь. Знаешь ли, кем бы я, сирота деревенская, был, если бы не коммунистическая партия? Коровам бы до старости хвосты крутил, бля. Да Сталин у меня, понимаешь, вот тут", — стукаў ён сябе кулаком у шырокія грудзі.

А ўвогуле С. Л. пільна палюе на агіткі ўсіх партый і рухаў нацыянальна-дэмакратычнага накірунку. Тым не менеі ягоную абвостраную непрыязнасць да гэтай часткі палітычнага спектру актыўнага грамадства я не адважуся тлумачыць толькі класавым інстынктам былога пастушка, які праштурхнуўся ў кіручае саслоўе і здолеў скончыць вайсковую службу намеснікам камандзіра палка па палітычным выхаванні асабовага складу, "замполитом в папахе", як кажуць, пасмейваючыся, ягоныя аднакашнікі-адстаўнікі. Здаецца ўсё ж, замешана тут матэрыяльная прычына асабістага плана. Мне прыйшло гэта ў галаву, калі азнаёміўся са зместам аб'явы Сцяпана Лукіча. Аказваецца, у яго зноў зляцеў папугай. Не ведаю, як з гэтым, а ў стасунках знікнення першага, безумоўна, важную ролю адыгралі-такі менавіта нацыянал-дэмакраты. Можна, праўда, таксама меркаваць: і С. Л. у той справе не без граху. Я не пра тое, што не варта выпускаць птушку з клеткі, калі адчыніў ваконную фортку.

Дзіва, дальбог: птушка поўдня, пястун сонечнага экватара, а тут самахоць з цёплай кватэры і ад прыгожай кармушкі з адмысловым харчам — дзяўбі, не хачу — імкне ў непагадзь і халадэчу, толькі адчыні фортку. Бо там — свабода? А што яна тады для птушкі? Магчыма, такое ўражвае, бо не ўпісваецца ў асаблівасці майго беларускага характару, ментальнасці, як цяпер модна гаварыць? Ёсць, праўда, наконт птушак выказванне нобелеўскага лаўрэата ў вобласці біялогіі англічаніна Мэдаўра, я з ім не згодны, але зараз мне што цікава: усе папугаі так робяць ці толькі тыя, якія ўмеюць гаварыць?

Даўно, з юнацтва, я ведаю трагікамічную гісторыю з такім гаваруном. Нечакана праз пару дзесяткаў гадоў стаў сведкаю яшчэ адной. Паколькі па тым часе яна падалася ў нечым "дысідэнцкай", занатаваў пра здарэнне ў сшытак, прыдумаўшы адпаведную назву. А нядаўна заходжу ў кніжную лаўку і заўважаю гэтую кніжку Джын Эйчысан. Ажно збянтэжыўся: назва яе аказалася падобнай на калісьці занатаваную мной. Мала таго: першае выданне кнігі англічанкі, як высвятлілася, выйшла ў Лондане амаль тады ж — у 1975 годзе. Праўда, у арыгінале назва з маёй усё ж супадае не зусім, бо "The articulate Mammal" кожны, хто хоць з большага ведае англійскую мову, перакладзе адназначна: "Млекакормячыя, якія гаворадь". То пры чым тут папугаі? Дый ўвогуле кніжка навуковая, а не пра нейкія кур'ёзы прыроды, аб чым сведчыць адпаведны падзагаловак — "An introduction to psycholinguistics" — "Уводзіны ў псіхалінгвістыку". Тэма даследуецца адпаведна сур'ёзная: наша мова з'яўляецца выключна вынікам навучання ці абумоўлена біялагічна; як дзеці авалодваюць граматычнымі правіламі; ці ёсць мова ў жывёл (вось!); і ўвогуле: што адбываецца, калі мы ўспрымаем мову і размаўляем. Узровень! Я ж толькі занатаваў асабістае ўспрыманне ў розныя палітычныя эпохі балбатні папугаяў, не болей.

Што да кнігі Jean Aitchison (на месцы перакладчыкаў я напісаў бы імя аўтаркі як Джэйн), нам пашанцавала, што ў Беларусі з'явіўся Фонд Сораса (на першым часе, прызнаюся, я ўспрыняў яго насцярожана, асабліва калі распачалася акцыя па вывазе на вучобу ў ЗША адораных школьнікаў) і з яго дапамогай менавіта на беларускай мове выйшла некалькі твораў навукова-асветніцкай літаратуры на сусветна высокім узроўні, у тым ліку згаданая кніга Эйчысан. Яе пераклад зроблены ўжо з трэцяга англійскага выдання (Лондан, 1989), на думку спецыялістаў, добра. А ўсё ж "The articulate Mammal" — гэта калі і дапусціць, што "істоты" ўвогуле, а не толькі "млекакормячыя", тым не меней — не "гаваркія" яны, як вынікае з тэксту, вось у чым справа. У кнізе Джэйн Эйчысан ёсць цэлы раздзел, названы: "Жывёлы, якія спрабуюць размаўляць". Спрабуюць, заўважце. Там, паміж іншым, прыводзяцца прыклады назіранняў таксама за птушкамі, а не толькі "млекакормячымі". Урэшце "гаваркімі", гэта значыць такімі, хто сваім умельствам гаварыць карыстаецца нават занадта, іншымі словамі, памянтаўшы языком, балбатунамі можна ахарактарызаваць хіба папугаяў. Некаторых, калі дакладней. Не ведаю, каторыя мудрэйшыя, але ж ёсць і такія, што чалавечай мовы асцерагаюцца, мне здаецца. Па іх лупатых і іранічных вачанятах, падобных на "зыркалы" Генадзя Хазанава тых часоў, калі маэстра размоўнага жанру яшчэ не займеў у дадатак да расійскага ізраільскі пашпарт, а прыдурваўся навучэнцам "калінарнага тэхнікума", лёгка заўважыць, што гаварыць "па-нашаму" яны могуць. Ды не жадаюць, вось якая штука. Мяркую, спрацоўвае інстынкт самазахавання ці не роду. Парадокс у тым, што ўсіх "закладаюць" свае, толькі балбатуны. Кажуць, у гэтым сэнсе асабліва вызначаецца афрыканскі шэры чырванахвосты. Прыахвоціць яго гаварыць не здолее хіба нямы. Прычым, можна адразу на некалькіх мовах. Затое браканьеры палююць на яго так, што небарака трапіў у спіс знікаючых жывёлін і яго ўзялі пад ахову міжнародных законаў. Ды што законы, калі на рынку гэты гаварун ідзе зараз па 1200 долараў за хвост (ці дзюбу?)!

Дык ад неабачлівасці ці, наадварот, ад вялікага па птушыных мерках розуму такое ўмельства? Вось што напісала Джэйн Эйчысан: "Папугаі і шпакі могуць імітаваць чалавека з надзвычайнай дакладнасцю. Аднак малаверагодна, што яны разумеюць сказанае людзьмі... Адзін шэры папугай вымаўляў "Дзень добры" і "Дабранач" у патрэбны час, "Бывайце", калі госці выходзілі. Аднак большасць гаворачых птушак проста "па-папугайску" паўтарае пачутае... Вынікі з гаворачымі шпакамі таксама былі несуцяшальнымі". Як размаўляюць апошнія, мне і ўвогуле чуць не даводзілася. Затое іх свістам захапляюся кожную вясну. Дарэчы, у вышэйпрыведзенай цытаце суфіксы і канчаткі ў слове "гаварыць" прыводжу так, як напісалі перакладчыкі. Тут яны стараліся па змесце быць бліжэй да арыгінала. А вось назву кнігі вырашылі зрабіць, мяркую, больш "кідкай", таму і ўжылі тут стылёва экспрэсіўнае слоўца — "гаваркія".

Ладна. Ну, а навошта ўвогуле, калі разабрацца, чалавеку гэтыя гаворачыя ці гаваркія, называйце як хочаце, пярнатыя? Забава для вольнага часу? Ці патрэба нейчай адзінокай душы? Паратунак ад хранічнай самоты?

Стары англійскі анекдот. Нейкі Сміт мае звычку спазняцца на работу. Ды раптам прыйшоў своечасова. Начальнік ускліknуў:

— Неверагодна! Што здарылася, Сміт?

— Гэта вынік вашай парады, сэр. Я набыў папугая.

— Папугая?! Я ж раіў купіць добры будзільнік!

— Сапраўды, сэр. Але ён так і не змог мяне разбудзіць. Тады я набыў папугая і паставіў клетку побач з будзільнікам.

— Нічога не разумею, Сміт. Папугай, клетка...

— Галоўнае, канечне, папугай, сэр. Будзільнік будзіць папугая, а тое, што крычыць тады гэтая птушка, можа разбудзіць каго заўгодна.

А вось навошта папугай Сцяпану Лукічу, не магу зразумець. Прычым заўважце: знік адзін — купляе яшчэ. З тым жа вынікам.

Дарэчы, па маіх назіраннях, гэта не такая ўжо рэдкасць, калі папугаі злятаюць. Мяркую хаця б па аб'явах у гарадской вячэрняй газеце. З вясны і да самае зімы ці не праз нумар чытаеш: "слетел", "слетел" (ідзе пералік каляровых прыкмет птушкі, якія запомніліся нешчасліваму ўладальніку), "убедительная просьба вернуть"... Цікава, што ўсе гэтыя "убедительные" (чым яны перакапаўчыя, незразумела) просьбы напісаны парыску. У беларусаў папугаі не злятаюць?

Звычайна ўцекачамі аказваюцца хвалістыя, невялікія папугаі, але іншым разам называюцца проста "каралеўскія" асобы, родам адкуль-небудзь з джунгляў Амазонкі ці з Мадагаскара, а не толькі з хатняга інкубатара аматара са Старажоўкі.

Куды толькі з райскіх мясцін не трапляюць крылатыя балбатуны! Не па сваёй волі, вядома. Таго, першага "майго" папугая з трагікамічным лёсам я, напрыклад, сустрэў у піўнушцы (ці забегалаўцы, калі хочаце) глыбіннага беларускага мястэчка. А быў то дарагі прыгажун жако. Праўда, я тады ўвогуле не ўяўляў, колькі можа каштаваць такое заморскае дзіва. Ды калі яно яшчэ і балбоча на англійскай мове! Папугай належаў прыблатнёнаму хлопцу па мянушцы Кера. Казаў, што купіў на прыморскім базары за долары, калі іхні карабель стаяў на рэйдзе Гаваны. О, Куба! Як мы ёю тады захапляліся! Многа гадоў пасля я ўсё яшчэ інфантыльна ганаруўся, што менавіта мне Рыгор Барадулін у аўтографе на сваёй новай кніжцы напіша: "Барбудас малады Эрнэст, Нязломны будзь, як горды Брэст. Няхай табе і сэнс і змест..." і гэтак далей. Але галоўнае было тады — гэтае "барбудас", амаль ці не адважны кубінскі змагар-"барадач" за светлую будучыню працоўнага чалавецтва.

Ну, гэта адхіленне ад тэмы.

— На Кубе? За долары? — рагаталі дасведчаныя ў марскіх прыгодах хлопцы, якія паспелі прайсці агонь, ваду і медныя трубы, перш чым па нейкіх не зусім уцямных прычынах вярнуцца ў мястэчка на беразе Сожа. — Кера калі тую валюту і бачыў, то хіба ў Адэсе на Прывозе, ды і то здалёк.

Тым не меней загадкава-важная заморская птушка ўчэпіста сядзела менавіта на ягоным хударлявым плячы, ласкава перабіраючы моцнай кручкаватай дзюбай ускудлачаныя і нейкія шэрыя валасы хранічна "паддатага" Керы.

— Ха, ён хадзіў у загранку? — у Лёніка Калоднага, які і сам лічыўся мараком, бо другі год укалваў на рыбным баркасе ў эстонскім калгасе і дэманстраваў цяльняшку на крутых грудзях, гатова была адарвацца ад смеху цяжкая сківіца. — Ён жа малы кабатажнік. У адэскай лужыне палубным матросам на буксіры ледзьве ўладкаваўся. Ды і адтуль турнулі, бо з корашам утапілі якар па п'янай справе.

— Але ж папугай, — пярэчылі яму.

— А, гэта? Зляцеў здуру з англійскага лайнера на іхнія ночвы. Во тут Кера маху не даў: шапкай накрыў — і ў бочку з-пад салакі, гуд бай, Амерыка!

Як там ні было ў Адэсе, а дома дзякуючы папугаю Кера хутка стаў "зоркай" у наведвальнікаў забягалаўкі, якая мела таксама неафіцыйную назву "Блакітны Дунай". Відаць, з-за некалі блакітнай афарбоўкі пастаянна вільготных понізу сцен з габляваных дошак, больш вядомых пад назвай "вагонка".

Кера ўваходзіў у "Дунай" з папугаем на плячы і адразу апынаўся ў цэнтры ўвагі. З усёй ваколіцы збягаліся падлеткі. Кінафільм "Востраў скарбаў" у праекце быў даўно, але калі стужку ў каторы раз прывозілі ў мястэчка, тамтэйшы кінатэатр за некалькі дзён перавыконваў месячны фінплан, а ў школах рэзка ўзрастала колькасць прагульшчыкаў урокаў. Зноў па мястэчку гуляў марскі брыз, лодкі на Сожы ператвараліся ў брыганціны і фрэгаты, а над імі валадарыла цень аднаногага з чорнай павязкай на воку пірата Білі Бонса з корцікам і гаваркім папугаем.

— Піястры! Піястры! — дралі глоткі падлеткі і фехтавалі дручкамі, бы абардажнымі шаблямі.

О, марскія прасторы, бачаныя многімі пасожцамі хіба ў кіно! О, мроя пра волю дзесьці ў чужых краях!

— Палундра! Рому, бля! — стукаў кулаком з сіняй татуіроўкай Кера па залітым півам століку і адразу ж ягоная заморская птушка пачынала трэсці хахалком, шчоўкаць моцнай дзюбай і гучна балбатаць на замежнай мове.

— Англійскай, — паважна тлумачыў Кера, шматзначна прыжмурваючы падбітае раўнівай сужыцелькай вока. Лонданскае вымаўленне, бляха. Магу трэніраваць школьнікаў, во Францавіч пацвердзіць, бач як слухае. За гадзіну — сто грам белай. У Мінску болей бы далі.

— Грашыма бяры, а то зусім сап'ешся, — сур'ёзна раіў Фіма Рыўкін. Паміж іншым, муж Рывы, якую часцей клікалі "гераіня", бо яна сапраўды мела медаль за шматдзетнасць. Фіма падаў заяву на эміграцыю і, казалі, усё ягонае сямейства ўпарта вучыла іўрыт.

Настаўнік англійскай мовы, "заходнік", ці "западник", як яго называлі, бо нарадзіўся ён на Гродзеншчыне, а галоўнае, быў надзвычай гаспадарлівым і акуратным, іншым разам пасля ўрокаў наведваў "Дунай", каб пачаставацца свежым півам, пагладзіць бліскучую сваю лысіну і сказаў з захапленнем прафесіянала:

— Не ведаю, як з лонданскім вымаўленнем, але такіх крутых англійскіх мацюкоў мне яшчэ чуць не даводзілася. І якая пры ўсім багатая лексіка!

Дывідэнды Керы ўвогуле ўзляцелі да нябёсаў. Яго запрашалі да столікаў, частавалі "белай" і "чарнілам", "яршом", як называлася д'ябальская сумесь піва з гарэлкай. Папугаю прапаноўвалі крушон. Птушка зрабіла пару глыткоў. У наступны раз у крушон дабавілі з дурной цікаўнасці "чарніла" — так званага партвейна мясцовага. Папугай глынуў і гэта, а хвіліны праз тры замахаў крыламі, гучна затрашчаў па-англійску, скокнуў на галаву выганскай алкагалічкі Зінулі і пачаў здзіраць з яе брудную хустку. Зінуля са страшэнным крыкам і мацюкамі ўхапіла птушку за нагу і шпурнула ў буфетчыцу. Зазвінелі шклянкі-бутэлькі. Папугай з усяе птушынай моцы лаяўся па-англійску, але рускія мацюкі дзвюх раз'юшаных кабецін забівалі яго гэтак жа шчыльна, як мінскія глушылкі радыёстанцыю Бі-Бі-Сі.

Цяпер не толькі Керу, але і яго папугая паілі з асаблівым імпэтам. Увечары Кера выпаўзаў з "Дуная" на карачках і тут жа валіўся ў прыпылены дзядоўнік ля шашы Бабруйск—Масква. Папугай уэпіста сядзеў на мокрай спіне непрытомнага гаспадара і хрыпла крычаў у начны асенні змрок голасам Керы:

— Рому, бля! Рому, б-бля!..

Дзіўна, што, атрымаўшы такім чынам свабоду, папугай нікуды не злятаў, хоць Кера часцяком забываў яго пакарміць.

Гурт падлеткаў з рогатам круціўся побач. Папугая торкалі лазінамі, падахвочваючы на лаянку. Птушка спрытна хапала лазіны вялікай крывой дзюбай і імгненна пераксвала, бы пасацікамі. Керы ў п'янай адключцы толькі торгаў галавой, дрыжэў і падкурчваў ногі ў дзіравых туфлях. Над ускалмачанай птушкай поўдня нізка плылі халодныя аблокі. Час ад часу пырскала ледзяным даждом. Панылая гэта пара — позняя восень у мястэчку. Асабліва калі ніхто цябе нідзе не чакае ў цёплым пакоі.

Аднойчы, гэтак седзячы на пераможаным алкаголем гаспадары, папугай высока ўзняў чубатую галаву насустрач зграі варон і галак, якія, істэрычна перагукваючыся, спяшаліся на начлег у парк, не міргаючы ўтаропіўся ў халоднае бязлітаснае чужое неба, хрыпла крыкнуў нешта па-англійску і кульнуўся на дол мёртвы.

Не буду апавядаць, як было далей. Скажу толькі, што Керу больш ніхто не наліваў. З яго здзекліва смяяліся. І аднойчы ён увогуле не прыцягнуўся ў халодную забягалаўку. Знік. Ніхто не ведаў, куды ён падзеўся, ды ніхто асабліва гэтым і не цікавіўся. Нават участковы Зонтаў, прозвішча ў дзеда якога, як сцвярджаў Фіма, было Зонтаг. Ды гэта ўжо — іншая гісторыя, не папугайская.

Што ні кажыце, а ўсё ж загадкавыя птушкі, гэтыя гаваркія папугаі. Здавалася б, колькі ўжо стагоддзяў маючы справу з чалавекам,

*(Працяг на стар. 14—15)*

## Прачытваючы даўніну Гродна

**Зразумела, спазнаць мінулае ва ўсёй паўнаце і складанасці не так і проста, бо шмат падзей пранеслося над Гродзеншчынай. Многае забылася, канула, як кажуць, у лету. Нешта зберaглося, але патрабуе асабліва ўважлівага стаўлення да сябе. Затое, якія дзіўныя адкрыцці чакаюць тых, хто ставіцца да даўніны не абыякава, а зацікаўлена! У гэтым лішні раз упэўніваешся, калі знаёмішся з гісторыка-архітэктурным нарысам "Гродзенскія замкі", аўтарамі якога з'яўляюцца Ю. Кітурка і В. Царук, выпушчаным Гродзенскай абласной узбуйненай друкарняй. Выданне невялікае, але багатае зместам. А да ўсяго тэкст пададзены на беларускай, рускай і англійскай мовах. Значыць, адрасавана яно не толькі жыхарам горада, а і яго шматлікім гасцям (наклад паўтары тысячы экземпляраў), якім ёсць у Гродне што ўбачыць і чым захапіцца.**

## Беларускі ленінградзец

**Па ініцыятыве Аляксандра Пракоф'ева яшчэ ў 1948 годзе ў Ленінградзе з'явілася першая анталогія беларускай паэзіі на рускай мове. Увогуле, Аляксандр Андрэевіч падтрымліваў цесныя сувязі з беларускай зямлёй, якія пачаліся ў пасляваенныя гады і працягваліся да смерці А. Пракоф'ева (не стала яго 18 верасня 1971 года, а нарадзіўся 13 красавіка 1923-га). Беларусі А. Пракоф'еў прысвяціў вершы "Сябрам", "Лявоніха", "Янку Купалу", "Петрусю Броўку" і іншыя. На рускую мову ён пераклаў многія творы Я. Купалы, Я. Коласа, паасобныя М. Багдановіча, П. Броўкі, М. Танка, П. Панчанкі, Е. Лось і іншых. Прысвяціў нашай рэспубліцы і яе літаратуры шэраг артыкулаў, рэцэнзаваў новыя кнігі беларускіх пісьменнікаў. На беларускай мове выйшла некалькі кніг А. Пракоф'ева, яго творы часта публікаваліся ў перыёдыцы і калектыўных зборніках дзякуючы перакладам П. Броўкі, А. Куляшова, М. Танка, Р. Барадуліна, Н. Гілевіча, С. Грахоўскага, Ю. Свіркі... Пра творчасць нашага рускага сябра пісалі П. Броўка, М. Танк, П. Панчанка...**

## Мастак з Вайшкуне



**Не адно пакаленне беларускіх мастакоў у сваёй творчасці звярталася да чароўных пейзажаў Віцебшчыны, да тэмы "Блакітныя азёры" запаведнага краю. Але асаблівы ўклад унесла група мастакоў, якая ў перыяд адмірання старых вёсак аб'ядналася з мэтай не даць пайсці ў нябыт невялікай вёсачцы Вайшкуны на беразе цудоўнага возера Балдук. Пасяліўшыся тут, яны не толькі далі "памерці" вёсцы, але і стварылі мноства работ пра гэты край.**

**Сярод іх і мастак Віктар Маркавец, чыя выстава "Вайшкунскі пейзаж" адкрылася ў Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.**

*Фота Яўгена КАЗЮЛІ, БЕЛТА*

# Аўтар — само жыццё

### АБ СУЧАСНАЙ АЎТАБІЯГРАФІЧНАЙ ПРОЗЕ

ЭСЭІСТЫЧНАЯ МАНЕРА, у якой яшчэ нядаўна свядома і стала працаваў ці не адзін Янка Брыль, у апошнія гады нечакана набыла шматлікіх прыхільнікаў сярод майстроў слова. Сапраўды, нельга не заўважыць, што мінулае дзесяцігоддзе надзвычай "завознае" на прозу аўтабіяграфічнага кшталту. І не толькі таму, што сацыяльна-палітычны кантэкст паспрыяў з'яўленню ў друку твораў, якія калісьці пісаліся "ў шуфляду" ("У кіпцюрах ГПУ" Ф. Аляхновіча, "Споведзь" Л. Геніюш, "Аповесць для сябе" Б. Мікуліча, "Сцежкамі жыцця" (другая частка) П. Мядзёлкі і інш.) Шматлікасць "нованароджаных" пісьменніцкіх мемуараў і дзённікаў, лірычных мініяцюр і запісаў, эпісталярных публікацый і нататкаў дае падставы гаварыць пра ўзнікненне новай тэндэнцыі ў развіцці айчыннай літаратуры.

Узмацненне аўтабіяграфічнай плыні — прыкмета нашага часу, яго спецыфіка. У гэтым, можа, выявілася нават і унікальнасць моманту, што засведчыў не толькі цікавасць (аўтарскую і чытацкую) да факта і дакумента, але і "запусціў" працэс рэалізацыі новых магчымасцей, якія вызначыла адпаведная сацыяльна-палітычная сітуацыя. Аслабленне цэнзурнага прэса ў канцы 30-х — пачатку 90-х гадоў стварыла новыя ўмовы для фарміравання мастацкай і грамадскай думкі, пераасэнсавання шмат якіх літаратурных з'яў і падыходаў. Выяўленне асобы аўтара зрабілася больш разняволеным, непасрэдным, і гэтая ступень адкрытасці, недасяжная раней і для пісьменніка, і для чытача, натуральна, набыла вялікую прыцягальнасць. Тут няма нічога дзіўнага, бо аўтар, вядома ж, мае патрэбу быць шчырым. А тое, што вынікі гэтага самавыяўлення плённыя таксама і для чытача, пацвердзіла пільная зацікаўленасць аўтабіяграфічнымі творамі А. Адамовіча, У. Арлова, В. Бечыка, Я. Брыля, Л. Галубовіча, Н. Гілевіча, Л. Дранько-Майсюка, У. Калесніка, В. Карамазава, М. Купрэева, Я. Скрыгана, А. Сямёнавай, І. Шамякіна — спіс можна доўжыць.

Неяк неўпрыкмет аўтабіяграфічная проза засвоіла немалую дзялянку на мастацкай плошчы сённяшняга прыгожага пісьменства. Гэта адбылося шмат у чым дзякуючы аператыўнасці жанраў, што выкарыстоўвае літаратура гэтага кшталту, а яшчэ — дзякуючы той неапасродкаванай фіксацыі, якая акрэслівае агалены змест з'яў і падзей. Магія "жывога жыцця" вядзе тут рэй, і ўмоўнасць літаратурных канонаў быццам бы адступае на задні план ці знікае зусім. Аўтар белетрыстычных сюжэтаў — пісьменнік, аўтабіяграфічных — само жыццё.

Аўтабіяграфічная проза, за кошт спалучэння дакументальнага і асабістага пачатку, дае унікальную магчымасць зрабіць назіранні над тым, як выглядае наша чалавечая сітуацыя сёння, тут і цяпер, не толькі паводле хуткамаўлення сродкаў масавай інфармацыі, спантанных дыскусій у грамадскім транспарце альбо спрэчак каля гандлёвых прылаўкаў (іх, прынамсі, таксама трэба прымаць пад увагу), але і паводле сталай развагі творцы, для якога роздум пра жыццё і людзей стаўся прафесійным абавязкам. Вядома, што пісьменніцкая думка, моцная сваёй мастацкай інтуіцыяй, часам ідзе наперадзе навуковай і палітычнай логікі. Пра гэта ў сваёй кнізе "Нацыянальныя вобразы свету" цікава разважае Г. Гачаў: "...Не толькі духоўнае, але і ўсё грамадскае развіццё народа ў пэўныя перыяды можа цалкам супадаць з развіццём літаратуры і праз яе можа быць вызначана", — піша ён і далей спасылаецца на вядомыя словы А. Герцэна пра тое, што ў народа, які пазбаўлены грамадскай свабоды, літаратура — адзіная трыбуна, з вышыні якой гэты народ прымушае пачуць крык свайго абурэння і свайго сумлення.

Сёння, калі нават самыя гарачыя аптымісты досыць стрымана ацэньваюць перспектывы моўна-культурнага беларускага Адраджэння, а паняцце "беларуская ідэя" ўспрымаецца ледзь не як міфалагема; калі ўстойлівымі прыкметамі нашага штодзённага існавання сталіся эканамічнае жабрацтва і культурны (часам вымушаны, часам добраахвотны) голад — жыццё ператварылася ў "пустыню масавага варварства і утылітарызму" (Т. Ман). Але ж — ёсць надзея. Ёсць нават і ўпэўненасць у тым, што папярэдняе дзесяцігоддзе, складанае сваёй неадназначнасцю, шматцэнтрызмам, але насычанае ў адносінах сцвярджэння нацыянальнай і духоўнай саматоеснасці, — абавязкова дасць свой плён. Які — пакажа час.

Сапраўды, цяжка рабіць прагнозы, бо "незавершаная сучаснасць" (М. Бахцін) у нечым нагадвае бліц-здымак: з аднаго боку — ідэальная магчымасць зафіксаваць непаўторнасць моманту, а з другога — адсутнасць той вызначанасці, аб'ёму, якія надае матэрыялу рэтраспектыўны погляд, калі час адшліфоўвае і выбірае, расстаўляе акцэнты і акрэслівае нябачныя раней перспектывы.

Да таго ж, літаратура неадлучная ад агульнакультурнага працэсу, а культурнае поле ў кожнага часу і кожнай нацыі сваё: са спецыфічнымі, уласцівымі менавіта гэтай сітуацыі крытэрыямі і ацэнкамі. Вось чаму сацыяльна-гістарычны фон, прынцыпы эстэтычнага аналізу, вартасныя прыярытэты, этычны імператыў, мастацкія каноны маюць устойлівасць у межах пэўнай, часам даволі абмежаванай храналагічнай і культурнай прасторы. "Пункт гледжання, — заўважыла неяк вядомая даследчыца літаратуры Л. Гінзбург, — іначыць матэрыял". Гэта слушная думка датычыць, вядома, не толькі прыгожага пісьменства. Яшчэ і памянёнай акалічнасцю, апроч адрознасці палітычных і ідэалагічных арыентацый, відавочна, тлумачацца несупадзенні ў аналізе нашай сённяшняй сітуацыі паводле украінскіх, расійскіх, заходнееўрапейскіх даследчыкаў і СМІ. Падзея ці з'ява, вызначаныя з пункту гледжання іншай этнакультурнай пазіцыі, набываюць, здараецца, ці не адваротны сэнс.

І ўсё ж, што адбываецца ў нашай літаратурнай і духоўнай прасторы сёння? Як рэагуе на гэтыя працэсы аўтабіяграфічная проза, праз якую, бадай, найкарацейшы шлях да выяўлення індывідуальнасці, самапазнання асобы?

Характэрнай рысай аўтабіяграфічнай прозы канца 80-х сярэдзіны 90-х гадоў з'яўляецца ўстойлівы акцэнт на пытаннях духоўнага, нацыянальнага і моўна-культурнага Адраджэння. Як слушна заўважае ў сваім эсэ "І шлях, і мэта, і ісціна" ("Беларусь", 1997, N 10) М. Тычына, "такая засяроджанасць на сабе і сваіх праблемах не павінна выглядаць нацыянальным эгаізмам, а тым больш дзівацтвам у той час, калі нацыянальныя праблемы для большасці цывілізаваных народаў у асноўным вырашаны".

Падобныя працэсы адбываліся калісьці ў паўднёва-славянскім рэгіёне, напрыклад, у балгарскім грамадстве перыяду нацыянальнага Адраджэння. Вядома, тут трэба ўлічваць храналагічныя і канкрэтна-гістарычныя разыходжанні, а таксама тое, што на Беларусі працэс нацыянальнага адраджэння не набываў такога размаху і маштабаў, як на азначаных паўднёва-славянскіх тэрыторыях. Даследуючы аднаўленчы рух перш за ўсё як гісторыю фарміравання нацыянальнай свядомасці, культуры, мовы і прыгожага пісьменства, балгарскі літаратуразнаўца Г. Дзімаў адзначае, што літаратура таго часу была "своеасаблівым барометрам, які паказваў выспяванне нацыянальнай свядомасці, своеасаблівым адбіткам рэнесансных нацыянальна-палітычных, філасофска-маральных, інтэлектуальна-творчых працэсаў".

Па-сапраўднаму цікавым матэрыял для даследавання тыпалогіі нацыянальнага характару дае аналіз адраджэнчых рухаў на прыкладзе беларускай і балгарскай літаратур (а таксама македонскай, сербскай, украінскай). Сацыяльна-патрыятычная дамінанта, якая ў пэўныя перыяды яднае іх, мае зусім іншае праяўленне ў рускай літаратуры, дзе традыцыйна — ад класічнай прозы Дастаеўскага й Чэхава да сённяшняга шматаблічча расійскай раманістыкі, навелістыкі, эсэістыкі і мастацкай публіцыстыкі (В. Астаф'еў, А. Бітаў, Ю. Нагібін, В. Распуцін і інш.) — характар успрымаецца як мера самавызначэння асобы на фоне дэтэрмінізму абставін. Пры гэтым акцэнт прыпадае звычайна на псіхалагічную прыроду, а не на сацыяльны лёс.

Псіхалагічная і аналітычная плынь новай беларускай прозы, пачынаючы ад твораў М. Гарэцкага і Кузьмы Чорнага, таксама звернута да спасціжэння ўнутранага, глыбіннага жыцця асобы, але экзістэнцыяльныя развагі герояў толькі зрэдзь губляюцца ў сферах адцягнена-абстрактных. Тут відавочная схільнасць да эмпірыкі, да жыццёвай канкрэтыкі, якія рэалізуюць сябе праз побытавы і сацыяльны пласты. У нашай літаратуры існуе скразны тып героя, які з твора ў твор задае самому сабе і чытачу адно і тое ж пытанне: хто ёсць я, беларус, у гэтым свеце? Дзе мае карані? Такі рэфрэн мае, як вядома, канкрэтна-гістарычны фон і важкія прычыны, праз якія нявызначанасць нацыянальных варункаў сталася трывогай і болем — часам неасэнсаванымі — шматлікіх пакаленняў. Сярод такіх прычын могуць быць названы: па-першае, асаблівасці самаідэнтыфікацыі беларусаў, па-другое, — агульны для ўсіх усходнеславянскіх народаў феномен ідэалагічнага замбіравання, спароджаны таталітарнай сістэмай.

Сучасны пісьменнік У. Арлоў у аўтабіяграфічнай кнізе "Мой радавод да пятага калена" заўважае: "У цывілізаваным свеце... радаводнае дрэва малююць з каранёў. У нас жа сем дзесяцігоддзяў гэтыя карані нястомна выкарчоўвалі, бо трэба было ведаць не продкаў, а нешта іншае. Напрыклад, чарадзейныя цытаткі з класікаў, або галоўныя задачы пяцігодак".

Натуральным вынікам такой арыентацыі, якая адбілася і на характары моўных працэсаў, выглядае рэальны эпізод (апісаны ў гэтай жа кнізе), які адбыўся ў адным з мінскіх аддзяленняў сувязі. У паштаркі, якая прымала тэлеграму, з'явіліся прэтэнзіі да беларускамоўнага тэксту. Свае сумненні адносна "ў" нескладовага яна вырашыла вельмі проста, акурат як у папулярнай тэлеперадачы, абвясціўшы: "Нет такой буквы!" Вядома, яшчэ і не такія дзівосы здараюцца на нашым айчынным "полі цудаў". Але ж кшталт побытавых адносін да мовы, як вядома, мае працяг на плане светапоглядным, набывае універсальны характар, які мае ўласцівасць праяўляцца на ўсіх узроўнях: міжасабовым, сацыяльна-эканамічным, анталагічным... Пісьменнік-гуманіст Т. Ман у гады эміграцыі, у выгнанні, якое, па яго ўласным выразе, "толькі эўфемічна можна назваць добраахвотным", пісаў: "Невымерная тайніца мовы; адказнасць за мову і яе чысціню носіць сімвалічны і духоўны характар, яна мае не толькі эстэтычны, але і агульнамаральны сэнс, гэта — адказнасць як такая, чалавечая адказнасць у чыстым выглядзе, і ў той жа час адказнасць за свой народ, за захаванне чысціні яго індывідуальных рыс у чалавечай лучнасці, і ў ёй увасабляецца непарушнасць чалавечнасці, адзінства гуманістычнай праблемы, якая не дазваляе нікому — ва ўсякім разе ў нашы дні — падзяляць духоўна-эстэтычны і палітыка-сацыяльны пачатак і адасабляцца ў арыстакратычную сферу чыстай культуры". Гэтыя словы дазваляюць зразумець, напрыклад, вытокі адрознасці эстэтычных сістэм роднасных літаратур — тое, скажам, з якой прычыны "серебряный век" рускай паэзіі супаў храналагічна з "песнямі жальбы" ў Паўднёва-Заходнім краі. Перад рускім народам ніколі гэтак востра, як перад беларусамі, не стаяла праблема выратавання роднай мовы і захавання нацыянальнай існасці, а значыць тут, на Беларусі, аб'ектыўныя перадумовы скלаліся зусім інакш, і, магчыма, проста не існавала рэальнага грунту для паглыблення ў адцягненыя сферы эстэтычна-фарматворчых пошукаў.

Спецыфіка дакументальна-мастацкай прозы, якая выяўляецца ў непасрэднай фіксацыі з'яў і сітуацый, дае магчымасць праз адметнасць канкрэтнай асобы меркаваць пра асаблівасці нацыянальнага характару. Ён (нацыянальны характар) у аўтабіяграфічным творы выступае ў сваёй найбольш натуральнай праяве, адпавядае самаразвіццю жыццёвых падзей і абставін. Безумоўна, дакументальна-мастацкая проза адлюстроўвае арганічную усёй літаратуры структуру светабачання, але тое, што ў белетрыстыцы падаецца іншасказальна, праз умоўнасць сюжэтных і вобразных пабудоў, праз паглыбленне ў экзістэнцыю аб'ектывізаванага свету, у аўтабіяграфічных запісах дасягаецца ў адкрытай размове аўтара аб сабе і сваім жыцці.

Па сутнасці, адна і тая ж нота гранічнага напружання, нават катастрафізму, дамінуе сёння і ў мастацкай плыні (В. Быкаў, В. Каско і інш.), і ў развагах дзённікавага характару. Вось і Н. Гілевіч у нядаўніх публікацыях ("Запісы розных часоў", "ЛіМ", 23, 30 студзеня 1998 г.) настойліва ўзнаўляе гаворку пра небяспеку знішчэння нацыянальнай культуры, мовы і гісторыі. Ён добра разумее, што гэта той рызыкоўны ракурс размовы, калі "ты загадзя аб'яўлены прымітыўным, абмежаваным абывацелем. Паспрабуй перакрыць! Пальцам каля скроні круцяць". Сапраўды, гэтае несімпатычнае таўро "дапатопна-першабытнага філосафа" адпрэчыла (і яшчэ адпрэчыць) шмат каго, а тым часам (зноў цытую Н. Гілевіча): "Разбурэнне беларускай этнакультурнай прасторы ішло дзесяцігоддзямі, але ніколі так інтэнсіўна, як у апошні час, як сёння. І хто ж паўстае супроць гэтага разбурэння? Жменька "няшчасных нацыяналістаў"? Хто яшчэ? Хто — за выратаванне нашай этнакультурнай прасторы? Каго гэта пасапраўднаму хвалюе? Хто разумее, што гэта значыць для лёсу народа, нацыі? Хто разумее, што этнакультурная прастора Беларусі — гэта прастора яе МОВЫ, што са знікненнем

мовы знікне і сама гэтая прастора, вядомая свету пад назвай Беларусь?" Назіранні за грамадскімі з'явамі духоўнага парадку азваліся горкім роздумам і ў новай прозе В. Адамчыка ("ЛіМ", 20 лютага 1998 г.): "Цяпер жа нам, хрысціянам-беларусам, не толькі рот, але і дыханне заціскаюць. Але ж і іхняе горла, як сказаў святы Павел у сваім лісце да рымлянаў, ёсць адкрыты гроб".

Праз аўтабіяграфізм выяўляецца сутнасць чалавечай сітуацыі, яе надзённасць, таму зусім невыпадкова, што творы, адрозныя па форме, па спосабу падачы матэрыялу, па самой мастацкай задуме маюць нечакана ўстойлівыя сыходжанні і паралелі. Засяроджанасць на побытавых рэаліях, нацыянальных і сацыяльных праблемах, абмежаваная "геаграфічная" прывязка доўгі час былі падставамі для абвінавачвання нашай літаратуры ў правінцыйнасці, тэматычнай абмежаванасці. Але ж вопыт успрымання жыцця праз "малы свет", законы якога з'яўляюцца агульназначнымі, — мастацкі прыём, добра вядомы сусветнай літаратуры. І ацэньваецца ён як паўнавартасны, уласцівы канкрэтнай творчай індывідуальнасці варыянт засваення рэчаіснасці. Пра яго, як выяўленчы мастацкі прынцып, яшчэ на пачатку 70-х гадоў слушна пісаў літаратуразнаўца Л. Аруцюнаў: "Мастак у межах "малога" аб'екта выяўлення імкнецца ахапіць нацыянальнае быццё ўвогуле, "мікрасвет" робіцца аналагам "макрасвету". І, згадваючы лакальнасць сюжэтнай плошчы асобных твораў У. Фолкнера, Г. Гарсія Маркеса, І. Друцэ, Ч. Айтматава, даследчык заўважае, як, здавалася б, выпадкова выхапленая пільным пісьменніцкім вокам з агульнай плыні жыццёвая прастора быццам бы і не губляе прыкмет звычайнай мясцовасці, але ў той жа час пераўтвараецца ў нешта зусім адметнае, тоеснае свету наогул — і засяроджвае ў сабе агульныя праблемы быцця. Думаецца, што ў адносінах да беларускай літаратуры настойлівае ўзнаўленне падобнага мастацкага прыёму павінна ўспрымацца не як абмежаванасць ці правінцыйнасць, а як спецыфічная форма засваення рэчаіснасці, уласцівая менавіта гэтаму, канкрэтнаму, беларускаму тыпу нацыянальнай і сацыяльнай культуры.

Цікава, што такі вось "Косма-Псіха-Логас" (Г. Гачаў) нацыянальнага светаспасціжэння захоўвае сваю ўстойлівасць нават пры ўмове змены тэматычнага і "геаграфічнага" абсягаў. Узяць хаця б аўтабіяграфічную аповесць-эсэ Л. Дранько-Майсюка "Стомленасць Парыжам", дзе адчуваецца неўласцівая нашаму прыгожаму пісьменству арыентацыя на вопыт французскай сюррэалістычнай школы. Тут пісьменнік свядома адасабляецца ад надзённых пытанняў, сацыяльна-гістарычнага кантэксту, побытавых пластоў рэальнасці. Рамантычна-вытанчаная, часам ледзь не эстэцкая плынь яго прозы ўяўляе сабой вынаходлівы асацыятыўны мантаж літаратурна-мастацкіх алюзій, унутраных маналогаў, псіхалагічных экзерсісаў, эпатажных пасажаў, нечаканых фарматворчых прыёмаў, герметычных вобразных канструкцый. Але нават у межах канкрэтна пастаўленай творчай задачы (скіраванай на аслабленне знешняга актуальна-сацыяльнага пласта), на аддаленай геаграфічнай адлегласці (азначанай заходнееўрапейскімі каардынатамі), аўтар усё ж раз-пораз сягае думкай у родныя "ўсходнеславянскія палесціны". Нават чар парыжскіх вуліц не можа заглушыць той натуральны для кожнага свядомага беларуса душэўны верад, які спароджаны хісткасцю сённяшняга духоўнага, моўнага і культурнага стану нацыі. "Мы жывём, — разважае Л. Дранько-Майсюк, — на тэрыторыі няўстойлівай, якая блукае, якую лёгка звабіць". Але ж, не схільны драматызаваць, аўтар успрымае такі парадак рэчаў не як трагедыю, а як асаблівасць. "У тым, што мы такія і радзіма наша такая, — нічога катастрафічнага не бачу, — працягвае ён. — Бачу характар нашай роднай незабрукаванай вуліцы, процілеглы характару дагледжанага еўрапейскага бульвара".

Наступная мастацка-філасофская абгрунтаванне шляхоў выхаду з крызісу, якое дае пісьменнік, вядома, мае характар умоўны, але ж тут акрэсліваецца ягонае разуменне неадназначнасці гістарычнага лёсу нацыі і адказнасці за гэты лёс. Ён піша: "Нам яшчэ трэба выжыць, і мы выжывем, калі зразумеем: жыццё вечнае не таму, што яно падманнае, а таму, што яно цудоўнае; калі ў сваім царкоўна-касцельным падзеле не забудзем, што хрысціянства нам дадзена яшчэ і як цяжкі клопат — гэта значыць што мы, беларусы, павінны жыць з большай маральнай энергіяй, з большым цярпеннем, чым нашыя мацнейшыя суседзі".

Дакументальна-мастацкая проза апошняга дзесяцігоддзя не проста шукае адказы на "спрадвечныя пытанні" — яна прагне ўсталявання "ў знакавай прасторы свету адбітку беларускага досведу, замацавання формул нацыянальнай псіхалогіі і нацыянальнага бытавання" (Ю. Залоска). Яна шле сігнал бедства. І ні ў адной з славянскіх літаратур гэты "SOS" не гучыць сёння гэтак настойліва і роспачна, як у нашай нацыянальнай літаратуры.

**Вераніка СТРАЛЬЦОВА**

КНІГАРНЯ

# "Прыроды еднасць і душы..."

Вось і Пружаны сталі кніжным горадам — у тым сэнсе, што і тут пачалі друкавацца кнігі. Рэдакцыя мясцовай газеты "Раённыя будні" ў гэты нялросты час узялася за выпуск літаратуры. Ластаўкай, якая абяцае добры працяг, стала кніга паэзіі Міколы Антаноўскага "Падсочаны бор". Адразу трэба сказаць, што і самому аўтару, і рэдакцыі дапамаглі здзейсніць гэта калектывы плодакансервавага камбіната, ПМК-21, маслазырзавода, лясгаса, райспажыўтаварыства, МП "Пружанырамбуд".

Колькі слоў пра аўтара "Падсочанага бору". М. Антаноўскі родам з вёскі Сташаны Пінскага раёна (дарэчы, у Сташанах нарадзіўся і яшчэ адзін беларускі паэт, равеснік М. Антаноўскага і сябра яго з часоў маленства Анатоль Шушко, пра што згадвае ў прадмове "Навошта на свеце жывеш..." Віктар Гардзей). Служыў у арміі, скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у рэдакцыях Ганцавіцкай і Браслаўскай раённых газет, пакуль не сталі пастаянным месцам жыхарства Пружаны. Паэзіяй М. Антаноўскі захоплены са школьных гадоў. Праўда, не адразу адважыўся прапаноўваць вершы ў друк. Таму яго першая кніга "Святаяннік" і затрымалася, выйшла толькі ў 1993 годзе.

Кнігай "Падсочаны бор" М. Антаноўскі годна сустрэў сваё 45-годдзе. Атрымалася яна светлай, шчырай, але разам з тым не пазбаўленай і цвярозага, нават трывожнага роздуму, што нязменна прыходзіць да чалавека з узростам: часіна сталасці вымагае ўзважвання стаўлення да пражытага, выказвання ўласнага погляду на многія з'явы.

У творчасці М. Антаноўскага цесна зніта-ваны, як бы два паэтычныя пласты — з аднаго боку, ён лірык, які разумее не толькі душу чалавека, а і душу... прыроды, з другога — у пэўнай меры і публіцыст, якому балюча назіраць, як марнеюць людскія душы, страчваюцца духоўныя каштоўнасці, зыбкімі становяцца маральныя ўстоі. Але публіцыстыка М. Антаноўскага — не трыбунна-паклічная, што дакладна прыкмеціў у прадмове В. Гардзей, а, я сказаў бы, унутраная, якая карэніцца ў самой душы лірычнага героя. І адчуванне такое, што не словамі, няхай і правільнымі, прамаўляе ён, а — болем сэрца. Болем за род людскі, болем за Беларусь.

Аўтарская ўдача — вобраз падсочанага бору. Вобраз, у нейкай ступені, нашай сённяшняй Беларусі. Яна — як сосны, з якіх забралі жывіцу. На выжыванне застаецца мала спадзяванняў, але, калі набрацца сілы, можна адолець нямогласць і выстаяць. І разумееш паэта, калі ён піша:

***Падсочаны бор знемагае,***
***Дзе цішу ляснік сцеражэ.***
***Мне ціша між дрэў дарагая,***
***А хвоі ў цішы — даражэй.***

Увогуле, у М. Антаноўскага асаблівае стаўленне да прыроды, да лесу, ён імкнецца, каб была "прыроды еднасць і душы..." І ў гэтым стаўленні, як мне здаецца, ідзе ад Аляксея Васільевіча Пысіна, у якога, як вядома, ёсць такое прызнанне: "Я веру, быццам сваякам: дарозе — цётцы гаманлівай, дубам — задумлівым дзядзькам, пчале над белаю галінай", ці: "І чаму не стаў я леснікам, лес мой, брат мой..." Быў бы я тваім замком і тваёю брамай".

А ў вянку санетаў "Пушча" выснова яшчэ больш кранальная і значная:

***Як памяць, пушчу не зніявечыць,***
***Шкада, не бачна ў дрэваў сівізны —***
***Іх лёс — як наш лёс, чалавечы.***

Каб упэўніцца, як адчувае М. Антаноўскі слова, наколькі здатны ўкласці глыбокі сэнс у вобразы, знешне традыцыйныя, але і не пазбаўленыя сваёй свежасці, непаўторнасці, бо паэт умее ўкласці і нешта сваё, іншымі незаўважанае, неадчутае, відаць з аднаго з лепшых вершаў кнігі — "Палеская грамніцы":

***Стагамі елкі,***
***Елкамі — стагі.***
***Зялёны колер вочы коле.***
***Ласям па пахвіны кругом снягі.***
***Празрысты лес.***
***Стажное поле.***
***Далей — марозна вёсачка сапе:***
***Пад раніцу за ноч акалела.***
***Шчарбатая сякера лёд дзяўбе.***
***З паленам грэецца палена —***
***Пяе паленніца на ўсе лады.***
***Балюе снегірова войска...***
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
***...І ў гэтае крамянасці густой,***
***Нібы рабіна ў цёплым лесе,***
***Румянее зарэчнаю зарой***
***Грамнічнае Палессе.***

Паэтычны ўзровень кнігі "Падсочаны бор" высокі. Відаць, што ў адборы твораў аўтару добра дапамог Мікола Купрэеў, яе рэдактар. І калі чытач пазнаёміцца са зборнікам, несумненна, атрымае асалоду. А наклад кнігі немалы — дзве тысячы экземпляраў, таму, думаецца, яна трапіць і ў сталіцу.

У Пружанах жа думаюць над новымі "выдавецкімі праектамі", шукаюць спонсараў. А што творцы, вартыя такой увагі, ёсць, сумнявацца не даводзіцца — палескі край багаты на таленты. А ці багаты на фундатараў, пакажа бліжэйшы час.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

УРАЖАННЕ

# А на развітанне — букеты васількоў

Свята дзіцячай кнігі "Сэрцам роднага слова краніся!" адбылося ў гэтыя вясновыя дні ў Ваўкавыскай дапаможнай школе-інтэрнаце. Да нас на сустрэчу прыехалі вядомыя паэты — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы, дырэктар Дома-музея Максіма Багдановіча ў Гродне, Данута Бічэль і лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, супрацоўнік часопіса "Вясёлка" Мікола Чарняўскі. Для апошняга — гэта ўжо другая сустрэча з намі. Упершыню ён пабываў у нас на свяце дзіцячай кнігі шэсць гадоў таму. Яна надоўга запомнілася настаўнікам і вучням, і яны зноў пажадалі сустрэцца з ім.

Пачалося свята... з вялізнага духмянага пірага, што паднеслі вучні гасцям. А потым у прыцішлай і поўнай зале загучалі шчырыя і пранікнёныя радкі М. Багдановіча. Іх цепла і задушэўна чытала сама Д. Бічэль, а таксама яшчэ адна госця — супрацоўніца Дома-музея Максіма Багдановіча Алена Гайко. Данута Іванаўна пазнаёміла прысутных і з новай кніжкай "Ты не самотны...", якую яна і паэт Алесь Чобат поўнасцю прысвяцілі аўтару славутага паэтычнага зборніка "Вянок".

Апрача лірыкі, гучалі ў той дзень у зале гумар і жарты, пацешкі, загадкі і скорагаворкі, на якія вельмі багатыя дзіцячыя кніжкі Д. Бічэль і М. Чарняўскага, і якія заўсёды даспадобы чытачам і слухачам, асабліва дзецям. Усе ўсміхаліся, радаваліся сустрэчы, і гэта, напэўна, ставарала надзвычай вясновы сонечны настрой ва ўсіх — і ў гаспадароў, і ў гасцей.

Не абышлося свята без канцэрта, які наладзілі выхаванцы школы-інтэрната, без сюрпрызаў для гасцей: у канцэрце ўпершыню прагучалі новыя песні на словы Д. Бічэль і М. Чарняўскага. Акрыліў іх, паклаў на ноты, а потым развучыў з дзецьмі настаўнік музыкі Леанід Скалабан. Дарэчы, ён працуе ў нашай школе з самага першага дня яе адкрыцця — ужо сорак першы год! Пад яго кіраўніцтвам нашы самадзейныя артысты не адзін раз на конкурсах і фестывалях самых розных узроўняў займалі самыя пачэсныя месцы.

На развітанне настаўнікі і вучні школы атрымалі ад гасцей-літаратараў кніжкі і паштоўкі з іх аўтографамі, а самі літаратары — прыгожыя сувеніры, змайстраваныя рукамі выхаванцаў школы, а таксама букеты такіх жа прыгожых і з душою зробленых дзіцячымі рукамі сінявокіх васількоў.

**Святлана КАРАБАЧ**

*г. Ваўкавыск*

АДГАЛОСКІ

# Паспешлівая выснова

Цяпер у нашай літаратуры атрымаў пашырэнне параўнальна новы від празаічных твораў ці жанр, які называюць па-рознаму: мініяцюра, карацелька, абразок. З некалькімі дзесяткамі навел-карацелек пад агульнай назвай "Калейдаскоп" пазнаёміла чытачоў і Лідзія Арабей ("ЛіМ", 10 кастрычніка 1997 г.). Паколькі далей гаворка пойдзе пра адну з гэтых карацелек (пад загалоўкам "Уважать себя заставил..."), пададзім яе цалкам:

"Я пыталася шмат у якіх паэтаў, празаікаў — як разумеюць яны пушкінскія радкі з "Яўгенія Анегіна":

***Мой дядя самых честных правил,***
***Когда не в шутку занемог,***
***Он уважать себя заставил...***

Вось гэта як разумеюць — "уважать себя заставил"? І ўсе мне казалі, што разумеюць буквальна (па-беларуску трэба — літаральна. — **І. Л.**): прымусіў сябе паважаць. А на самай справе ў часы Пушкіна гэта была ідыёма, па сэнсе такая, як "приказал долго жить", "сыграл в ящик". Карацей кажучы — памёр. І гэта трэба ведаць у першую чаргу перакладчыкам.

Пры ўсёй пашане да вядомай пісьменніцы мусіш насцярожыцца: катэгарычнасць яе сцвярджэння рызыкоўная. Калі Он уважать себя заставил абазначае "ён памёр", то ці ж кантактуе гэта з двума папярэднімі радкамі і як тады разумець чарговы, чацвёрты радок гэтай жа анегінскай страфы? А ён такі:

***И лучше выдумать не мог.***

Атрымліваецца няўвязка, лагічная нестыкоўка, неяк канцы з канцамі не сыходзяцца. І гэта пярэчыць творчай манеры Пушкіна, для якога, паводле ягонага вызначэння, дакладнасць і сціслаць — найпершыя вартасці літаратуры.

Далей ідзе радок:

***Его пример другим наука.***

Тут міжволі ўсклікнеш: "Барані Божа! Якая жорсткасць!.. Няхай людзі жывуць..."

Не, як з папярэдніх радкоў, так і з далейшага тэксту страфы выразна відаць, што дзядзька не памёр, што ён толькі хворы:

***Но, боже мой, какая скука***
***С больным сидеть и день и ночь,***
***Не отходя ни шагу прочь!***
***Какое низкое коварство***
***Полуживого забавлять,***
***Ему подушки поправлять,***
***Печально подносить лекарство,***
***Вздыхать и думать про себя:***
***Когда же черт возьмет тебя!***

Уся пададзеная вышэй першая страфа рамана — гэта думкі "маладога гулякі" Анегіна, які па раптоўным выкліку свайго хворага дзядзькі імчыцца да яго, употай спадзеючыся стаць спадкаемцам дзядзькавага маёнтка. Пакуль Анегін едзе ("летит в пыли на почтовых"), аўтар робіць рэтраспектыўны экскурс, знаёміць чытача са сваім героем, расказвае пра яго мінулае. І толькі ў 52-й страфе вяртае нас да таго, з чаго пачаў свой раман. Аказваецца, як ні спяшаўся Анегін, але, "прилетев в деревню дяди",

***Его нашел уж на столе,***
***Как дань готовую земле.***

У згаданай карацельцы сцвярджаецца, што ў часы Пушкіна была ідыёма уважать себя заставил са значэннем "памёр". Не, не было такой ідыёмы, таму як і не падаюць тагачасныя акадэмічныя слоўнікі рускай мовы (1794, 1822, 1847). Калі б яна была, яе абавязкова ўключыў бы ў свае дзве знакамітыя працы У. Даль, які, дарэчы, быў сябрам Пушкіна і на руках якога памёр паэт пасля дуэлі. Калі б нават такая ідыёма і існавала, то ў кантэксце прыведзенай страфы яна недарэчы.

Л. Арабей сваё, нібыта пераноснае, ідыяматычнае, але, як паказана, недакладнае разуменне спалучэння уважать себя заставил раіць "ведаць у першую чаргу перакладчыкам". Штосьці не чуваць, каб хто-небудзь з нашых паэтаў зноў узяўся за пераклад "Яўгенія Анегіна", пасля таго як гэта зрабіў (лічацца: на высокім узроўні) А. Куляшоў. Гэты пераклад паэт уключаў і ў Зборы сваіх твораў. Вось першыя радкі рамана ў перакладзе А. Куляшова:

***Мой дзядзька правіл без заганы,***
***Калі не жартам занямог,***
***Усіх прымусіў да пашаны***
***І лепей выдумаць не мог.***

Як бачым, А. Куляшоў таксама ўспрыняў сэнс памянёнага спалучэння літаральна і адназначна. Як і павінна быць.

Памылковае ж атаясамліванне гэтага спалучэння з неіснуючай ідыёмай не на карысць не толькі перакладчыкам, але і звычайным чытачам, асабліва студэнтам ды вучням, якія у такім разе можна ўвесці ў зман.

**Іван ЛЕПЕШАЎ**

*г. Гродна*

## Шырыня творчых абсягаў

Літаратар, кнігазнаўца, гісторык культуры — такая шырыня творчых абсягаў доктара філалагічных навук Юрыя Лабынцава, які жыве ў Маскве і з 1994 года з'яўляецца дырэктарам Цэнтра беларусазнаўчых даследаванняў Інстытута славяназнаўства і балканістыкі Расійскай акадэміі навук. Юрый Андрэевіч вывучае гісторыю, культуру і літаратуру Беларусі XII—XX стагоддзяў. Акрамя таго, яго пастаянна цікавяць такія праблемы, як Беларусь у Еўропе і свеце, палітыка і культура, гісторыя славянскай стададрукаванай кнігі, узаемасувязі славянскіх літаратур. Ю. Лабынцаў апісаў і апублікаваў шэраг важных крыніц па гісторыі і культуры беларусаў, што захоўваюцца ў розных краінах свету. У прыватнасці, дзякуючы яму пабачылі свет "Кірылаўскія выданні супрасльскай друкарні" (1978), "Славянская кірылаўская друкаваная кніжнасць XV — 1-й чвэрці XVIII ст." (1982), "Апісанне выданняў Нясвіжскай друкарні і друкарні Васіля Цяпінскага" (1985), "Кнігі Францыска Скарыны ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Кіева" (1991), "Архіў беларускага Адраджэння. Дакументы, помнікі беларускай царкоўнай і грамадзянскай гісторыі ў зборах Музея імя І. Луцкевіча ў Вільні" (1993) і іншыя. Толькі ў Мінску выйшлі такія кнігі Ю. Лабынцава, як "Скарынаўскі каляндар" (1988), "Пачатае Скарынам" (1990), "Старая казка Палесся. Турава-Пінская зямля" (1993) і іншыя. Сярод іх і невялікія памерам томікі, выпушчаныя выдавецтвам "Мастацкая літаратура", якія дапамагаюць лепш зразумець творчую спадчыну двух слаўных сыноў Беларусі — "Зерцало жития..." З літаратурнай спадчыны Ф. Скарыны" (1991) і "Напой росою благодати..." Малітоўная паэзія Кірылы Тураўскага" (1992).

Нядаўна Юрыю Андрэевічу споўнілася 50 гадоў. Віншуем яго з юбілеем і зычым і надалей працаваць плённа і мэтанакіравана!

## Зноў з "Айчынай"

Выйшаў чарговы нумар "Настаўніцкай газеты". І як звычайна, асветніцкі дадатак "Айчына" атрымаўся змястоўным і цікавым. Адкрываецца ж ён падборкай "Тры пісьмы на адну тэму", у якіх гучыць шчырая заклапочанасць лёсам роднай мовы ў школе, а значыць і ў грамадстве. Праблемы беларускай дзяржаўнасці ў 1917 годзе закранае ў артыкуле "Шлях да ідэі самавызначэння" С. Рудовіч. М. Грудзінскі і Н. Жданюк запрашаюць наведаць музей "Беларуская хатка", створаны вучнямі і настаўнікамі Адамоўскай базавай школы Валожынскага раёна ("Няхай жыве ў пластах гадоў..."). Да 120-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Самойлы прымеркавана публікацыя матэрыялу Д. Кавалевіч "Анёл-ахоўнік" Янкі Купалы". А. Грыцкевіч ("Гістарычная эстафета") падрабязна аналізуе пяць выпускаў альманаха "Бацькаўшчына", які выходзіць у выдавецтве "Юнацтва". "Колас вяртаецца на Пухаўшчыну" А. Карлюкевіча — гаворка пра тое, як на гэтай зямлі ўшаноўваюць памяць народнага песняра. Апублікавана шэраг іншых матэрыялаў, якія спрыяюць справе нацыянальнага выхавання.

## "Роднае слова", N 4

Штрыхі да творчага партрэта А. Масарэнкі М. Тычына назваў "ET FUMUS PATRIAE EST DULCIS". Вершы М. Багдановіча "Страцім-лебедзь" і "Пагоня" па-новаму прачытвае І. Навуменка ("Толькі ў сэрцы трывожным пачую..."). "Гукатворчасць А. Разанава і еўрапейская літаратурная традыцыя" — такі падзагаловак мае артыкул Е. Лявонавай "Гук" — "Электрон" — верша". Працяг аналізу лірыкі Я. Янішчыц у артыкуле С. Калядкі "Любоў мая, ты песня і мая маркота..." Тут жа падборка твораў паэтэсы "Пачынаецца ўсё з любві...". Па матэрыялах рамана "Хрыстос прызямліўся ў Гародні" А. Сцяпанава даследуе "Рысы постмадэрнізму ў творах Уладзіміра Караткевіча". "Ён пачуў у спеўнай роднай мове былога токі — карані..." — рэцэнзія М. Прыгодзіча на рэферацыйна-бібліяграфічны даведнік "Прафесар Леў Міхайлавіч Шакун", падрыхтаваны В. Краснеем, Б. Плотнікавым, В. Трайкоўскай. Л. Юрэвіч выступае з артыкулам "Даследаванні беларускай лексікаграфіі за мяжой". Метадычныя аспекты вывучэння лірыкі Я. Купалы на прыкладзе вершаў "Аднаго дня" ў полі зроку І. Жука ("Абуджаная жалейка"). У артыкуле Г. Запартыкі "Лісты з пакут і спадзяванняў" разглядаецца эпісталярная спадчына паэта А. Салаўя. Рамансы Э. Зубковіч на вершы беларускіх паэтаў прадстаўляе В. Скорабагатаў. Н. Кузьміч ("Цвіці, першая вясновая кветка") расказвае пра справы супрацоўнікаў і аўтараў часопіса "Першацвет".

ВІНШУЕМ!

# Юрасю СВІРКУ — 65

6 мая вядомаму нашаму паэту Юрасю Свірку спаўняецца 65 гадоў. Лімаўцы сардэчна віншуюць свайго калегу з юбілеем і ад душы зычаць яму доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі і новага творчага плёну. Пра тое, што ён будзе, красамоўна сведчаць новыя вершы паэта, якія прапануюцца ўвазе чытачоў.

Юрась СВІРКА



### Нехутаранскае

*Расцвіў ён. Да вокнаў пралез*
*Адзіны наследнік сялібы.*
*Ліловаю навіссю бэз*
*Сябе прымярае да шыбаў.*

*Прыгожа. Ды ўсё-ткі часцей*
*Пачуць бы, як рыпаюць дзверы,*
*Каб хаце вачыма дзяцей*
*Глядзець васільковым даверам.*

### Як чужы...

*А нарэшце і ён дачакаўся прыёму.*
*Як ён верыў, што сябра паможа яму!*
*Не прыняў. Усміхнуўся:*
*"Спяшаю дадому...*
*Што, цябе не пусцілі?*
*Не знаю, чаму".*

*Гэта ж разам яны штурмавалі*
*навуку,*
*Пяць гадоў глянцавалі,*
*як кажуць, штаны.*
*Пакляліся, што іхнія дзеці і ўнукі*
*Будуць вернасць сябрам берагчы,*
*як яны.*

*І не зробяць іх чэрствымі*
*час і пасады,*
*Як былі, так і будуць навечна сябры.*
*Пакляліся, што іх дабрату і спагаду*
*Не задзьмуць, як слабую іскрынку,*
*вятры...*

*"Ты звані", —*
*ён сказаў як чужому нібыта.*
*І пайшлі. Не пацiснута нават рука.*
*Ён — да "Чайкі" дзяржаўнай, —*
*пад бляск антрацыту,*
*А сябрук, як відаць, —*
*у напрамку шынка.*

### Сваё не згадваю і ў сне...

Друг другу мы тайно враждебны,
Завистливы, глухи, чужды...

А. Блок.

*Калісьці мроіў я радкамі,*
*На памяць ведаў больш сваіх.*
*Хоць неабдзелены сябрамі,*
*Іх вершы не чытаў я ўслых.*

*Гады мінулі. І сумую.*
*Сваё не згадваю і ў сне...*
*Часцей радкі сяброў цытую,*
*Што лепш сказалі за мяне.*

•

*Як цяжка і як горка маладой*
*Застацца ў дваццаць восем удавой.*

*І гэта не на год і не на два —*
*На ўсё жыццё не жонка, а ўдава.*

*Чакаць? — Але адкуль яго чакаць...*
*Хаця і не стамляецца ўяўляць*

*Яго пяшчотным, мілым, дарагім,*
*Ніхто не зможа параўнацца з ім.*

*Калі пагляд мужчынскі апячэ,*
*Пакоціцца слязінка па шчацэ.*

*І сэрца затрапечацца не ў лад:*
*Жаданы ён і крыўдны ёй, пагляд.*

•

*Дні невясёлыя насталі*
*Такія непазбежны дні.*
*Як некалі, не вабяць далі,*
*Як ні заві і як ні сні.*

*Твая рука пахаладзела*
*Ды і ў маёй не больш цяпла.*
*Раней і ты не так глядзела.*
*Вачэй праменнасць адцвіла.*

*У маладосць няма вяртання.*
*Маліцца б мне былой красе.*
*Ды кроў мая*
*маё жаданне*
*Тваёй крыві ці данясе?*

### Тры дарогі

*Тры дарогі сышліся ў дарозе адной,*
*Трыадзінай. Яна так убачана мной:*

*Конь па першай дарозе паважна ідзе.*
*Я, вазак, пакланяюся гэткай хадзе;*

*Па другой —*
*за канём колы круцяцца ўслед,*
*Ім зазвычай цікаўны*
*ў загадкавы свет;*

*А па трэцяй — нябачнай —*
*(няма ёй канца),*
*Мая памяць сягае хутчэй за ганца;*

*Тая, першая сцежка,*
*што конь пратаптаў,*
*Прарасла, зарунела палоскаю траў;*

*Той дарогі, якою калёсы рыпелі,*
*Каляіны-разоркі яшчэ не змялелі;*

*А дарогаю трэцяй,*
*што ў вечнасць пралегла,*
*Мая памяць паперадзе бегла і бегла.*

### Нарачанская імпрэсія

*Неба Нарачы зоркі дарыла*
*І ў наш час, і спрадвеку, даўно.*
*Нарач зоркі тыя ў вадзе серабрыла*
*І як скарбы спускала на дно.*

*І цяпер, калі месяц над ёю*
*Жаўтаватай бляшнёю вісіць*
*Свецяць зоркі аздобай сваёю,*
*Залатою, што ярка зіхціць.*

*На глыбіні-вышыні змянілі.*
*Не згубілі нічога яны.*
*Яны ў высях спрадвеку свяцілі*
*І ў глыбінях іскрыста відны.*

*Не дрыготка ім тут, не спякотна.*
*Свет вады вабіць тайнай сваёй.*
*Абхапіла іх Нарач пяшчотна*
*Залатою пясчанай касой.*

*Палюбілі касу залатую*
*І крышталь нарачанскай вады.*
*І ні кроплі яны не шкадуюць,*
*Што зляцелі з нябёсаў сюды.*

### Напрыканцы веку

*Два гады, апошніх, засталося...*
*Столькі веку нашаму пажыць.*
*Мой узрост не лета лічыць — восень:*
*Неба менш святлее,*
*больш — імжыць.*

*Блізка дваццаць першае стагоддзе,*
*Яго бераг бачыцца здалёк,*
*Нібы востраў, пры любой пагодзе*
*Распазнае і не пільны зрок.*

*Непазбежнасць у жыцці такая:*
*Да мяжы, апошняй, век ідзе.*
*І прысуду вечнасці чакае,*
*Ад яе не дзенешся нідзе.*

*Ды не боязь, не адчай трывожаць,*
*(Я — не вечны. Вечны чалавек!),*
*Дажывём напэўна, а не можа,*
*Векаў век і свой, магчыма, век...*

ПРОЗА

*Няма такой дабрадзейнай жынчыны, якой бы не абрыдла яе дабрадзейнасць.*

Ф. ЛАРАШФУКО

Няма жанчыны няшчаснеи, чым дабрадзейная.

Асабліва калі табе за трыццаць, і ты ўжо ...наццаць гадоў жонка мужа, які не адрознівае Пікаса ад Маціса, і восень сёлета загасцілася, і сунуцца колы твайго лёсу па выбітай каляіне — і, можа, ніколі, ніколі не збочаць...

Лілія Іванаўна, дызайнер па інтэр'ерах, стаіць на ўласнай кухні, падперазаная фартухом у буйныя гарохі, і падазроно вывучае аркуш, які дастала з прыгожага канверта з выявай залатой кветкі. Гэта запрашэнне на чарговае пасяджэнне клуба дабрадзейных жанчын "Белая лілея". Лілія Іванаўна ніколі не чула пра існаванне такога клуба... Але месца пасяджэння ўказана самае прэстыжнае — там, дзе, як вядома з газет, бываюць "зоркі" і куды прыходзяць высокапастаўленыя асобы. Надрукаваны і тэзісы клуба — кактэйль цытатаў з Біблії, Агні-Ёгі ды модных філосафаў. Трэба ж, які тытул — дабрадзейныя жанчыны! Самі сабе яго прысвоілі?

Калі не розыгрыш, дык тутэйшая мадыфікацыя "сініх панчох". І Лілія Іванаўна хавае канверт на кухоннай паліцы, між кніг па кулінарыі.

Пакуль Лілія Іванаўна рыхтуе вячэру для мужа і дачкі, давайце бліжэй пазнаёмімся з гэтай, трэба прызнацца, досыць шараговай кабетай. Лілія Іванаўна працуе ў адной так званай "сумеснай" фірме. Праўда, не так даўно. Да гэтага сядзела ў дзяржаўным праектным інстытуце. Праекты яе рэгулярна перамагалі на прафесійных конкурсах, але зарплата затрымлівалася не менш рэгулярна... Да таго ж пагроза скарачэння... Вось і пайшла на "вольны хлеб". Пра афармленне Ліліяй Іванаўнай адной прэстыжнай крамы нават двойчы згадвалася ў газетах. Атрыманую валюту за гэтую працу Лілія Іванаўна аддала мужу. Той схаваў нязвыклыя для сям'і зялёныя паперкі на "чорны дзень"... І яна забылася на іх. Бо не належала да тых жанчын, што купляюць сабе французскія духі і сумачкі з кракадзілавай скуры за кошт сямейнага бюджэту. І ўвогуле надавала мала ўвагі свайму знешняму вобліку, наконт якога не мела, дарэчы, ніякіх ілюзій. Не ўсім жа быць каралевамі прыгажосці!.. Прывыкла ад часоў студэнцкага юнацтва да самаробных упрыгожванняў са скуры і дрэва, сумачак-"торбачак", някідкай касметыкі. Абутак і адзежу можна купіць і ў дзіцячай краме — там ёсць "дарослыя" памеры, толькі мадэлі папрасцей і танней... Паліто дзесяць гадоў — накінула зверху шаль, надзела капялюшык — вось і шарм! Хаця пры жаданні магла і апранууца — муж, пабадзяўшыся беспрацоўным, уладкаваўся наладчыкам тэхнічнага абсталявання ў Палацы сучаснай моды... Але — ну, якая такая глабальная розніца між памадай за сем тысяч і сто тысяч, ботамі з натуральнай скуры і штучнай... І нашто залатыя пярсцёнкі, калі срэбныя высакародней!

Не разумела Лілія Іванаўна і тых сваіх сяброўак, што хваліліся любоўнымі прыгодамі. Іх вазілі на іншамарках, вадзілі ў рэстараны, частавалі цукеркамі з шампанскім...

Не тое, каб Лілія Іванаўна не хацела цукерак з шампанскім... Але ў яе была натуральная грэблівасць да "лёгкіх паводзін". Дапусціць да сябе чужога мужчыну — усё роўна што пакарыстацца чужой зубной шчоткай. Нехта зробіць гэта без рэфлексій, другога — званітуе...

Не дзіва, што Лілію Іванаўну практычныя людзі лічылі наіўнай дурнічкай: не ўмее жыць...

Хаця і зайздросцілі ўпотай гэтай дурнічцы... Ой, як зайздросцілі!.. Усе гэтыя модныя прыгажуні, не абцяжараныя сям'ёй, разумніцы і ганарлівкі. Проста самотныя кабеты... Хаця Лілія Іванаўна пра іх зайздрасць нават і не здагадвалася...

— Мама, есці давай!

— Жоначка, з голаду паміраю! — даносіцца з вітальні галасы. І Лілія Іванаўна таропка падае на стол.

Снег усё не выпадаў. Гараджане панына тупалі па мокрым асфальце, які люстраваў іх шэрыя твары. Лілія Іванаўна забылася пра таямнічае запрашэнне. Але неўзабаве ўвечары да іх у кватэру патэлефанавалі. Трубку ўзяў муж. Пас-

# ДАБРАДЗЕЙНЫЯ

*Людміла РУБЛЕЎСКАЯ*



ля некалькіх слоў ён змяніўся з твару, чамусьці пачаў вольнай рукой падцягваць свае спартовыя штаны, прыгладжваць рэдкую чупрыну. Страціў усю мужчынскую паважнасць.

— Зараз, зараз... Адну хвіліначку... Я яе паклічу...

Па энергічнай мужнінай жэстыкуляцыі Лілія Іванаўна зразумела, што тэлефануе нехта асабліва важны. Сапраўды — гэта аказалася Леакадзія Сямёнаўна, дырэктар Палаца сучаснай моды, дзе працаваў муж. Дырэктарку за вочы звалі "Цэрберша", і ўсе баяліся яе, як агню.

— Вы не забыліся, Лілія Іванаўна, — нечакана салодка гучала кантральта дырэктаркі, — што заўтра пасяджэнне клуба "Белая лілея"? Спадзяюся, запрашэнне атрымалі своечасова? Я — сябра праўлення клуба. Будзем рады вас бачыць.

Цяпер ісці трэба было абавязкова...

У горадзе аказалася не так ужо мала дабрадзейных жанчын. Не менш за паўсотні. І выглядалі яны менавіта так, як павінны былі выглядаць — ніякіх міні, ніякіх дэкальтэ, яркай касметыкі. Прычоскі — строгія вузлы на патыліцах ці немудрагелістыя стрыжкі. У многіх — акуляры. Што ж, прынамсі, знешне яна не вылучаецца... Лілія Іванаўна сядзела за кутнім столікам з шэрага мармуру і спалохана разглядала невядомыя далікатэсы: нешта падобнае на марскую капусту, загорнутую ў чырвоныя скрылёчкі, рознакаляровыя жэле ў металёвых ракавінах, маленькія бутэрброды, нанізаныя на шпількі — канапэ яны называюцца, ці як? Адзінае, што можна было браць, не баючыся парушыць этыкет, — высокая шклянка з кактэйлем... Кактэйль аказаўся безалкагольны і даволі гідкі на смак. І ўвогуле ўся зала была такая халодная, вялікая, няўтульная... Шэры мармур сцен, люстраныя калоны... Цьмянае святло белых пляскатых плафонаў... Не, імпрэза ніяк не прыпадабнялася звычайнай вечарыне. Хаця б таму, што наводзіла сум нягучная арганная музыка. І тое, што ў зале прысутнічалі адны жанчыны. І засяроджаныя абліччы, і строгая вопратка. І незразумелае адчуванне нейкай... тэатральнасці таго, што адбываецца. Вось і дырэктар Палаца сучаснай моды, мажная, гучнагалосая, у чорным касцюме з белым кантам... А вось... ну так, гэты твар Лілія Іванаўна неаднойчы бачыла на экране тэлевізара. А гэта... Ну так, жонка... не будзем называць, чыя.

Вызначыла яна і яшчэ адну заканамернасць, у клубе не было занадта старых і маладых. Усе — кабеты так званага сярэдняга ўзросту.

Між тым арганная музыка заціхла. За маленькі столік з мікрафонам у цэнтры ўселася жанчына ў белай сукенцы, з тварам прыемным і прывітным, але занадта ўладным. Лілія Іванаўна вырашыла, што гэта старшыня клуба. Жанчына ўпэўнена загаварыла:

— Вітаю шаноўных сяброў клуба "Белая лілея" і кандыдатаў у сябры! Дазвольце нагадаць, што клуб аб'ядноўвае жанчын, якія адпавядаюць высокаму цэнзу па трох паказальніках: маральнасць, інтэлектуальнасць, грамадская значнасць. Мэта клуба — супольнымі намаганнямі спрыяць выратаванню грамадства. У Космасе жаночы і мужчынскі пачатак — "інь" і "ян" — злучаны непадзельна. Толькі іх сінтэз спараджае гармонію светаўладкавання. Сёння ў нашым хворым свеце стваральная энергія "інь" амаль не запатрабаваная. Мужчыны стварылі свой агрэсіўны свет са сваімі каштоўнасцямі. І горш за ўсё, што гэтыя каштоўнасці сталіся адзіна рэальнымі для большасці жанчын, патэнцыяльных носьбітаў энергіі "інь". Так званае вольнае каханне, якое марнуе вялікую таямніцу нараджэння жыцця, узаконілі яны, мужчыны, бо "ян" па прыродзе сваёй — хаос, неўпарадкаванасць, экстрапаляцыя. Улада зброі і грошай — гэта фетышызм мужчын... А жанчына прывыкла глядзець на сябе, як на частку мужчынскага свету, і недахоп у сабе якасцей, уласцівых мужчыне, лічыць сваімі недахопамі. А якасці, уласцівыя толькі жанчыне, — таксама лічацца яе недахопамі... Поспех жанчыны ў грамадскім жыцці, творчасці ў першую чаргу сустракаецца непрыязна жанчынамі! Існуе пагроза выраджэння энергіі "інь". І тая, што хоча зрабіцца яе носьбітам і праваднікам, выканаўцай місіі сусвету, мусіць адрозніваца высоімі маральнымі якасцямі. Сям'я і мацярынства павінны быць для яе непарушнымі святынямі — вялікі грэх траціць энергію "інь" па-за арэолам сямейнага агменю. Адначасова жанчына мусіць выявіць свой інтэлектуальны і творчы патэнцыял у карысным для грамадства рэчышчы, заняць пэўнае месца ў соцыуме і спрыяць у выкананні місіі такім жа носьбітам энергіі "інь". Як бачыце, наша арганізацыя моцна адрозніваецца ад прымітыўных феміністычных арганізацый, таму што толькі дабрадзейнасць і крышталёвая чысціня ставяць жанчыну на вяршыню светастварэння, а зусім не вольнае каханне і перайманне мужчынскіх якасцяў.

Зразумела, знайсці асоб, якія б адпавядалі гэтым патрабаванням, а значыць, і прынцыпам нашага клуба — вельмі і вельмі нялёгка. Кожная кандыдатура падлягае пільнаму вывучэнню. Любое парушэнне аднаго з прынцыпаў — аўтаматычнае выключэнне з клуба. Таму на сёння ў клубе налічваецца шэсцьдзесят чатыры паўнавартасныя сяброўкі, уключаючы філіялы клуба ў іншых гарадах, — і ўсяго тры кандыдаткі...

Лілія Іванаўна ўся сцялася, бо была ўпэўнена, што на яе звернуць увагу... Але старшыня толькі прапанавала даць слова музыкам і запрасіла ў залу струнны квартэт з Аўстрыі.

У квартэце таксама аказаліся адны жанчыны.

Лілія Іванаўна пацягвала свой гідкі кактэйль і не магла даўмецца, у чым сэнс гэткіх занудных пасяджэнняў. Дакладна, "сінія панчохі", як яна і думала... І чаго яе так настойліва сюды запрашалі? Увесь вечар праседзела ў цёмным кутку... Праўда, пэўна, ад хвалявання, мроілася нечая пільная ўвага да сваёй сціплай асобы... Але, апроч імгненных выпадковых позіркаў, Лілія Іванаўна прыкмет увагі не выявіла.

Вечарына скончылася нечакана хутка. Пасля выступу струннага квартэта прысутныя палюбаваліся слайдамі пра старажытныя абразы Божай Маці, праслухалі кароткую лекцыю і пачалі разыходзіцца. Ужо на выхадзе Лілія Іванаўна азірнулася і заўважыла, што некаторыя жанчыны знікалі за невялікімі дзвярыма між дзвюма люстранымі калонамі... Што ж, якая ёй справа... Няма ў яе жадання ўступаць у гэты клуб...

Жыццё не змянялася. Хіба што аднойчы ў паштовую скрынку ўкінулі асобна выдрукаваныя правілы ўступлення ў клуб "Белая лілея" — тое самае, пра што гаварыла старшыня. Жартам Лілія Іванаўна ўжо не магла гэта лічыць, але ставіцца сур'ёзна... Нават мужу не магла як след пераказаць, што чула на пасяджэнні — нейкі "інь", "янь"...

Пасля першага поспеху з'явіліся заказы на афармленне інтэр'ераў самых розных устаноў, і Лілія Іванаўна пачала браць працу дахаты. Хто не спрабаваў залезці ў перапоўнены тралейбус з двума планшэтамі метр на метр — не зразумее, наколькі Лілія Іванаўна была аднойчы ўдзячная незнаёмаму блакітнавокаму мужчыне, які заходзіў у тралейбус перад ёй, падхапіў ейныя планшэты і трымаў над галавой на выцягнутых руках аж пяць прыпынкаў. Шчасце яшчэ, што ён выходзіў разам з ёю.

Не варта заводзіць знаёмства з жанчынай, якая толькі што выйшла з грамадскага транспарту. Капялюш у яе набакір, двух гузікаў на паліто не хапае, і крылцы яе анёла-ахоўніка пакамечаныя.

— Вы павінны ездзіць на машыне, — незнаёмец аддаў планшэты Ліліі Іванаўне. — Бачыць вас у натоўпе — усё роўна што трапічнага матыля ў адзежнай шафе...

І пайшоў. Лілія Іванаўна толькі цяпер разгледзела, што незнаёмец высокі і дужы, і надзіва элегантны. На машыне!.. "Ха-ха-ха" тры разы... Паправіла капялюш, планшэты пад паху — і наперад, да сваіх каструляў...

На наступны дзень Лілія Іванаўна зноў сустрэлася на прыпынку з тым... блакітнавокім. Шчыра кажучы, паспрабуй ён неяк загаварыць, пазнаёміцца, Лілія Іванаўна без ваганняў "адшыла" б яго. Уся яе адпрацаваная сістэма самаабароны мабілізавалася б... Але мужчына стаяў на другім канцы прыпынку і нават не глядзеў на выпадковую спадарожніцу. Неяк само сабой атрымалася, што ён зноў падхапіў яе планшэты. Прычым асаблівай радасці з гэтага не выявіў. Яна нават адчула сябе вінаватай — стварае абставіны, калі добрае выхаванне прымушае чалавека займацца цяжкай няўдзячнай працай... Бо сама Лілія Іванаўна, відаць, сёння не справілася б са сваёй ношай і, як часта даводзілася рабіць, прайшла б два прыпынкі да тралейбуснага кальца, дзе лягчэй сесці.

Незнаёмец без усякіх каментарыяў аддаў Ліліі Іванаўне планшэты, ветліва развітаўся і пайшоў у свой бок. Так што ёй нават зрабілася крыўдна — мог бы нешта й сказаць...

Усю ноч ішоў нудны дождж, які па логіцы прыроды даўно мусіў быць снегам. Вецер шпурляў у вакно мокрыя лісты, ужо не жоўтыя, а цёмна-карычневыя, амаль чорныя — нібыта стукаліся ў шыбу прывідныя рукі... Штучная скура боцікаў патрэскалася, і Лілія Іванаўна дарэмна шукала на прыпынку — спрэс лужыны — месца, дзе праз ненадзейныя падэшвы не прасочвалася б вада... Незнаёмца на прыпынку не аказалася. Лілія Іванаўна адчула такое расчараванне, што сама сабе здзівілася. І яшчэ больш засмуцілася з сябе, калі ўзрадавалася, пабачыўшы яго праз дзень... Спадарожнік зноў дапамог Ліліі Іванаўне несці планшэты, але не развітаўся на прыпынку. Сёння яму трэба было зайсці ў краму, што каля яе дома, і яны пайшлі разам.

— Прабачце за нахабства, але хацелася б даведацца, што за таямнічыя прадметы выпала мне несці. Вы мастак?

— Не, дызайнер... Афармляю інтэр'еры.

— Як цікава... А я — музыкант, віяланчэліст.

Размова завяла Лілію Іванаўну і яе планшэтаносца ў такія інтэлектуальныя вышыні, калі сама сабе радуешся — якая ж ты разумная ды эрудзіраваная...

Ля крамы мужчына развітаўся, не зрабіўшы ніякіх закідаў на далейшае знаёмства. Нават імя не папытаўся...

Надышлі выхадныя. Муж Ліліі Іванаўны праводзіў іх перад тэлевізарам — глядзеў усё запар, аддаючы перавагу "баевікам". А яна "адводзіла душу" — займалася інтэр'ерам уласнай кватэры. Уласна кажучы, Лілію Іванаўну нельга было назваць добрай гаспадыняй. Пра што ніколі не забывался нагадаць свякруха. Не ляжала ў ейных шафах адзенне роўнымі стосікамі, не без плямаў былі кашулі ейнага мужа... Дый мыў іх найчасцей ён сам. Затое аздабленне кватэры была адмысловым. Нібыта нічога шыкоўнага — але адчуванне шыку... Вока не ведае, на чым спыніцца. Збаны з непаліванай гліны, сухія кветкі, саматробныя дыванкі, карункавыя сурвэткі, плеценыя з лазы крэслы, неверагодныя накідкі з кавалачкаў скуры і футра... Галоўная цяжкасць для Ліліі Іванаўны была не ў тым, каб стварыць такую абстаноўку, а адстаяць самое права на яе існаванне... І вольны час яна траціла не на прасаванне, гатаванне ці цыраванне, а на выраб новых сурвэтачак ці фігурак з саломкі і лёну, маляванне карцін ды іншае... Тут бы і разжыцца капейчынай з пабочнага промыслу, але кожны свой выраб Лілія Іванаўна неверагодна апчаджала, кожны здаваўся ёй непаўторным, часткай сябе, таму і дарыла з цяжкасцю, адрываючы... І ніколі падоранае не забывала. Хутчэй на апошнія грошы купіць падарунак...

Але цяпер, перабіраючы стракатыя шматкі, думала яна не пра тое, што з іх прыфантазіруе, а пра блакітнавокага незнаёмца... Міжволі параўноўвала яго з мужам... Упершыню за ...наццаць гадоў шлюбу падумалася: а што, каб той, другі, быў на месцы гэтага?..

Фу, сарамацішча... Захоўваць столькі гадоў цнатлівасць (па вызначэнні Эмануэль: цнатліўка — жанчына-аднамужніца), каб загарэцца выпадковым чалавекам, закруціць думкі вакол нічога, фантазіі, пустэчы... Намарыць сабе можна такое, што пасля не выблытаешся з уласных думак. Ну што было? Міжвольны дотык рук, размова пра мастацтва...

У яе хопіць сілы волі, каб выкінуць з галавы гэтае насланнё..

А ў панядзелак ён сустракаў яе на прыпынку з букетам жоўтых лістоў.

Яго звалі Валерый Паўлавіч.

На развітанне ён пацалаваў ёй руку. Лілія Іванаўна руку вырвала, і заявіла, што яна прыстойная жанчына, і няхай ён не спадзяецца на нешта... І ўвогуле няхай лепш не трапляецца ёй на вочы... У яе сям'я... Любімы муж... І не трэба ўскладняць жыццё ні сабе, ні іншым...

Прыйшла дадому і расплакалася.

З клуба "Белая лілея" рэгулярна дасылалі літаратуру ў падтрымку і прапаганду жаночай дабрадзейнасці. З мужам надарылася некалькі надарэчных сварак. Дачка прынесла са школы двойку па рускай літаратуры. І колькі ні называй сябе дурніцай, нічога не змяніцца...

Раніцай нарэшце выпаў снег. Ён сыпаўся мокрымі камякамі, і не было ў ім нічога ад карункавай зімовай казкі, адно нежыццёвая, нялюдская туга... На прыпынку таптаўся некалькі чалавек, некаторыя яшчэ ў асенніх паліто, змерзлыя і злыя... Валерыя не відно... Хаця... За пластыкавым шчытом нібыта знаёмая сіняя куртка... Ён...

Але неяк дзіўна стаіць, нібыта ногі не трымаюць... П'яны? Абсеў на зямлю... Лілія Іванаўна, з некаторай грэблівасцю, падышла да яго... І сэрца яе абрынулася. Валерый са скрываўленым тварам, у падранай куртцы, але — зусім не п'яны, толькі надзвычай бледны, спрабаваў узняцца на ногі, адысці ад яе, схавацца...

— Прабачце, я не хацеў парушаць слова... Затрымаўся тут выпадкова... З нагой нешта...

Лілія Іванаўна з жахам глядзела, як Валерый Паўлавіч заціскае насоўкай глыбокую драпіну на лбе, і кроў цячэ па пальцах, капае на снег...

— Вы... вы пабіліся? Вас абрабавалі? Трэба хуткую дапамогу, міліцыю...

— Міліцыю?! — ён нечакана рагатнуў. — Прабачце, Лілія... Якраз з міліцыяй нядаўна і сустракаўся... Не, я не бандыт. Мы ўчынілі пікет з патрабаваннямі прыбраць адну ваенную базу... Я — пацыфіст... — Валерый Паўлавіч прадэманстраваў значок на куртцы — нешта падобнае на перавернутае дрэва ў крузе. — Не палохайцеся, нічога страшнага не адбылося. Ва ўсім свеце пацыфісты ўчыняюць падобныя акцыі, і ва ўсім свеце іх б'юць...

Лілія Іванаўна слухала і халадзела. Нешта новае, незвычайнае ўваходзіла ў яе жыццё. Ніколі не мела яна дачынення ні да якіх палітычных суполак, чужымі здаваліся ўсе мітынгі і дэманстрацыі... Чаго мітусіцца? Улада — брудная справа, палітыка — таксама. І трэба як мага далей трымацца ад іх. Адзіная рэальнасць — сям'я і творчасць... І вось, калі ласка — скрываўлены пацыфіст з разагнанага пікету, якому міліцыянт выкруціў нагу і разбіў лоб...

(Працяг на стар. 12)

для размовы. Хай даруюць мне зацятыя прыхільнікі аўтарскага тэатра, тэатра драматурга; я спашлюся на Пітэра-Брука, які таксама мяркуе, што п'еса — нагода, толькі нагода для размовы з залай. Такой і сталася "Дарагая Памэла". Ёсць пэўная жанчына... з зоркі. І яе, як і мяне, як і нас, цікавіць, ці зрабіліся людзі лепшымі за апошнюю тысячу гадоў. Не, не зрабіліся, як высвятляецца. Але яны ўсё адно заслугоўваюць спачування! З ейнага пункту гледжання... Мне не хочацца адказваць на пытанні ў пастаноўцы, мне хочацца іх ставіць... Ці каштуе жыццё трох маладых людзей жыцця адной, нікому не вядомай старой? Ім, маладым, трэба жыць... Але ж не за кошт іншых! Як у Высоцкага: "Усім нам хопіць вады, усім нам хопіць зямлі..."

**— А ў тэатры? Ён жа таксама — адзін на ўсіх.**

— Прабач. Але трэба ў ім ствараць умовы. З намі трэба насіцца, нянькацца, падыгрываць нам, шкадаваць нас, разумець капрызы ды крыўды... Прабач. Калі хоць у кагосьці з нас ёсць валоданне прафесіяй (пра талент проста не кажу), ёсць здольнасці, дык іх трэба заахвочваць — хоць бы ўвагай! Любіць нас цяжка, бо мы шкадлівыя, амбіцыйныя, самалюбівыя, ганарыстыя. Штурхаемся, баркаемся, але ў тэатры, дзе абыякава стаўяцца да размеркавання роляў, дзе ўсё адно — першая яна ў мяне або не першая, лепшы ў мяне спектакль, або так сабе, — у такім тэатры нічога выдатнага не з'явіцца. Трэба толькі зберагаць раўнавагу паміж гэтым змаганнем характараў ды чалавечнасцю. Як у Брука: балансаваць на мяжы хаосу і парадку. Гэты баланс закладзены ў самой прыродзе тэатра з ягонымі самазабойчымі прафесіямі! Па ступені небяспекі для жыцця (сусветная статыстыка) на першым месцы — лётчыкі-выпрабавальнікі, на другім — рэжысёры-пастаноўшчыкі. Бо акцёры ў сваіх ролях — людзі палярныя, з рознымі зарадамі, а каб скіраваць іх, каб у залу пайшоў ток тэатральнага дзеяння, трэба камусьці іх злучыць. Разрады, як правіла, праходзяць праз рэжысёра. Так шмат трэба ўтрымаць... толькі ў дзвюх руках! І — поспех. На ўсіх. Або — няўдача. Яна — толькі твая. Рэжысёрская...

**З Якавам НАТАПАВЫМ**
**размаўляла Жана ЛАШКЕВІЧ**



*На здымку: Іна Усовіч і Вячаслаў Паўлюць у спектаклі "Лэдзі Кронкі і мышы".*
*Фота А. КУШНЕРА*

**працаваць у ДМШ N 2 завучам, у дзевятай — завучам; намеснікам дырэктара — у музычным вучылішчы. І вось вы педагог знакамітага каледжа. Трохі пра вашу педагагічную "кухню", калі ласка.**

— Спачатку браў вопыт іншых выканаўцаў, ігру якіх я аналізаваў. Шмат дапамагаў удзел у міжнародных конкурсах. Колькі напрамкаў, стыляў, школ — каласальны досвед для педагога! Магу цяпер ужо казаць пра ўласнае крэда. Першае: як мага хутчэй навучыць тэхнічна валодаць інструментам і разбірацца ў музычнай форме. (Гаворка тут пра скарачэнне шляху аваладання скрыпкай). Другое: дамагчыся высокай выканаўчай культуры. Трэцяе, самае галоўнае: інтэлект, без яго цяжка. Кожнага, нават маленькага, бачу як асобу. Мая справа — раскрыць гэту асобу. Асцярожна і трапятліва вяду кожнага вучня і хвалююся, ці не перашкаджаю я яму развівацца. Стараюся разглядзець залатое зярнятка, раскрыць гэтае зярнятка — вось мая задача.

**— Вы павінны быць псіхолагам і любіць дзяцей...**

— Проста трэба спяшацца рабіць дабро. Люблю людзей, дзяцей, музыку. Хачу каб музыка людзей радавала, на кожным уроку кажу: іграйце не тое, што я вам гавару, а тое, што адчуваеце. Іграйце свае думкі, і выявіцца асоба!

**— Ваша вучаніца Каця Дзяруга, калі ўпершыню грала з аркестрам, зрабіла такое ўражанне, нібыта... тэлебачанне здымае фільм з ейным удзелам. Віртуоз Арцём Шышкоў, пра якога пісаў "ЛіМ" і які добра калегуе з Уладзімірам Співаковым, за межамі Беларусі абараняе гонар нашай краіны, і ён гэта ўсведамляе. Што тут: адказнасць ці ганарыстасць?**

— Без ганарыстасці вынікаў не дасягнеш, без адказнасці таксама немажліва. Мае вучні разумеюць, што сённяшні поспех — гэта не поспех на ўсё жыццё. Трэба працаваць яшчэ і яшчэ.

**— Эдуард Віктаравіч, а як атрымліваецца, што нашы зорачкі, пертвораныя ў сталых музыкантаў, потым непатрэбныя дзяржаве?**

— Чым горш жыве народ, тым менш яму патрэбная культура... Чым багацейшая краіна, тым большая патрэба ў высокім мастацтве. Але ж не толькі матэрыяльны бок усё вызначае. Культура народа павінна быць вышэй, тады і будзе жаданне слухаць класічную музыку, тады і ў нас будуць, як за мяжой, з'яўляцца на першых старонках газет фотаздымкі майстроў мастацтва — гонару краіны.

**— Без удзелу бацькоў выкладчыку цяжка працаваць з даравітымі дзецьмі?**

— На мае ўрокі дзеці прыходзяць толькі з бацькамі. Яны бачаць, што я патрабую ад вучняў, і могуць дапамагчы дома дзіцяці, як і што рабіць.

**— Нават калі бацькі не музыканты?**

— У Арцёма Шышкова ў сям'і проста "добрае надвор'е". У бацькі тонкі слых і ён вельмі патрабавальны да сына. Але такая патрабавальнасць дае вынікі... Можна сказаць, вучацца не толькі дзеці, але і іхнія бацькі.

**— Пра што, акрамя музыкі, вы размаўляеце з вучнямі?**

— Я сам люблю паэзію, літаратуру, мастацтва, таму і з вучнямі размаўляю пра гэтыя віды творчасці. Такія размовы далі нечаканы вынік: мой вучань Уладзімір Ліхтэн, закончыўшы каледж, паступіў не ў Акадэмію музыкі, а ў Акадэмію мастацтваў... А наогул, лічу, што дрэнны той педагог, якога не перасягнуў вучань.

**— Эдуард Віктаравіч, ці патрабуеце вы, каб вучні слухалі запісы розных выканаўцаў?**

— Спачатку — ніякіх праслухоўванняў. Калі твор вывучаны і я зразумеў адносіны хлапчука ці дзяўчынкі да гэтага твора, тады гавару: слухай іншых, бяры лепшае! Заўважу, што на ўроках мы прайграваем творы ў адпаведнасці з патрабаваннямі сцэнічных умоў. І калі я сказаў "усё добра", дзеці смела ідуць на сцэну. Яны любяць сцэну, чакаюць сустрэчы са слухачом. Але не даю ім доўга знаходзіцца на воблаках, апускаю на зямлю: кажу трэба працаваць зноў.

Ведаеце, пра дзяцей, пра вучняў мы з жонкай можам гаварыць бясконца. Нават пасля работы. І, дарэчы, займаючыся педагогікай, зноў і зноў пераконваюся, што наша сістэма музычнай адукацыі адна з лепшых у свеце. І трэба яе берагчы. Галоўнае, каб нашы музыканты былі патрэбныя сёння сваёй краіне, дзеці павінны гэта адчуваць. Нашы зорачкі не павінны згаснуць. Гэта клопат дзяржавы. Музыка вымагае ад яе грунтоўнай падтрымкі.

**Гутарыў Аляксандр МІЛЬТО**

*На здымку: Эдуард Кучынскі, лаўрэат міжнародных конкурсаў Арцём Шышкоў, Жанна Кучынская і канцэртмайстар Ганна Беражная.*

ДУША

# "Твой выбар" — выратаванне

## НАТАТКІ З ДАБРАЧЫННАЙ АКЦЫІ "САЛІСТЫ ВЕНЫ — ДЗЕЦЯМ БЕЛАРУСІ"



У рамках фестывалю "Мінская вясна" адбылася дабрачынная акцыя, так бы мовіць, фестываль у фестывалі — "Салісты Вены — дзецям Беларусі". Яе наладзіла грамадскае аб'яднанне "Беларускае таварыства ўрачоў" і Беларуская дзяржаўная філармонія. Салісты Венскай оперы Алівера Мілякавіч (сапрана) з Сербіі і Паўлет Хэрбіх (меца-сапрана) са Злучаных Штатаў Амерыкі 30 і 31 сакавіка далі канцэрты ў Вялікай зале філармоніі, а 1 красавіка выступілі перад жыхарамі Светлагорска. Мінскія і светлагорскі канцэрты мелі мэтай азнаёміць выхаванцаў музычных школ нашай краіны з творчасцю сусветна вядомых майстроў опернай сцэны, а таксама сабраць сродкі для дзіцячай раённай бальніцы Светлагорска. Планаваўся ўдзел у канцэртах баса з Бельгіі Вільфрыда Ван дэ Брандэ, але ён не прыехаў па прычыне нездароўя. Увогуле вясна не лічыцца ў спевакоў добрым часам для гастроляў, вандроўка ва ўмовах веснавога перападу тэмператур можа кепска адбіцца на галасавых звязках. Тым болей мы павінны быць удзячны спадарыням Мілякавіч і Хэрбіх.

Разам з імі ў канцэртах бралі ўдзел Дзяржаўны камерны аркестр і камерны хор Беларусі, піяніст Юрый Гільдзюк. За дырыжорскім пультам у Мінску быў Дзмітрый Зубаў з Расіі.

Выступленні ў Мінску майстроў такога класа — выдатная падзея, але нічога надзвычайнага для культурнага жыцця сталіцы ў гэтым няма. Іншая рэч — Светлагорск. Гэты горад мае ўстойлівы "імідж" беларускага "Садома і Гаморы" і па сумнай вядомасці ў свеце саступае хіба што Чарнобылю. Светлагорск мае адзін з самых высокіх працэнтаў па заражанасці ВІЧ-інфекцыяй у Еўропе. Нават гавораць (я не чуў афіцыйных пацвярджэнняў альбо абвяржэнняў гэтых размоў), што больш працэнт хворых на СНІД адносна колькасці жыхароў мае толькі Нью-Йорк. Так што культурніцкая акцыя з удзелам сусветных зорак у Светлагорску мела на мэце паспрыяць усталяванню ў горадзе духоўнасці. Высокае мастацтва — альтэрнатыва сённяшняму занепаду. Арганізатары і ўдзельнікі дабрачыннай акцыі слушна лічаць, што СНІД і наркаманія, як з'явы сацыяльныя, вымагаюць і адпаведных сродкаў барацьбы. Не толькі пашырэння сеткі медычных устаноў, але і развіцця культуры. Бо культурны чалавек наўрад ці пацягнецца да шпрыца з наркатою, здолее засцерагчыся ў небяспечных сітуацыях.

Такія канцэрты спрыяюць і таму, што жыхары малых гарадоў пачынаюць сябе паважаць і ў іх з'яўляюцца мясцовы патрыятызм і адпаведныя амбіцыі. Праграма светлагорскага канцэрта адрознівалася ад таго, што пачулі мінчукі. А ў працяг выступілі мясцовыя таленты, выхаванцы Светлагорскай школы мастацтваў. І гэта не ўспрымалася дысанансам.

Падчас дабрачыннай акцыі былі сустрэчы з кіраўніцтвам горада Светлагорска і Светлагорскага раёна, наведанне раённай дзіцячай бальніцы, прэс-канферэнцыя. Гэта спатрэбілася для таго, каб лепей азнаёміць (з дапамогаю прэсы) грамадскасць і ўлады краіны з праблемамі Светлагорска.

Гораду, які апынуўся ў такім незайздросным стане, хранічна не хапае лекаў, чыстых прадуктаў, сродкаў на аздараўленне — найперш дзяцей. Светлагорск — гэта Палессе, Гомельшчына і... Чарнобыль. Напачатку Светлагорск уваходзіў у зону перыядычнага кантролю. Гэта давала права на бясплатныя лекі і бясплатнае аздараўленне дзяцей у санаторыях і лагерах адпачынку. У 1996 годзе на падставе не зусім зразумелага ў юрыдычным сэнсе рашэння, якое дазваляе пераглядаць статус зон кожныя тры гады, строгі кантроль зрабіўся пастаянным, пастаянны — перыядычным, а зоны перыядычнага кантролю былі абвешчаны чыстымі. Цяпер ствелагорцам за лекі і аздараўленне даводзіцца плаціць. Сёння, калі дзіцячыя ўрачы цікавяцца ў бацькоў, чаму яны не водзяць дзяцей на чарговыя медагляды, тыя адказваюць: "А навошта? Вы выпішаце лекі, на якія ў нас усё роўна няма грошай".

Скажам шчыра, горад застаўся сам-насам са сваімі праблемамі. А тут яшчэ наркаманія і СНІД, вытокі чаго трэба шукаць у адсутнасці адпаведнай сучасным патрэбам культурнай інфраструктуры. У СССР так было заўжды, спачатку будавалі прамысловы гігант, які прыцягваў людзей без каранёў з усяго Саюза, потым ужо — сякое-такое жытло, а у апошнюю чаргу — клубы, кінатэатры, спартыўныя і выставачныя залы (калі, зразумела, грошы заставаліся...). І пачынаў народ бавіць вольны час (якога пры сённяшнім беспрацоўі стала яшчэ болей) з алкаголем, адкуль недалёка да шпрыца і СНІДа.

Кіраўніцтва раёна і горада, у прыватнасці, старшыня райвыканкама Уладзімір Пальнь, мэр Светлагорска Баляслаў Пірштук, кіраўнік тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання Дзмітрый Саламонаў і галоўны ўрач раённай дзіцячай бальніцы Людміла Сонеш намагаюцца вырашаць праблемы, якія засталіся ім ад "светлага мінулага" ды яшчэ й разрастаюцца ў спецыфічных абставінах нашай сённяшняй рэчаіснасці. Горад трымаецца за кошт уласных сродкаў, за кошт добраахвотных ахвяраванняў і адлічэнняў ад прыбыткаў мясцовага бізнесу ды яшчэ за кошт дабрачыннай дапамогі з-за мяжы. Светлагорская медыцына можа недадаць дарослым, але дзеці ўсё неабходнае атрымаюць — такія тут прыярытэты.

Журналісты запыталіся: арганізатары дабрачыннай акцыі ў Светлагорску і Мінску (гэта найперш "Беларускае таварыства ўрачоў") робяць высакародную і, безумоўна, патрэбную справу, але ці не бяруць на сябе функцыі дзяржавы, даючы такім чынам уладзе магчымасць "расслабіцца" і ўхіліцца ад сваіх абавязкаў? Можа, і так, — адказаў Аляксандр Цярэшчанка, кіраўнік прыгаданага таварыства, — але выйсця няма. Нехта павінен гэта рабіць. Тым болей, што дэмакратызацыя грамадства прадугледжвае ўзмацненне ролі няўрадавых грамадскіх арганізацый.

17 красавіка канцэрт, сродкі ад якога пойдуць у Светлагорск, адбыўся ў Вене. Цікаўнасць да дабрачыннай акцыі і гатоўнасць дапамагчы выказалі амбасады Югаславіі, Летувы, Вялікабрытаніі, Кыргызстана ў Мінску. Дадам, што гэтыя канцэрты адбываліся ў межах праграмы "Твой выбар" — мастацтва як сродак выратавання, духоўнага і фізічнага.

Напрыканцы прыгадаю словы спадарыні Аліверы Мілякавіч:

"Маё дзяцінства выпала на часы яшчэ больш цяжкія. На другую сусветную вайну. Мне хацелася плакаць, але я спявала. Я заўжды спявала для людзей, каб зрабіць іх шчаслівымі. Таму для мяне няма розніцы: Венская Опера, Ла Скала, Мінск альбо Светлагорск. Мая сцэна — увесь свет! Мастацтва заўжды дапамагала мне ў жыцці, у тым ліку і заробліваць грошы, і цяпер я магу дапамагаць іншым. Таму наша супрацоўніцтва будзе меціь працяг".

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

*На здымку: Паулет Хэрбіх са светлагорскімі дзецьмі.*

*Фота Я. Коктыша*

ГАСЦЁЎНЯ

# Зіновій ПРЫГОДЗІЧ: "Светлага ў жыцці болей"

**— Найперш абгаворым момант далікатны. Як намеснік старшыні Камітэта па друку ты для мяне "Зіновій Кірылавіч". Як калега па творчым саюзе — проста Зіновій. На якім варыянце спынімся?**

— Напзўна, на другім.

**— Я не часта сутыкалася з чыноўнікамі, але ў пераважнай большасці выпадкаў адчувала ў іх нейкую ўнутраную высушанасць, "вымаражанасць". Табе не даводзілася такога заўважаць?**

— Сярод чыноўнікаў, як і сярод пісьменнікаў, людзі бываюць розныя, і я не стаў бы так абагульняць. Акрамя таго, чыноўнікаў мяняе час. Помню, як я двойчы з'явіўся на працу ў ЦК без гальштука — там быў проста перапалох. Мне не зрабілі заўвагі толькі зважаючы на мой малы вопыт: я прыйшоў з газеты, быў раскаваным. Але недаўменныя позіркі былі настолькі выразнымі, што не зразумець іх і не ўлічыць надалей было немагчыма. Існавала знешняе падабенства: а[illegible]лькавыя касцюмы, андатравыя шапкі, р[illegible]навыя паліто (як цяпер новыя рускія падобныя), аднак пры ўсім пры тым людзі адрозніваліся. У тым ліку і ў аддзеле культуры, дзе я працаваў. Сустракаліся чыноўнікі ў найгоршым сэнсе — непрабівальныя; такі глядзіць і ва ўпор цябе не бачыць. А былі і такія, як Валодзя Гілеп, з якім можна было пагаварыць на любую тэму. Алеся Петрашкевіча, загадчыка аддзела, лічыць тыповым прадстаўніком "класа чыноўнікаў" таксама не выпадала.

Я згодзен, работа ў пэўнай ступені накладвае свой адбітак, увесь час трэба знаходзіцца ў нейкіх рамках, працаваць з афіцыйнымі паперамі... Тым не менш, сёння стыль кантактаў істотна змяніўся, стаў больш адвольным.

**— Можна кавай пачаставаць наведвальніка?**

— Так, можна прыняць яго як госця, і гэта абсалютна нармальна. У ранейшыя часы такога не дазвалялася.

**— А раздвоенасці душэўнай няма? З аднаго боку — дзяржаўны чыноўнік высокага рангу, з другога — пісьменнік (што сёння не з'яўляецца прыкметай добранадзейнасці). Пісьменнік і піша, і размаўляе па-беларуску, а чыноўнік — як прыйдзецца...**

— Не ведаю, як бы я вытрымаў дзе-небудзь ў Міністэрстве эканомікі ці замежных спраў, але ж я ў сваёй сферы працую — у культуры. У ведамствах друку, культуры не толькі могуць — тут і павінны працаваць людзі творчыя. Бо яны больш тонка, глыбока разумеюць сутнасць тых працэсаў, якім прызваны дапамагаць. Здаецца, я знайшоў слова: не кантраляваць, а менавіта **дапамагаць**. Нядаўна адбылася, напрыклад, нефармальная гаворка ў часопісе "Беларусь" — і пра матэрыялы, і пра афармленне, і пра планы на будучае. Мы свае заўвагі выказалі, супрацоўнікі — свае...

**— Кажуць, вы самі да іх прыходзілі. У нашы абшарпаныя калідоры!**

— Так. І я, і намеснік начальніка ўпраўлення, і галоўны спецыяліст. Амаль тры гадзіны размаўлялі і развіталіся з харошым пачуццём. І рэдактар, Аляксандр Шабалін...

**— Сам былы цэковец!**

— ...сказаў, што не памятае такой гутаркі за 20 гадоў. На калегію мы таксама вынеслі творчае пытанне: аб рабоце з маладымі аўтарамі. Праўда, сам у час рабочага дня нічога, вядома ж, не напішаш, ды і потым стомлены ўжо. Затое ранічкай як ідзеш на працу хвілін 40, дык, глядзіш, і верш складзецца...

**— Нарэшце мы пераходзім да самага цікавага: з чаго б гэта раптам вершы пайшлі? У празаіка, у чалавека ў добрым сэнсе прагматычнага, лагічнага...**

— Логіку я сапраўды люблю. Але феномена з вершамі, лічу, няма. Я і пачынаў з вершаў. Друкаваўся ў "Піянеры Беларусі", у раённай газеце, літаб'яднанне "Чырвонкі" наведваў актыўна...

**— Значыць, на доўгі час заглухла... і зноў прачнулася штосьці ў душы. Калі гэта адбылося?**

— Гадоў пяць таму. Іду неяк ля Іслачы па лесе, і раптам злавіў сябе на тым, што словы ў радкі складаюцца. Вось ён, той верш:

*Асенні вечар над ракою.*
*Цяпельца кволае блішчыць.*
*І бор сасновы за спіною*
*Аб нечым стомлена маўчыць.*

*Маўчу і я... Пара спакою.*
*І грэюць мне душу ў журбе*
*Майго кастра цяпло скупое*
*Ды мара-згадка пра цябе.*

З яго і пачалося... Прызнаюся яшчэ, што ўсё жыццё пішу дзённік, занатоўваю ўражанні.

**— Для друку ці для сябе?**

— Для сябе.

**— А цэнзар унутраны ёсць — на прадмет як успрыме напісанае патэнцыяльны чытач?**

— Скажу шчыра — ёсць. Ды справа не ў тым. ...Іду неяк на працу: гразь пад нагамі, неба хмурнае, вецер парывісты... І сам прыгнечаны, вочы долу, у асфальт. І раптам за спіною чую: "Во ненармальны!" (рэпліка жанчыны). Гляджу, ажно сядзіць на лавачцы чалавек немаладога веку. Некуды ўгору пазірае, а там, бачу, дзве сінічкі на дрэве. І такая ў чалавека заміляванасць на твары! Такі спакой, такое шчасце... І я падумаў: невядома, хто з нас больш ненармальны — мы, якія гразь таўчам і неба не бачым, ці гэты чалавек!

**— А ў цябе, Зіновій, здараюцца такія імгненні — калі сінічкі, неба, лісцікі?..**

— Дык вершы толькі ў такія хвіліны і пішуцца. Сама ведаеш...

**— Чаму ж ты іх у друк не аддаеш? Саромеешся? Сорам?**

— Проста па вялікім рахунку я не лічу сябе паэтам.

**— Мы ўсё пра сённяшні дзень, сённяшняе адчуванне свету. Давай азірнёмся, га? Ты не прыкмячаў выпадкам, што калі згадваеш дзяцінства, на памяць прыходзяць адны і тыя ж эпізоды — як успышкай высвечаныя.**

— Сапраўды. З ранняга, дашкольнага дзяцінства — чатыры-пяць эпізодаў, не больш. Сядзім, напрыклад, пасярод вуліцы ў пяску. Пясочак сыпучы, беленькі. Вось дзецям было раздолле! Цэлымі днямі бавіліся ў тым пяску...

**— Як я — у калгаснай кукурузе.**

— Школьнае ўспамінаецца падрабязней, з дэталямі. Ад імпрэсіі ўспаміны набліжаюцца да рэалізму. І што б ні пісаў — падсветка адтуль, з дзяцінства, з вясковага. Мая вёска за сем кіламетраў ад вёскі Жэні Янішчыц. Лышча называецца.

**— Скажы, калі ласка, што да цябе прыйшло з гадамі (акрамя непазбежнай мудрасці, сяброўкі сталых год)?**

— З гадамі мяняюцца адносіны да жыцця, да людзей. Праблемы нейкія абцяжарваюць... Расчараванні, здрады... Пры ўсёй вонкавай "благополучности" ў мяне дастаткова драматычная біяграфія. Мне двойчы даводзілася пачынаць "з нуля". Здавалася б, у журналістыцы дасягнуў "столі": стаў галоўным рэдактарам галоўнай тады газеты — "Советской Белоруссии". І вось на пераломе, у 91-м, калі кампартыя сыходзіла з арэны... Ну, а я быў сынам кампартыі, лічыўся стаўленікам ЦК... У тыя часы было модна галасаваць, выбіраць рэдактара. Сход адбыўся, хацелі выказаць недавер, але калектыў спачатку не падтрымаў падбухторшчыкаў. Скончылася тым, што мне ўсё ж давялося пайсці.

**— Чым у такой сітуацыі быў часопіс "Гаспадыня" — ратункам?**

— Адыходзіў я без усялякіх планаў. Засеў у бібліятэцы, узяўся за доктарскую (ужо амаль гатовую). Прагляджаў шмат выданняў, у тым ліку замежных. І аднойчы "асяніла": чаму б не выдаваць і ў нас часопіс для гаспадарлівых людзей? Прыкінуў макет, раздзелы, рубрыкі, праз два тыдні канцэпцыя была гатовая. (Яна, дарэчы, не змянілася і па сёння). Праз пяць гадоў ад заснавання часопіс займае другое месца ў рэспубліцы па тыражы: 225 тысяч. У нас велізарная пошта. Я некалі дзень пачынаў з чытання лістоў. Людзі дзеляцца самым дарагім, душэўным, важным. Яны зразумелі, што часопіс — для іх. Наша задача — падтрымаць людзей у наш складаны час — духоўна, маральна, калі хочаце — матэрыяльна: добрай парадай.

**— Але ж мы загаварылі пра драматычныя моманты з біяграфіі...**

— Ну, пра адзін я ўжо расказаў. А былі непрыемныя моманты і раней, калі я працаваў у ЦК. Пакуль у аддзеле культуры я займаўся сваёй справай, мне было цікава. А потым мяне зрабілі памочнікам сакратара па ідэалогіі, пайшлі бясконцыя даклады...



Тут ужо на самай справе даводзілася бачыць адно, гаварыць другое, а пісаць трэцяе (вось дзе раздваенне!). Двойчы прасіў перавесці мяне на іншую работу. З трэцяй спробы мяне адпусцілі ў аспірантуру ў Маскву. Я там не толькі дысертацыю — дзве аповесці напісаў. Усе музеі абышоў, усе спектаклі пагледзеў. Паэты, артысты ў нас часта выступалі... Шчаслівая пара — калі ты дарослы, усё разумееш і маеш магчымасць працаваць, засяроджваешся на сваім, узбагачаешся душой.

**— Штосьці не атрымліваецца ў нас з драматызмам, Зіновій. Пра што б ні гаварылі, ты зводзіш да станоўчага!**

— Бо светлага ў жыцці ўсё-такі болей. Я вось з якой з'явай сутыкнуўся, як перастаў быць памочнікам. Калегі, таварышы — тыя, што раней руку трэслі, у вочы заглядалі, у госці запрашалі — вокамгненна перамяніліся. Якое ж было маё здзіўленне, непаразуменне, які боль, калі ты сустракаеш іх на вуліцы, шчыра ўсміхаешся, а ён суха кіўне адно: "Здрас-сце"...

**— Нездарма я пыталася пра выдаткі чыноўніцкай працы!**

— Дык і з пісьменнікамі некаторымі таксама было. Аказваецца, ніякіх сантыментаў! Адзін голы прагматызм. Тое ж, як і з газеты пайшоў. Нават студэнцкія сябры, займаючы высокія пасады, не пазванілі, не папыталіся, як я збіраюся далей жыць і ўтрымліваць сям'ю. І гэтыя здрады адклалі зарубкі на сэрцы. Да канца я мо і не зжыў рамантычных адносінаў да людзей, але горкі вопыт заўсёды спыняе: стоп, не адкрывайся. Скептыцызм з'явіўся нейкі... Не дай Бог, калі невяр'е цалкам авалодае душою...

**— Скажы, а жанчыны табе не здраджвалі?**

— З жанчынамі, папраўдзе, лягчэй. У мяне з імі дзіўныя адносіны. І ў школе, і ў студэнцкія гады сярод дзяўчат было шмат сяброўак. Мы і з Вольгай Іпатавай на першым курсе "праважаліся", ды нечакана гэта перарасло ў сяброўства.

**— Можа, так адбываецца таму, што ў жанчыне бачыш найперш асобу, а не пол?**

— Памятаю, на другім курсе прызнаўся сябрукам, што маю дзяўчыну (першае маё цяжкае каханне, яшчэ са школы), і нехта з іх пытаецца: "А якія ў яе ногі?". Я разгубіўся. Ногі? Пры чым тут ногі?! Я не бачыў яе ног — я вочы бачыў, ідэал бачыў! Прыехаў пасля таго выпадку дамоў на канікулы і спецыяльна прыгледзеўся: а якія ж у яе ногі?

**— На ідэалах варта прыпыніцца. Людзі камуністычнай скіраванасці ўсё енчаць, што ідэалаў у грамадстве не стала. Дык ёсць ідэалы ці няма?**

— Чалавек без ідэалаў існаваць не можа, ён ператворыцца ў нейкую маральную пачвару. Іншая справа, што мы "спахабілі" гэтае паняцце сацыялагічным разуменнем, спаліцызавалі яго. Ідэал — як далягляд, без яго не будзе руху. Але ж долар не можа быць ідэалам. Акрамя матэрыяльнага, павінна быць духоўнае багацце.

**— З духоўным цяжэй, не ўзважыш яго, не змераеш... Ды і як ацэніць той, хто сам жабрак?**

— Тут я не згодны. Змерваць-то не змераеш — многа ці мала, — аднак адразу адчуваеш, з кім маеш справу. Па гаворцы, вачах, паводзінах... І адукацыя пры гэтым не мае вялікага значэння. Мама мая, напрыклад, цалкам непісьменная, ніводнага класа не заканчвала, а як годна трымалася з прафесарамі, з пісьменнікамі, якія прыязджалі са мною. І з кожным знаходзіла агульную мову. Бо духоўна багаты чалавек. І не таму, што вясковая. На вёсцы розныя ёсць людзі — і прымітыўныя, і здэградаваныя. Проста ад прыроды такая, Бог надзяліў. І ткаць умее, і маляваць. І так колеры падбярэ, што вачэй не адарваць. Аўра, мусіць, сапраўды ёсць у людзей. Чыноўнік-"дзяржымора" здалёк адпіхвае, адштурхоўвае ад сябе, і чалавек добрай, чыстай душы няўтульна сябе пры ім адчувае, аж курчыцца. А з другім — проста купаешся ў аўры...

**— Згодна з Бібліяй, духоўнае з матэрыяльным багаццем не надта мірацца.**

— Гледзячы што лічыць багаццем. Неабходнае — машына, дача — па-мойму, такім не з'яўляецца.

**— Відаць, багацце — гэта лішнія грошы. А калі ў чалавека ёсць запас грошай, чытала я недзе, то ён тады спадзяецца не на Бога, а на грошы.**

— Спрацоўвае эфект марской вады: чым болей п'еш, тым горай піць хочацца. Хочаш вер, хочаш не вер, а Маркс, здаецца, не памыляўся: там, дзе гаворка заходзіць пра сто працэнтаў прыбытку, чалавек пойдзе на любое злачынства. Ёсць аб'ектыўныя законы дыялектыкі, і занядбанне іх ні да чога добрага не прыводзіць. Адна партыя, не маючы супрацьвагі, у рэшце рэшт загніла, што прывяло да краху ўсёй сацыялістычнай сістэмы.Слушна кажуць: калі няма апазіцыі, то яе варта стварыць. Улада закалыхвае чалавека, пачынаеш некрытычна ставіцца да сябе і сваіх дзеянняў.

**— А цябе крытыкавалі калі-небудзь? Жонка, скажам?**

— Жонка і цяпер крытыкуе. За характар, ён у мяне ўэрыўны. Сын таксама падчас ставіцца крытычна: я не схільны адкідваць усё, што было раней, а ён больш станоўчага бачыць у сённяшнім дні. Імкнуся давесці, што не ўсё так адназначна, трэба быць дыялектыкам. Я ўсё ж кандыдат філасофскіх навук...

**— А як пісьменнік ты зведаў крытыку?**

— Як ні дзіўна — на прыёме ў Саюз пісьменнікаў (пад сорак мне было). Кудравец і Казько прадстаўлялі мяне на секцыі прозы. і абодва накідалі заўваг. "Роўная, правільная проза, — гаварыў В. Казько, — але не хапае ерасі і ахінеі". На шчасце, за мяне ўступіліся "зубры" — Быкаў, Брыль, Карпюк...

**— Каб нас зноў не папікнулі ў недахопе "ахінеі", прызнайся: у цябе ёсць любімы анекдот?**

— Ёсць, але не для жаночых вушэй.

**— А тост?**

— Такога, каб у кішэні і на ўсе выпадкі, — няма. Але адзін прыпамінаецца. Пайшоў Іван рыбу вудзіць, а злавіў жабу. Просіць жаба: "Вазьмі мяне дахаты, чалавеча". Узяў. Сеў есці, а жаба падскоквае: на стол пасадзі, даволася пасадзіць. Лёг у ложак, а жаба тут як тут: пад коўдру яе вазьмі. Вылаяўся, але мусіў саступіць. "Пацалуй", — прыстала жаба. Перасіліў сябе, пацалаваў. А жаба вазьмі ды ператварыся ў прыгожую дзяўчыну. А тут і жонка на парозе. Вось, кажа, чым ты займаешся! Расказаў Іван чыстую праўду, як усё было, а жонка, хоць памры, не верыць.

**— І якое рэзюме?**

— Дык вып'ем жа за тое, каб жонкі верылі у нашыя казкі.

**— Няблага для заканчэння. На тым і завершым нашу гаворку. Дзякуй, Зіновій. І — да пабачэння, Зіновій Кірылавіч!**

Размаўляла
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

лёгкага хлеба (за дзве-тры гадзіны зарабляю, калі пашанцуе, больш за сто тысяч)? Хто ж забароніць вам так думаць? А яшчэ лепш, паспытайце гэтай лёгкасці самі! Ці атрымаеце вы тое задавальненне, якое атрымліваю іншым разам я!? Мастак, які выстаўляе і прадае на плошчы свае карціны, — таксама жабрак? А рыдлёўку ці граблі не вазьму прынцыпова. Хопіць выціскаць раба па кроплі! Калі прагнеш незалежнасці — пі яе нагбом, бяры ўсю і адразу. Стань сабе гаспадаром сам. І хопіць пастаноў, загадаў, указаў і інструкцый! Сорамна не за ігру ў пераходзе, а за ўкленчванне перад дзяржаўнай машынай — заканатворнай бесчалавечнай пачварай! Безумоўна, цалкам незалежным стану толькі ў труне. Але хто сказаў, што да разняволення не трэба імкнуцца пры жыцці? І справа не ў грашах, якія патрэбны толькі для таго, каб пра іх не думаць...

Іграю і забываюся на ранішні страх, перастаю палохацца натоўпу. Музыка, як ракавіна для смаўжа, не толькі адгароджвае мяне ад усяго змярцвелага і абыякавага. Яна, трапіўшы ў сугучнасць з жыццём майго горада, з блізкімі сэрцамі незнаёмых людзей, хоць на хвілю, але забівае наўкола ўсё мінорнае. Я працую. Стараюся рабіць гэта шчыра. Іншым разам, мабыць, не столькі для людзей, колькі для сябе. І мне за гэта плацяць! Таварна-грашовыя адносіны... Тавар жабрака — гора і відавочная нішчымніца (хоць і махляроў тут процьма). Мой тавар — хвілінка гармоніі ў гэтым звар'яцелым свеце, кавалачак светлага смутку, радасці. Ні больш, ні менш. І гэта добра разумеюць тыя, каму сярод дзённай мітусні патрэбна гэтая хвілінка адхлання, тыя, хто плаціць за працу вулічнага музыкі. І не дай Бог мне выклікаць пры гэтым спачуванне. Таму імкнуся выглядаць не прафесійным няўдачнікам, а прыстойным незалежным лабухам...

Не кажу пры гэтым за ўсіх. Вулічны м ка розны па жыццёвых мэтах і сутнасці. Прамільгне на "хлебнай" Камароўцы і п'яніца-гарманіст, закарэлы ад жыццёвых "нягод". І рэпертуар адпаведны: штосьці народна-блатное, да слёз жаласлівае. Такому заробак — для чарговай пляшкі. Запойнае шчасце — норма побыту. Шмат студэнтаў. Так званая новая генерацыя з ліцэяў, каледжаў, вучылішчаў, інстытутаў. Скрыпачы, гітарысты, проста спевакі, кларнетысты, саксафаністы. Асноўная маса вулічных лабухаў. Гэтыя даўно ўжо эканамічна незалежныя ад бацькоў. Зарабляюць у параўнанні з імі удвая, утрая болей. І ганарацца гэтым па вартасці. Не жабракі, а музыкі, якія выкладваюцца цалкам. І паверце, хлеб сапраўды не з лёгкіх. Маладзенькі настаўнік Вадзік (таксама саксафаніст), з якім паўгадзіны назад памяняліся "рабочай тэрыторыяй" пераходу, папярэдзіў, што на Юбілейную гэтымі днямі "патыкацца не варта": аб'явіўся нейкі "мецэнат" з газавай пушкай у кішэні, абкладвае лабухаў падаткамі. Што ж, патыкацца не будзем. І, акрамя Юбілейнай пераходаў у горадзе шмат... Рэкет у нашым асяродку — справа рэдкая. Працуе кожны не больш дзвюх, трох гадзін, месца сваё перадае іншаму. Па папярэдняй дамоўленасці стараемся не перашкаджаць адзін аднаму, але і графікаў надта строгіх няма. А калі месца занята, лабух шукае іншае — горад вялікі. На спрэчкі, а тым больш на бойкі за месца пад сонцам ніхто ні нерваў, ні часу траціць не будзе. Ці ж можна музыку рукамі чапаць? Але ж іншым разам чапаюць. У пенсіянера Ільіча, што ў пераходзе ля паштамта на саксафоне іграе (хваліцца: "Я з Фінбергам калісьці супрацоўнічаў"), год таму нейкі "аматар прыгожага" дзённы заробак "пазычыў". А ў Ільіча дачка, унучка. Усё ў сям'і на яго грашах трымаецца.

Ільіч у дуэце з акардэаністам — летам іх можна на "Дынама" пабачыць — працуе на сваякоў. Вадзік грошы копіць, каб ва універсітэт культуры паступіць. Дзяўчаткі з педуніверсітэта, спявачка і гітарыстка, у пераход на Круглым пляцы, як самі кажуць, для цікаўнасці выходзяць. Сілы паспрабаваць, сябе паказаць. Але і ад грошай не адмаўляюцца — збіраюцца новыя інструменты прыдбаць. Амаль што ўсе асноўную працу маюць альбо вучацца дзесьці. Прынцыповых анархістаў, як я, мала, але трапляюцца. Узаемапаразуменне тут поўнае — проста гідка працаваць на дзяржаву, якая цябе не заўважае. Колькі нас такіх па горадзе, падлічыць цяжка. Пастаянна хтосьці з музыкаў траціць працу, расчароўваецца ў жыццёвых намаганнях і — выходзіць у пераход. А колькі калямузычнай моладзі, якая штодня жадае проста выявіцца, паказаць усім, на што здатная. Атрымліваць грошы за творчае задавальненне — задавальненне двайное... Рэпертуар самы розны. Музыка ўсяго свету! Класіка, фальклор. Вадзік — аматар італьянскай эстрады. Саксафаніст Ільіч "запаў" на настальгічныя мелодыі шасцідзесятых. А колькі іншай музыкі! Безумоўна, узровень выканання самы розны. І непрыхаванай халтуры хапае. У кожнага свой Бог у душы, сваё сумленне, свой густ...

Чаму іграем менавіта ў пераходах? Першнаперш, акустыка. Па-другое, пальцы зімой не так мерзнуць. Ну а па-трэцяе, людна тут заўжды. Ды і ці шмат па Мінску месцаў, прызначаных для адпачынку, з забаронай транспартнага руху? Відаць, свайго Арбата горад наш чакаць будзе яшчэ доўга. Дарэчы, ліцэнзія вулічнаму музыку не выдаецца. Патрабаванне ад улад адзінае: не перашкаджаць. Забаронена іграць у пераходах, якія мяжуюць з метро. Парушальнікаў міліцыя карае штрафамі і цягне ў пастарунак...

Хвілінны перапынак у працы. Куру. Пазіраю на людзей. Яны — жывыя гукі, частка маёй імправізацыі. Пухлая цётка з невыносна пакутлівым тварам і набітымі торбамі ў руках — натужлівы па гучанні кантрабас. Вось незадаволены чыноўнік — вісклівы фагот. А шчаслівая студэнтачка (не ідзе — ляціць!), як пранізлівая флейта. Як шыкоўная канцэртная гітара — дама ў аблачыне дзівоснай парфумы. Прамільгнуў міліцыянт — бубен у руках п'янаватага вясельнага дзядзькі. Натапыраныя постаці ў чорных палітонах, ашчэраныя антэнамі мабільнай сувязі — як група медных духавых на пахаванні "аўтарытэту". І гідлівы ўдар нагой па маім футляры.

— До-рэ-мі-до-рэ-до! — у чорныя спіны. "Не бойся раўнадушных..."

Людзі — гукі. Людзі — ноты. Аркестр, склад якога штохвілінна мяняецца. Як там у Акуджавы, маленькі аркестрык надзеі. Але пакуль, на жаль, не пад кіраваннем кахання... Для мяне галоўнае заўжды — ухапіць гэтую музыку, замацаваць на клапанах саксафона, узнавіць па магчымасці без фальшу. Калі гэта атрымліваецца, я шчаслівы на ўвесь дзень. Ці ж варты жалю чалавек, які шукае гармонію, знаходзіць яе тут, сярод людской плыні, якую яшчэ гадзіну таму абвінавачваў ва ўсіх сваіх бедах? Усё, як і заўжды. Якая гэта пачвара — чалавек! Які гэта цуд — чалавек!

Учора падыходзіла да мяне студэнтка філфака. Я, кажа, п'есу пішу, а таму вытокі творчасці вывучаю. Дык ці не сорамна вам займацца жабрацтвам музычным? Ці ж можна выпрошванне грошай з саксафонам творчасцю называць? І журналіст нейкі надакучлівы таксама калісьці з гэтымі ж пытаннямі прыставаў. Зноў пра тое ж: жабрак ці музыка? Ільіч у такіх выпадках жартачкамі адбіваецца: "Кракадзіл Гена я, іграю "у прохожих на виду". Для народа, дарэчы, стараюся. Значыць, і творчасць мая самая народная. Адыдзі ды не перашкаджай! "Я ж нічога ім не адказаў. Проста за саксафон узяўся. Прымусіў яго і паплакаць, і пасмяяцца. Словамі пра гэта ці скажаш? Да душы толькі душой. А яна ў мяне памерамі якраз з саксафон. ёсць жаданне — слухай, няма — не перашкаджай.

Сусед смяецца: "Ну што ты бадзяешся з унітазам сваім?" Ён, па ўласным меркаванні, грамадзянін добрапрыстойны. Штосьці там махлюе з будматэрыяламі, перапрадае крадзенае паліва для іншамарак, выхваляецца малінавым пінжаком ды залатым ланцужком з палец таўшчынёй. Быццам таксама незалежны, не на дзяржаву працуе. Але ж — злодзей чыстай вады. Такі па костках пройдзе, усё вакол сябе запэцкае, саксафон з унітазам зблытае, а душу — з плявальніцай. У кожнага свой шлях, свае аркестры...

Зноў закурваю. Падцягваю адкінуты футляр — "шапку жабрака". На душы ўсё ж пагана. Ну не хачу я быць добрапрыстойным, ну не возьмуць мяне ў аркестр. Супакойваю сябе думкай, што застацца чалавекам — справа, бадай, самая цяжкая ў жыцці... Пазіраю на заробленае. Усё, як і заўжды... Калі б быў пісьменнікам, абавязкова напісаў бы аповесць пра тое, якім бачыцца свет вось хаця б гэтай пяцітысячнай купюры. Гэта зараз яна, завяршаючы свой пачэсны грашовы век, скамячаная і запэцканая. А якой хрумсткай, ганарлівай непахіснай была яна адразу пасля нараджэння! Мора спадзяванняў і магчымасцяў! У якія рукі трапіла ад друкарскага станка? Калі ўпершыню даведалася, што такое хабар, інфляцыя? Хто напісаў на ёй "Жыве Беларусь"? Ці была яна ў шчаслівых руках? Ці зразумела сэнс свайго існавання?

Рабочы дзень закончаны. Стомлены саксафон бліскуча выгінаецца ў футляры. Яму звыкла на коўдры гукаў, матэрыялізаваных у грашовыя знакі. Ён засынае. Нясу яго дахаты пешкі. Ён заслужыў павагу і адпачынак. Што ён сніць зараз? Напэўна, ноту "до"... Канец і пачатак, між якімі — музыка і жыццё.

Іду не спяшаючыся. Вуліца Захарава. Інстытут замежных моў. Германская амбасада... Калісьці сябар, таксама лабух, зацягнуў на некалькі месяцаў у Нямеччыну. У краіну вулічных музыкаў. Сапраўдных вулічных, бо ў пераходах "касіць" там проста не прынята... Што і казаць, любяць тамтэйшыя добрую музыку. Асабліва экзатычную — славянскую. Гармонік ім падавай, з саксафонам звыкліся. Сябар за тры гады закардонных вандровак руку набіў. Знаёмых за мяжой шмат, заказаў. Нават у кавярнях працавалі. І не падманеш тут, не сфальшывіш. Умеюць немцы адпачыць з густам, а таму і ў музыцы разбіраюцца. У дзень, бывала, і па 170 марак зараблялі, а ў сярэднім — 70. А гэта дзесьці 40 долараў. Каля дзвюх тысяч марак у месяц атрымлівалася. Прыблізны заробак нямецкага высокапрафесійнага рабацягі. Настаўнік, скажам, і да васьмі тысяч атрымлівае. Вось такая таварна-грашовая раскоша. Усё па Марксу, ды толькі не ў нас... Так што "гастролі" хлебнымі аказаліся. Тады дачцэ з кватэрай дапамог, з набыццём іншамаркі. Сябар і зараз за сабой цягне. Але не хачу. Грошай на ежу хапае. Ды за мяжой вельмі ўжо няўтульна сябе адчуваю. Цягне на Беларусь, дахаты. Што зробіш, савецкі я...

Зaробленага сёння хопіць, каб заўтра на працу не выходзіць. Звару зараз кавы, запалю начнік, разбуджу саксафон. Ён не пакрыўдзіцца, бо ведае, для чаго. Мы прадоўжым складаць блюз. Гавораць, гэтая музыка — справа чорных, бо толькі яны дакладна ведаюць, што такое смутак. Лухта! Наш блюз будзе не горшым. Я назваў яго "Песімістычным", бо без смутку ў жыцці не бывае ніколі ні шчасця, ні радасці. Нота "до", якой трызніць мой саксафон, ужо гучыць...

**Адчуў, зразумеў і запісаў**
**Яўген РАГІН**

тратарцы забраць клетку.

Дзяўчынка, такая нядаўна радасная, заплакала.

— Ён... па тэлевізары... гэта...

— Усё ў парадку, чаго ты? — суцешліва сказаў мужчына. — Пойдзем да дырэктара...

Не помню ягоны твар, толькі паліто... і голас. А папугая, здаецца, пазнаў бы і зараз.

Я па-ранейшаму наведваў выставы птушак, услухоўваўся ў балбатню папугаяў. У асноўным яны прамаўлялі стандартныя ўжо дзякуючы радыёперадачам "Птушкі-перасмешнікі" фразы, накшталт: "Ах, какая птичка! Ну что будем пить?" Тым не меней часам адчуваецца ўсё ж уласны птушыны выбар, і тады ў папугайскай, так бы мовіць, рэтрансляцыі гучаць галасы эпохі. Вось сяджу неяк раніцай за пісьмовым сталом, чытаю горкі беларускі летапіс, раптам над галавой нейкі "марсіянскі" голас: "Перестройка! Гласность! Гласность!"

Ад нечаканасці ўздрыгваю, узнімаю галаву — а гэта з адчыненай форткі зазірае ў маю келлю хвалісты блакітна-фіялетавы прыгажун-папугайчык. Дзеля зняцця стрэсу пачаў апладзіраваць, кажу: "Брава, маэстра!" Увішны франт зыркнуў на мяне адным вочкам, другім, нахіліў атласную галоўку і сказаў нечакана скрыпучым мужчынскім голасам: "Выползли... Ишь... Такую великую страну просрали... Сталина на вас нет".

Тут я і ўцяміў, чый гэта гаварунок. Ды і сам гаспадар ужо хадзіў каля дома з задранай галавой, узіраючыся ў вокны.

Сцяпан Лукіч даволі хутка прывабіў свайго папугайчыка канаплянымі семкамі. Птушка заўзята дзяўбла іх з шырокай далоні гаспадара, а потым узняла галоўку, затрэсла крыльцамі і ўзбуджана загулькала, затараторыла, але ўсё нешта няўцямнае.

— Акасеў попка мой, — патлумачыў Сцяпан Лукіч. — Каноплі на яго дзейнічаюць, як транквілізатар. Нічога, хутка задрэмле... Спаць, Жужа, спаць...

А яшчэ тыдні ці не праз тры той гаваркі "ўлез"-такі ў палітыку яшчэ тым чынам — "і прапаў казак!", як сказана ў Гогаля. Магчыма, і па гэтай прычыне Сцяпан Лукіч гэтак не любіць дэмакратаў. Бо ўсё здарылася з-за іхняга чарговага апазіцыйнага шэсця.

Нягледзячы на шчыльнае атачэнне спецвойскаў у камуфляжы (дальбог, так і не разбяруся, хто з іх амапаўцы, хто міліцыянеры, пра спецслужбы ў "штацкім" увогуле не гавару), са шчытамі і гумавымі (кажуць, у сярэдзіну ўпаяны металічны дрот) дубінкамі, празванымі ў народзе "дэмакратызатарамі", дэманстранты ішлі з песнямі, размахвалі бел-чырвона-белымі сцягамі, смяяліся, выгуквалі лозунгі ды пляскалі ў далоні. Яно канечне, Сцяпану Лукічу не трэба было ў такі момант адчыняць фортку. А так папугайчык і слізгануў паміж рук гаспадара на вуліцу, прываблены яркім відовішчам. Хоць халадзіна ўжо стаяла — пад замаразак. Нешта трывожна-прывабнае ёсць у людскіх шэсцях, над якімі вітае дух азарту і трывогі. То як мог не спакусіцца на ўсё гэта маладзенькі пярнаты гаварун з ягонай прагай відовішчаў, усеагульнай увагі і апладысментаў! Даволі хутка ён сапраўды апынуўся ці не ў цэнтры ўвагі, як толькі выгукнуў з дрэва свой заклік:

— В колхоз-з! В колхоз-з!

Так і пайшло далей. У галаве калоны скандзіравалі:

— Беларусь — у Еўропу!

А ў канцы, куды далучаліся і далучаліся тыя, хто спазніўся ці хто ўсё ж адважваўся прымкнуць да апазіцыйнай дзеі, нягледзячы на пагрозлівыя фалангі дзецюкоў з дубінкамі і драпежна прыадчыненыя пашчы "варанкоў", папугай выгукваў зусім процілеглае:

— В колхоз, бля-а! — і ягоныя заклікі гэтак жа сустракаліся вясёлым смехам і дружнымі апладысментамі.

Калона рухалася ў цэнтр горада, а за ёю з дрэва на дрэва пералятаў наш гаварун-прыгажун. Сцяпан Лукіч спрабаваў прывабіць яго, ласкава гукаючы ды выстаўляючы далонь з канаплянымі семкамі. Разы са два папугай такі спакушаўся прысмакамі і падлятаў да гаспадара, так што ледзьве не быў схоплены, але ўвага публікі, апладысменты аказваліся ўсё ж болей прывабнымі, у выніку птушка імкнула зноў на дрэва і адтуль неслася скрыпучае:

— Дерьмократы...

А затым і яшчэ дапоўніла свой рэпертуар:

— Сталина на вас нет! Сталина!

Неверагоднае нешта адбываецца з сэнсам слоў, калі іх прамаўляе папугай.

— В колхоз-з!

Тым часам на крылатага выступоўцу звярнуў увагу сыты малады мужчына ў добрай скуранай куртцы — з тых, хто спадылба цікуе за дэманстрантамі, а пасля мітынгаў ды шэсцяў заўзята іх валачэ ў "варанкі". Ён нешта раз-пораз талдычыў на вуха капітану-амапаўцу, пакуль той не сказаў сваім заняцца птушкай. Міліцыянеры пачалі шпурляць у папугая камякамі зямлі, каменьчыкамі, спрабавалі збіць шапкай, калі папугай сеў на нізкую галінку каштана. У натоўпе пачалі абурацца, у тым ліку гледачы, што стаялі на тратуары. Дзея набывала не на жартачкі палітычную афарбоўку. А папугай усё не стамляўся надсаджваць глотку адмысловымі заклікамі і пажаданнямі, паступова падлятаючы ў галаву калоны дэманстрантаў.

— Ваш попугай? — звярнуўся да Сцяпана Лукіча мужчына ў скуранцы. Той моўчкі пасунуўся ў глыб натоўпу на тратуары. Адтуль яшчэ нейкі час паўглядаўся ўслед папугаю, прайшоў некалькі крокаў, потым плюнуў:

— А прападзі ты пропадам, зараза!

Неяк былы міністр унутраных спраў Юрый Захаранка казаў, што калі яго здымалі з пасады, у службовым кабінеце ён пакінуў свайму наступніку папугая. Экс-міністр не патлумачыў, адкуль птушка ў яго ўзялася.

А цяпер у Сцяпана Лукіча, выходзіць, зноў прапаў папугай. Толькі што навучыўся гаварыць — і вось табе маеш.

КАНЦЭРТЫ

# Што ж вы за беларусы?

Апошнім часам, хоць зрэдку пачала парушацца расійская манаполія на беларускай тэрыторыі. Так, тыдзень таму ў Мінск завітаў украінскі фольк-панк-рокавы гурт "Воплі Відаплясава". Калектыў на постсавецкай прасторы папулярны і легендарны. Спяваюць хлопцы ў асноўным на роднай мове, але ёсць у іхнім рэпертуары і некалькі расійска- і французскамоўных песень. Граюць файную музыку на дастаткова прыстойныя тэксты. Паводле касетаў, якія я чуў папярэдне, "ВВ" уяўляліся да маіх нацыянальных пачуццяў і сімпатый значна бліжэй за ўсе гурты з іншай славянскай і найсамай братняй нам краіны.

Канцэрт, апрача таго што, натуральна, прынёс духоўна-мастацкую асалоду, давёў адную прыкрую рэч. Праз прыватны выпадак праілюстравалася, як астатнія ўспрымаюць беларусаў у плане нашай нацыянальнай аздобы. Алег Скрыпка, лідэр "ВВ", прадэманстраваў досыць глыбокі сцёб, выкшталцоны і грубы адначасова. Так, саліст гурта, які, дарэчы, як сцвярджаюць, перад нядаўнімі парламенцкімі выбарамі на Украіне падтрымліваў правую партыю УНА, прамаўляў паміж песнямі знарок па-расійску. У зале на гэта шмат хто зніякавеў і пакрыўдзіўся. Да Скрыпкі нават даслалі некалькі цыдулак з абуральным зместам. У першай, калі пераказваць яе вольна і тактоўна, было напісана наступнае: чаму гаворыце па-расійску? У другой іранічна пыталіся, што ж вы за ўкраінцы?

Не, украінцы былі насамрэчнымі. Гэта папросту мы — незавершаныя і недабеларускія. Наўрад ці хлопцы з "Вопляў Відаплясава", прайшоўшы па мінскіх вуліцах, убачылі розніцу паміж намі і тымі, да каго мы гэтак падобныя. Таму, мабыць, і выступалі як у Маскве, дзе "ВВ" часта канцэртуе. Музыкі стасункаваліся з аўдыторыяй, уважаючы яе за недарэчна аморфную і нацыянальна безаблічную. Сталася дастатковым падаць толькі трохі ўпадабанай яшчэ за савецкім часам экзотыкі ўкраінскага акцэнта ў расійскай мове.

Ды ўсё ж застаецца надзея, бо некаторым, хай хаця б некаторым, было прыкра...

**Кірыла ПАЗНЯК**

ПОГЛЯД

# Зазірнуць у вочы часу

Барыс СТРАЛЬЦОЎ

ДЗЕ ЯНЫ, вочы нашага часу, вочы веку?

Лірыкі кажуць, што блакітныя беларускія азёры — гэта вочы зямлі. Ну, не ўсёй жа зямлі. У возеры, якім вялікім яно ні было б, адбіваецца толькі кавалак неба, толькі прыбярэжны трыснёг і чарот, ды яшчэ прыбярэжная вёска, калі яна стаіць на ўзвышшы, край блізкага лесу. І не больш...

Фізікам такая лірыка — смешная нікчэмнасць. Вочы — азёры? Электронныя тэлескопы, радары, скіраваныя ў Сусвет, эхалоты, нацэленыя ў глыбіні мора і зямлі, — вось гэта сапраўдныя вочы і вушы атамна-індустрыяльнага веку. Глабальная панарама, высокі замах! Але ўявіш усё гэта — і чамусьці робіцца няўтульна. У вачах павінна высвечвацца душа. А тут бяздушныя свярдзёлкі, якія па зададзеных праграмах свідруюць космас і нетры.

Катэгарычны падзел людзей (найперш інтэлігенцыі) на лірыкаў і фізікаў — ад максімалізму. Ці мала сярод фізікаў "лірыкаў", а сярод лірыкаў "фізікаў"? І ўсё ж такі падзел існуе. І не толькі ў элітным асяроддзі грамадства, а і ў розных сацыяльных пластах. Духоўны, псіхалагічны падзел.

А можа, вочы часу пад купаламі храмаў? Можа, гэта вочы Збавіцеля? Толькі хто бачыў Яго вочы? Тыя, што глядзяць на нас з абразоў, — плод адвольнага ўяўлення іканапісцаў. Нікому не дадзена да Прышэсця Хрыстовага сузіраць Яго вочы і твар. У вачах жа малельцаў вы не знойдзеце адбіткаў і прыкмет часу. У вачах малельцаў — ці слёзная мальба, просьба і закліnанні, ці хвала Усявышняму.

Дый і ўвогуле ў храмах, як гэта ні крамольна гучыць, не ўсё прыстойна. Хрыстос хадзіў у лахманах, а нашы пастыры апранаюцца ў парчу, тканую золатам. Брыльянты, рубіны, ізумруды ім таксама даспадобы. Тут дарэчы прывесці споведзь (а хутчэй крык душы) былога свяшчэнніка, апублікаваную адной з газет: "Тры гады таму я расчараваўся ў веры і вярнуўся да мірскога жыцця. Хоць, здавалася б, грэх было скардзіцца. Прыход мой хоць і не вылучаўся памерамі, але і бедным не лічыўся. Жыхары нашага гарадка мяне прывячалі, ахвяравалі на храм, колькі беднасць дазваляла. Так працягвалася да часу, пакуль не сутыкнуў лёс бліжэй з маім епархіяльным начальствам. Убачыў раздольнае жыццё гэтых "манахаў". Дамы ў іх — поўныя чашы. Такія віны і стравы я і ў сне сабе ўявіць не мог. Аднойчы асцярожна пацікавіўся, ці не перашкаджаюць яго прасвяшчэнству плоцевыя радасці служыць Богу? Дык епіскап (не хачу называць яго імя) на чарговай разгульнай "вячэры" прызнаўся, што жыве як душа жадае, таму што на райскія шаты не спадзяецца і ў тагасветнае жыццё не верыць. Як мне было пасля гэтага ў храме слухаць яго няшчырыя пропаведзі? Зразумеў я тады, што няма ў саміх вярхоўных служкаў царквы веры ў тое, што яны абяцаюць народу".

Маральны партрэт іерархаў царквы тут выпісаны знутры — і яму верыш, гэтаму партрэту, за ім наяве бачыш тое, пра што здагадваешся, адчуваеш інтуітыўна. Але вось гэта: "Тры гады таму я расчараваўся ў веры...". Лёгкая ж, відаць, была вера. Верыў у Хрыста Збавіцеля, у яго вучэнне, у яго прышэсце, а расчараваўся, бачыце, таму, што надзелены высокім царкоўным санам непасрэдны начальнік не верыць ні ў Бога, ні ў чорта.

Як гэта нагадвае нашы свецкія справы! Колькі дзесяцігоддзяў з Крамля і з нашага беларускага ЦК гучалі заклікі верыць у прышэсце камунізму, які забяспечыць усім-усім царства Свабоды, Роўнасці і Братэрства, царства дабрабыту і душэўнай узнёсласці. Заклікалі — а самі не верылі. Хоць жылі то яны лепш, чым пры абяцаным народу камунізме — у раскошы, гулянках, паляваннях, заляцаннях і ўсім астатнім, пра што простаму люду і не снілася. Чаго ім бракавала, дык гэта душэўнага спакою. Таму яшчэ задоўга да распаду звышдзяржавы яны пачалі рассоўваць па замежных і мясцовых схованках золата, валютныя запасы, грошы, каб, калі сціхне подых навальніцы, прыбраць усё гэта ва ўласныя рукі, у рукі сваіх дзетак, унукаў, іншай радні. І прыбралі, прыгарнулі, прысвоілі. І зноў жывуць яшчэ ў большай раскошы. І зноў займаюць высокія пасады, аселі на цёплыя месцейкі. І зноў нас вучаць, **заклінаюць** верыць, выдумляюць міфы, загадваюць намагацца, ісці наперад да мэты... Да якой мэты — і самі не ведаюць. Не відаць святла ў канцы тунеля. Морак ахутаў былыя ідэі, а новых няма.

Што рабіць у такіх выпадках народу? Прыстасоўвацца, выкручвацца, адракацца ад веры ў ісціну і справядлівасць? Укленчыць перад пярэваратнямі? Змяшаць у адну кучу, як гэта зрабілі вярхі, улазячы ў капіталізм і дзікі рынак, адвечныя паняцці дабра і зла? Вялікі Пушкін закончыў сваю трагедыю "Барыс Гадуноў" шматзначным папярэджаннем: "Народ маўчыць" (безмолствует). Менавіта папярэджаннем. Сэнс яго гэткі ж, як і ў прамове Цыцэрона, скіраванай супроць Каціліны: "Маўчыць, але гаворыць". Моўчкі гаворыць, пацвярджаючы справядлівасць выгнання. Моўчкі гаворыць, але мае намер не моўчкі рабіць.

Вочы веку, вочы нашага часу — гэта вочы народа. На вачах народа адбываюцца ўсе падзеі, нацыянальныя ўзлёты і падзенні, перамогі і паражэнні, лагоды і катаклізмы. Дый народ жа не староннi сузіральнік. Ён у цэнтры падзей, на яго плячах цяжар гістарычнай хады. Літаральна ўсе перыпетыі гэтай хады крок за крокам, этап за этапам фарміруюць душу народа, душы людзей. І менавіта душа, а не што іншае, свеціцца ў вачах, выпраменьвае праз іх сваю сутнасць.

Зазірнуць у вочы аднаго чалавека проста. І зразумець яго існасць, спазнаць яго душэўны стан можна — трэба толькі ўмець чытаць выраз вачэй. Складана, але можна.

Зазірнуць жа ў вочы народа, а праз гэта спазнаць яго агульную душу, нацыянальную адметнасць, душэўны стан у канкрэтны момант — неверагодна складаная задача. Нацыя мае шмат агульнага, гэта так. Але ж кожны члавек сам па сабе нечым адметны. Кожны — асоба.

Колькі разоў тэлебачанне паказвала твары беларускіх гасцей на Алімпійскіх гульнях у японскім Нагана. Буйным планам твары — буйным планам вочы. У вачах іскрылася то захапленне, то расчараванне. І крыўду, і гнеў, і радасць можна было прачытаць у гэтых вачах. Адным словам, жывыя вочы, вочы быццам бы прадстаўнікоў здаровай нацыі, вочы людзей з характарамі, страсцямі, задаволеных жыццём і сваім месцам у жыцці.

А вось тых бабулек-пенсіянерак, што сядзяць на халоднай каменнай падлозе ў падземных пераходах — адна малітоўна склаўшы на грудзях рукі, другая трымаючы ў руках крыжык з распяццем, — тэлебачанне паказваць не любіць. Не ўпісваюцца яны ў бадзёрую мелодыю нашага тэлебачання. А от даць бы побач кадры (нават без каментарыяў) з Нагана і падземнага перахода — і выразна праявілася б распластаванне нашага грамадства.

Гэтыя бабулькі — нібыта фарпост. За іх прыгнутымі плячамі — амаль трэцяя частка жыхароў Беларусі, якія жывуць за рысай беднасці. Напісаў "жыхароў" і засумняваўся. Жыхар — ад слова "жыццё". Гэтыя ж не жывуць, а, няведама як існуючы, дажываюць.

Як злучыць выраз вачэй тых, што свяціліся на экранах тэлевізараў, і гэтых, пагляд якіх увогуле пераняць немагчыма, бо сядзяць яны, апусціўшы долу галовы і хаваючы вочы. Падкажыце адказ, людзі!

Што можна прачытаць у вачах міліцыянтаў, якія шэсць гадзін у сутарэнні Кастрычніцкага райаддзела міліцыі горада Мінска катавалі чалавека, выбіваючы прызнанне ў злачынстве, да якога той не меў ніякага дачынення. Проста жорсткасць? Не, тут, апроч жорсткасці, ёсць нешта іншае, сфарміраванае подыхам нашага часу.

У адну з вясковых школ Барысаўскага раёна прывезлі дарунак з Германіі — прадукты, пісьмовыя прыналежнасці, тканіну. Уначы свае ж вяскоўцы ўсё гэта вынеслі са школы — абакралі ўласных дзетак. Жыхар Бараўлян "абчысціў" кватэру роднага брата, нават мэблю ўмудрыўся вывезці. У Салігорску раз'юшаная дачка гэтак вымесіла бацьку бакі, што адбіла ўсе вантробы, і ён сканаў... Скажаце, гэта маральныя анамаліі, і няварта ў іх шукаць адлюстраванне тэндэнцый часу. Калі б то такія і яшчэ страшнейшыя здарэнні былі анамаліямі! Ці не відавочна, што жорсткасць, садызм, гвалт і насілле становяцца ледзь не нормаю нашага жыцця, мы прывыкаем да іх. А калі б то былі і анамаліі, дык як іх не ўлічваць, асэнсоўваючы плынь часу, стан грамадскага жыцця, змены ў народным характары.

Хто-ніхто схільны тлумачыць ломку нораваў, змену маральных арыенціраў, нізкі маральны стан грамадства і ўсе астатнія згрызоты і напасці нашай беднасцю. Беднасць увогуле не загана (так вызначыў класік), але ж яна і не ўпрыгожвае жыццё. Калі чалавек б'ецца за кавалак хлеба і няўпэўнены, што будзе гэты кавалак у яго дзяцей заўтра, дык яму не да ідэй, не да палітыкі. Дзеля хлеба надзённага паступаюцца і маральнымі прынцыпамі. Але ж не такая ўжо бедная наша зямля. Калі да яе як след прыкласці рукі і паставіцца з любоўю, дык яна вунь як аддзячыць. Толькі каб ніхто не замінаў увішнасці гэтых рук.

А можа, у нашых бядот больш глыбокія карані, ад якіх і прабіваюцца, буяюць дзікарослыя атожылкі? Можа, варта мысленна зазірнуць у вочы мінулых стагоддзяў, спазнаць глыбінныя зрухі і катаклізмы, самую гістарычную хаду таго часу? Што там?

А там доля і нядоля беларусаў.

Доля відавочная. У 16—17 стагоддзях, нягледзячы на ўсе складаныя гістарычныя перыпетыі, завяршаецца працэс утварэння беларускай народнасці з уласцівымі ёй асаблівасцямі ў мове, культуры, побыце. А якія імёны сыноў беларускай зямлі: Францішак Скарына, Сымон Будны, Лаўрэнцій і Стафан Зізаніі, Васіль Цяпінскі, Сімяон Полацкі, Пётр Мсціславец. Гэтыя гіганты эпохі Адраджэння зрабілі вялікі ўплыў на развіццё не толькі беларускай, але і ўсёй еўрапейскай духоўнасці і культуры. "Песню пра зубра" Міколы Гусоўскага чыталі і перачытвалі на лацінскай і іншых мовах. Імя Кастуся Каліноўскага стала сімвалам барацьбітоў за волю і долю, за нацыянальнае вызваленне.

Але і нядоля таксама відавочная. На працягу стагоддзяў беларусы не мелі ўласнай дзяржаўнасці. А без суверэннай дзяржавы, акрэсленай тэрытарыяльнай цэласнасці народнасць не магла сфарміравацца як нацыя і звацца нацыяй.

Вось такі гістарычны парадокс: па нацыянальнасці беларусы, але без утварэння вышэйшай гістарычна-грамадскай супольнасці — нацыі.

Беларусы спазналі прыгнёт з захаду і ўсходу. Беларусаў паланізавалі і русіфікавалі. Нам навязвалі польскую і рускую нацыянальныя ідэалогіі. Але як можа адзін народ прыняць, як вышэйшую духоўную і палітычную каштоўнасць, ідэалогію іншага народа, іншай, няхай сабе ў сэнсе дзяржаўнасці больш арганізаванай, нацыі? Тым болей, што гэта ідэалогія навязвалася скрытым ці адкрытым гвалтам. Беларусы ў сваёй большасці, унутрана, а часам і напрасткі пратэстуючы, чужую ідэалогію не прынялі, але вымушаны былі рабіць выгляд, што падпарадкоўваюцца.

Вось такое атрымалася раздваенне: у глыбінях душы — супраць, у знешніх праявах — за. Раздваенне, якое працягвалася стагоддзі, паступова абарачвалася абыякавасцю. Дык ці не абыякавасць сёння прасвечваецца ў нашых вачах?

Як яе пераадолець, нашу галоўную нацыянальную загану — абыякавасць? Толькі праз прыярытэт нацыянальнай ідэі, нацыянальнай ідэалогіі. Ідэя суверэннай дзяржаўнасці можа абудзіць розумы і натхніць сэрцы. У нас пакуль толькі дэкларавана ўтварэнне самастойнай дзяржавы. Мы, яшчэ як след не сфарміраваўшыся і не аб'яднаўшыся, спяшаемся зноў размыць свае граніцы. І ўвёўшы двухмоўе, паступова адракаемся ад роднай мовы. А ці можам мы стаць цывілізаванай адзінай нацыяй, загубіўшы матчыну мову?

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

— У футболе ўсё ад ног уверх. У нас іншае вымярэнне. Прайгралі, бо падвёў другі паверх, — сказаў на разборцы трэнер. — Кумпал — верны наш паслугач, няхай па ім мяч нясецца наўскач. А хто не прымае наш прыярытэт, хай ідзе ў баскет. Гульня там другая — галавой там не забіваюць.

●

Калі пераходзілі на зімовы час, у тэрмін не перавялі стрэлкі на вежавым гадзінніку, і адразу ён стаў нікому непатрэбны. Дык жа стрэлкі не адставалі, а апярэджвалі час! І гэта лішняе... Бедныя летуценнікі.

●

— Генерал-лейтэнант Жыдаў слухае, таварыш Сталін. — Які яшчэ Жыдаў, генерал? Недагледзелі мы з прозвішчамі і назовамі, з поля зроку выпусцілі. Прапойск вунь аслабанілі, дык што нам цяпер дывізіі Прапойскімі называць? Яны і так там, мабыць, не перасыхаюць. Хай лепш пра славу савецкую дбаюць, назавём гэты горад Слаўгарадам, паэтаў папросім услявіць яго. Ці не так, генерал-палкоўнік Жадаў?

●

Упершыню за шмат гадоў каля дзвярэй натоўп. Яго чакалі мы даўно, і мо прыйшло выратаванне? Не. Хоць усплыў на пару дзён патоплены "Тытанік", не выратуе ён кіно, яно ідзе на дно (да паказу ў Мінску "Тытаніка" Кэмерона).

●

Прысніў неверагоднае. За ноч Ленін на ўсіх помніках у гарадах і мястэчках павярнуўся ў іншы бок, зашпіліўся, падняў каўнерык, усунуў рукі ў кішэні. Цуд! А ў краіне хоць бы што змянілася.


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ —** *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ —** *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП —** *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2332-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2332-525
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2332-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-98[illegible]
паэзіі і прозы — 2332-2[illegible]
музыкі — 2332-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2332-462
навін — 2332-462
мастацкага афармлення — 2332-204
фотакарэспандэнт — 2332-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 4275
Нумар падпісаны ў друк 29.4.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 2345/Г

Д [illegible] 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 [illegible] 11 12